Кола дзён

***Большасць людзей, пэўна, па натуры сваёй аптымісты. Заўважце, святкуем мы сустрэчу Новага года, а не развітанне са старым. І кожны раз не пакідае нас надзея, што наступны год будзе лепшым, чым мінулы. Дык хай жа і сапраўды будзе так! У чарадзе апошніх гадоў год мінулы быў, бадай, годам няспраўджаных надзей, годам таптання на месцы, годам не ўмацавання чашага суверэнітэту, а гандлявання ім... Не прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, не ўведзена нацыянальная валюта, не вызначаны час датэрміновых выбараў... Такіх «не» рознай ступені значнасці можа набрацца не адзін дзесятак. І таму мы без жалю развітваемся са старым годам і з нязменнай надзеяй узіраемся ў год наступны: якім ён будзе, што прынясе нам? Адны трывогі і расчараванні, альбо... Альбо пакінем мы сваю правінцыйнасць і памяркоўнасць ў годзе мінулым і пачнём, нарэшце, будаваць сваю дзяржаву — роўную сярод роўных!***

## АБЯЦАННЕ ТЫДНЯ

Калі верыць пану Кебічу, то на пачатку наступнага года Беларусь чакаюць р-рэвалюцыйныя перамены ў эканоміцы. Ужо ў першыя дні яго павінна з'явіцца беларуска-расійская палітычная заява, адным з асноўных пунктаў якой будзе аб'яднанне грашовых сістэм дзвюх краін. Што гэта будзе азначаць на справе, патлумачыў у сваім інтэрв'ю «Звяздзе» старшыня Нацбанка Беларусі С. Багданкевіч: «Першапачаткова Расія магла б даць нам 1/3 ад той сумы, якую мы выдаём з банкаў за месяц на зарплату і пенсіі. І мы выдавалі б у першы ж месяц працэнтаў 30 зарплаты расійскімі рублямі. Усе астатнія «зайчыкі» былі б роўныя расійскім рублям... Пройгрыш з боку Расіі тут, вядома, будзе. Але калі яна пойдзе на гэта — то ў імя пэўных уласных інтарэсаў. Што да нас — часовая выгада, зразумела, будзе. Але толькі часовая. Праз месяц-другі вернуцца тыя ж цяжкасці, што і раней былі». І яшчэ: «Патрэбна палітычная воля і палітычная ўступка з боку Расіі. Гэта не ад нас залежыць... Усё залежыць ад першых асоб Расіі. Чарнамырдзін падтрымлівае, Фёдараў таксама». Тут напрошваецца адразу некалькі высноў. Па-першае, усе гэтыя «пражэкты» пісаны віламі па вадзе. Прыгадаем, лідэры Расіі абяцалі з 15 снежня зняць мытныя бар'еры на мяжы з Беларуссю, але так і не зрабілі гэта. Па-другое, і тут мы зробім ЦЫТАТУ ТЫДНЯ з «Советской Белоруссии»: «Следует осознать, что есть объективные законы рыночной экономики, есть объективные долговременные интересы России. И какие бы обещания ни давали Ельцин, Черномырдин, Гайдар, Шохин в пылу политической борьбы, если эти обещания противоречат законам и интересам России, они не будут выполнены» /«О провинциализме государственной политики», В. Хоревский, 29 декабря/. І па-трэцяе, навошта нам гэты самападман, навошта нам гэтыя «ўступкі», якія нясуць толькі «часовыя выгоды», а па вялікім рахунку — нічога, акрамя ператварэння ў расійскую калонію?

## САМІТ ТЫДНЯ

У Ашгабаце, у чарговы раз «чрезвычайно плодотворно», прайшла сустрэча кіраўнікоў дзяржаў СНД. Беларусь на ёй прадстаўляў В. Кебіч. Падпісаны яшчэ 21 «чрезвычайно важный» дакумент. Урадавыя сродкі масавай інфармацыі ў захапленні ад вынікаў сустрэчы, незалежныя — падкрэсліваюць, што была яна шараговай і нічым не адметнай.

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

27 снежня Саўмін Беларусі прыняў шматпакутную пастанову «Аб стаўках і парадку выплаты аўтарскага і іншых відаў узнагароджання за выданне твораў навукі, літаратуры і мастацтва, за мастацка-графічныя і фатаграфічныя работы для друку і за матэрыялы, перадаваемыя па тэлебачанні і радыё». Дзеянне пастановы распаўсюджваецца на плацяжы, права на атрыманне якіх з'явілася пасля І кастрычніка 1993 года. З поўным тэкстам пастановы мы пазнаёмімся пазней.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

67,3 тысячы беспрацоўных налічвалася ў Беларусі ў канцы лістапада. З пачатку года колькасць іх павялічылася больш чым у два разы. Гэта адзін з самых высокіх тэмпаў росту сярод краін — былых рэспублік СССР. Дапамогу ад дзяржавы атрымліваюць звыш 32 тысяч беспрацоўных.

## «АДМЕТНАСЦЬ» ТЫДНЯ

Сярод магілёўскіх прадпрымальнікаў, аказваецца, найбольшым аўтарытэтам карыстаюцца былыя партыйныя і савецкія работнікі. Абласны Саюз прадпрымальнікаў узначальвае былы першы сакратар Магілёўскага ГК КПБ, а зараз упраўляючы філіялам акцыянернага банка «Поиск» Э. Шведаў. Не застаўся без пасады і былы мэр Магілёва С. Габрусеў: на нечарговай канферэнцыі прадпрымальнікі вобласці выбралі яго сваім кіраўніком.

## ЗДАРЭННІ ТЫДНЯ

Апошнія дні года азмрочаны цэлым шэрагам трагедый, што адбыліся на прадпрыемствах Беларусі. У Мінску на заводзе аўтаматычных ліній у ліцейным цэху адбыўся магутны выбух, ад якога абваліліся некаторыя сцены і столь. Двое рабочых загінулі, шмат параненых... Прычыны аварыі высвятляюцца. А ў Наваполацку на мясцовай прыпарачнай станцыі рабочыя «знайшлі» цыстэрну, як ім падалося, са спіртам. І адбылася трагедыя. Ад атручвання метанолам двое чалавек памерлі, каля трыццаці шпіталізаваны...

## ПРЫЧАСЦЕ ТЫДНЯ

Пасля заканчэння сесіі ВС Беларусі, перад ад'ездам дахаты, кожны народны дэпутат, як гэта прынята ў наменклатуры, мог атрымаць святочны заказ, у які ўваходзілі, па паведамленні БелАПАНа, пляшкі «Сталічнай», «Савецкага шампанскага», іспанскага віна, а таксама кіло шакаладных цукерак. Каштавала гэтае багацце 27 тысяч. Не будзем іранізаваць: дэпутаты таксама людзі.

**P. S.** З новым годам!

Кола дзён

З нагоды

# З ЯКОЙ РАСІЯЙ САЮЗНІЧАЦЬ?

Ад сустрэч лідэраў краін СНД ужо даўно не чакаюць нічога сенсацыйнага. Звычайна на іх канстатуецца, што дамоўленасці, прынятыя на папярэдняй сустрэчы, не выконваюцца, і прымаюцца новыя дакументы, якія таксама выконвацца не будуць. І гэтым разам паўтарылася тое ж самае. На сустрэчы ў Ашгабаце гаворка ішла галоўным чынам пра эканамічны саюз у межах СНД і «коллективную безопасность». Прынятыя запланаваныя дакументы, як і ўсе ранейшыя, — дэкларатыўнага характару. Бо інтэграцыю ў расійскім разуменні не могуць прыняць іншыя краіны, а ўспрымаць блізкае замежжа як раўнапраўных партнёраў нязводльная Расія. Расія ігнаруе Статут СНД і двухбаковыя пагадненні з краінамі Садружнасці, калі справа датычыць яе эканамічных або палітычных выгод. Тое ж робяць і іншыя члены СНД, час ад часу «забываючы» расплаціцца з партнёрамі за энерганосьбіты, сыравіну, гатовую прадукцыю. Для гэтага хаўрусу беларусы занадта дысцыплінаваныя і сумленныя.

СНД трымаецца не на агульнасці мэт, а на невырашальнасці праблем, што засталіся пасля распаду СССР. Так часам людзі, скасаваўшы шлюб і аформіўшы юрыдычна развод, усё ніяк не могуць размяняць кватэру і раз'ехацца. А тут яшчэ колішні «глава сямейства» стварае штучныя перашкоды цывілізаванаму «шлюбаразводнаму» працэсу, распачатаму ў Віскулях. Нехта ўсё ніяк не можа згадзіцца, што Белавежскія пагадненні паставілі крыж на Савецкім Саюзе; усё песціць думку, што СНД — база для адраджэння СССР альбо Расійскай імперыі /што, па сутнасці, адно і тое ж/; эканамічны саюз і «коллективная безопасность» разглядаюцца як першыя крокі ў гэтым напрамку.

Гэтая небяспечная настальгія па СССР распаўсюджана сярод люмпенаў усіх сацыяльных груп Беларусі. За саюз з Расіяй, які прывядзе да скасавання Беларускай дзяржаўнасці, прагаласуюць абедзвюма рукамі ветэраны КПСС, якіх ніхто болей не кліча на піянерскія сходы; так званыя інтэлігенты, што прывыклі лічыць сябе адносна «тубыльцаў» вышэйшай /маскоўскай/ расай, для якіх беларушчына — не болей чым «причуды местных амбиций»; нарэшце, тыя бомжы-валацугі, якім пры СССР на гарэлку хапала, а цяпер — не.

Але ва ўладных структурах Беларусі гэтыя люмпенскія трызненні ўважаюцца як волевыяўленне беларускага народа. Ці не на самым высокім узроўні сцвярджаецца, што ўлады Беларусі павінны кіравацца ў сваёй дзейнасці рашэннямі «Конгресса народа Белоруссии», а рашэнні ж тыя скіраваны на скасаванне беларускай дзяржаўнасці.

Урад і большасць у Вярхоўным Савеце можна зразумець. Самае большае, на што яны здольныя, — гэта быць рэтранслятарамі загадаў, але не генератарамі ідэй. Адсюль хваравітая цяга пад «моцную руку». Пад «руку Масквы». Акрамя таго, ператварэнне нашай суверэннай дзяржавы ў расійскую губерню вызваліла б іх ад адказнасці за бяздарна /калі не злачынна/ змарнаваны час і матэрыяльныя рэсурсы Беларусі, давядзенне абсалютнай большасці насельніцтва да жабрацкага стану.

Ды толькі далучэнне да Расіі вырашае праблемы ўрада, але не Беларусі і не беларускага народа. У Расіі, як і ў нас, стаяць без энергіі і сыравіны заводы, і беспрацоўе — такая ж расійская рэчаіснасць, як жабракі на вуліцах і халодныя кватэры, перабоі з вадою і электраэнергіяй. Дык з якой трасцы Расія кінецца ратаваць нас, маючы столькі ўласных праблем? Тым болей, што моцная Беларусь можа ў перспектыве стаць палітычным апанентам і эканамічным канкурэнтам Расіі.

Саюз з Расіяй сённяшняй можа стаць для нас палітычным Чарнобылем. Бо маючы патрэбу ў «предпольи» на выпадак вайны, патрэбу ў «акне ў Еўропу», у бяспошлінным транзіце, наш усходні сусед будзе імкнуцца затрымаць наш эканамічны рост, пазбавіць Беларусь любых форм самастойнасці, зрабіць паслухмянай калоніяй.

Я кажу пра сённяшнюю Расію, якая на выбарах прагаласавала за Жырыноўскага. Але ці можа быць Расія іншай?

На расійскі менталітэт моцна ўплывае геаграфічны фактар. Гэта калісьці адзначаў Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі. «Широк человек, я бы сузил», — пісаў пра расейцаў наш вялікі зямляк. І сёння расейцы пакутуюць не столькі ад бязладдзя ў іхняй краіне, колькі ад таго, што з-пад маскоўскай юрысдыкцыі выйшлі чатырнаццаць рэспублік колішняга СССР. Але працэс разбурэння імперыі — неабарачальны. Давядзецца Маскве лічыцца і з натуральнымі інтарэсамі шматлікіх народаў Расійскай Фэдэрацыі. Магчыма, давядзецца ў чымсьці «сузиться», пасунуцца шырынёй на карысць велічы.

З такой Расіяй і Беларусь можа мець нармальныя стасункі. А пакуль нам варта трымацца нейтралітэту.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# РАЗВАГІ НА ТЭЛЕПРЫЗБЕ

***Слон, Моська, Жырыноўскі, Сувораў... Гэтыя ды іншыя метафарычныя і гістарычныя персанажы склалі змест праграмы «Дыялог» снежаньскім суботнім вечарам. На тэлепрызбе гутарылі прафесійны камуніст былога Савецкага Саюза, тэарэтык-баталіст у змаганні з буржуазнай сацыялогіяй, аксіялогіяй ды іншымі праявамі імперыялізму, шматвопытны практык па стварэнні РКП І. Антановіч і не менш вопытны тэлежурналіст І. Дылеўскі.***

Зыходзячы з тактычных меркаванняў, І. Антановіч спрабуе прыўлашчыць вуха тутэйшага чалавека фактам з'яўлення на Беларусі «незалежнага эксперта» ў яго асобе, якому наканавана прадбачыць будучыню, прадугадаць гістарычны лёс не толькі Беларусі, але і ўсёй «великой Родины», а то і ўратаваць яе. Праўда, спробы прафесара прысарамаціць расейскіх дэмакратаў за пройгрыш на выбарах не здымае адчування хвасцізму вячэрняе гаманы, бо яна напамінала гутарку людзей, якія імкнуцца даваць ацэнку падзеям сённяшняга дня, зыходзячы з пазаўчарашніх сюжэтаў. Адзінае, што заслугоўвае ўвагі ў іх гутарцы, дык гэта «окраинный» сіндром камуністычна-імперскага разумення гісторыі і перспектыў Беларусі. Здавалася б, камуністычна-кіраўнічая верхавіна нашага грамадства ўжо заслупкавала ўсе пазіцыі вернападданасці ўсходняму суседу. Аднак жа — не! Дастаткова толькі прымяніць метады і формы сафістычнай эксплуатацыі логікі /за што і ўзяўся Антановіч/ як зброі, скіраванай супроць здаровага сэнсу, як адразу адкрываюцца нявыкарыстаныя магчымасці. На пытанне «У чым прычына поспеху Жырыноўскага?» адказ быў у стылі ўсёведаючага партпрапагандыста /ад квадратна-гнездавога спосабу да формаў дыктатуры пралетарыяту/. Аказваецца, расейцы аддалі перавагу «сыну юрыста» не столькі з прычыны глыбокага сацыяльна-эканамічнага крызісу ў Расіі, як з-за таго, што дэмакраты не змаглі наталіць згаладалую душу рускага чалавека перспектывамі аднаўлення «великой Родины». Так, шматвекавая велікаруская імперская «пасяўная» давала і будзе даваць шавіністычную рунь і пры сацыялізме, і пры яго адмаўленні, але палітычныя гульні вакол такіх настрояў робяць мала гонару як расейскім, так і нашым прэтэндэнтам на ўладу.

Пашкадаваўшы «поруганную Родину», Іван Іванавіч з прафесарскай асацыятыўнасцю заўважыў, што Уладзімір Вольфавіч адкрыў расейцам вочы на тое, што слон абложаны гаўклівымі моськамі, якія слану даўно надакучылі. У рэальнасці слон — гэта, безумоўна, Расія, а моські — гэта краіны блізкага замежжа. Думаецца, што наш «дзед Усявед» проста забыўся на тое, што выступае перад уласным народам, інакш выбіраў бы параўнанні...

Далей тэлежурналіст як загартаваны баец «ідэалагічнага фронту» напрамую падкідвае тэст на вернападданства: звяртаецца з пытаннем, а ці не ўпісваецца надыходзячае святкаванне юбілею паўстання 1794 г. на Беларусі ў абойму «поруганной чести» рускіх, тым больш, што ініцыятыву праявіў нейкі «ананімны аргкамітэт». Па-першае, тут зроблена спроба наўмысна ўвесці тэлегледача ў зман, бо Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання ніколі ананімным не быў, усе сябры яго публічна названы ў друку. А вось тое, што тэлежурналіст хоча быць больш «іхнім» за самога І. Антановіча, нeяк бянтэжыць.

Суразмоўцы пагадзіліся на тым, што зносіць помнік Сувораву, скасоўваць найменні «сувораўскіх» вучэльняў, калгасаў, установ, вуліц недапушчальна. Падставай для гэтага вываду з'яўляюцца ўяўленні аб нейкай «адзінакроўнасці» рускіх і беларусаў. Мо ўдзельнікі «вячорак» ведаюць сакрэт аднясення народаў да «адзінакроўнасці» сілаю вызначэння хімічнага складу крыві? Да такога не змог дадумацца нават сам Уладзімір Вольфавіч, бо за эталон «рускасці» ён бярэ куды больш даходлівы крытэрый — блакітнавокія бландзіны.

У цэлым адчувалася, што ўсе «выратавальнікі» Расіі — і той, які званне генералісімуса атрымаў за па тапленне ў крыві паўстання Касцюшкі, і той, хто хоча трансфармаваць хваравітае трызненне часткі «вялікага народа» ў рэальнасць, спатрэбіліся І. Антановічу толькі ў якасці ўступу для абгрунтавання ўрадавай канцэпцыі выхаду з крызісу. З важнасцю ўручэнца партбілетаў ім дорыцца індульгенцыя сп. Кебічу толькі таму, што іншыя палітычныя сілы Беларусі нібыта не маюць, ды і не могуць мець акрэсленых праграм стабілізацыі. Змест «Дыялога», такім чынам, напамінаў аксіяматычныя ўяўленні старажытных плямёнаў, дзе чалавек нічога не значыў настолькі, што шараговым супляменнікам адмаўлялася нават мець уласныя снабачанні. Існуюць толькі «вялікія сны», якія бачыць правадыр і шаман племені, і сэнс іх вельмі важны для [illegible] усіх. З тэлешоу вынікала, што ў беларускім варыянце «вялікае снабачанне» можа належаць толькі сп. Кебічу, а што тычыцца шаманскіх тлумачэнняў, то, безумоўна, вакансія занята... Грамадству ж застаецца толькі «внимать»...

**Мікола АНЦЫПОВІЧ,**
**дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі**

# НАВАГОДНІ КІРМАШ





У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася выстава-продаж «Навагодні кірмаш», створаная майстрамі Глыбоччыны. Ганчарства, пляценне, разьба па дрэве, вышыўка, коўка, жывапіс — такі няпоўны пералік прадстаўленага Глыбоцкім домам рамёстваў і народнымі майстрамі клуба «Крыніца». Асабліва ўразілі наведвальнікаў творы Мікалая Калакольцава, славутага ў вобласці разьбяра. Ягоныя выявы казачных герояў блізкія да асэнсавання спрадвечных паганскіх матываў у нашай культуры.

*На здымках: у час свята.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Зварот

## МЫ — НЕЙТРАЛЬНАЯ ДЗЯРЖАВА, НАМ ПАТРЭБНЫ ГАРАНТЫІ

**Выканаўчая Рада Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў /БЗВ/ звярнулася да народа Беларусі, да Вярхоўнага Савета рэспублікі з заявай, у якой выказвае сваю заклапочанасць поспехам на выбарах у Расеі партыі фашыстоўскай арыентацыі на чале з Жырыноўскім.**

Спадзяванні на тое, што пасля выбараў Расея сапраўды стане гарантам міру і стабільнасці ў нашым рэгіёне, як яна тое мкнулася дэкляраваць, зараз таюць як вясновы снег ад гарачых «прароцтваў» таго ж Жырыноўскага. У такіх варунках Беларусь вельмі лёгка можа быць уцягнута ў міжнародны канфлікт і, не дай Бог, — ядзерны. Таму БЗВ заклікае народ Беларусі мацаваць дзяржаўнасць і незалежнасць сваёй краіны. Вярхоўнаму Савету прапануецца паскорыць вывад расейскіх войск з тэрыторыі Беларусі, патрабаваць ад Расеі як мага хутчэй забраць сваю ядзерную зброю; спыніць раскансервацыю экалагічна небяспечнай станцыі папярэджання ракетнага нападу /СПРН/ каля Баранавічаў, якая таксама з'яўляецца мішэнню нумар адзін для ядзерных ракет, і, нарэшце, звярнуцца да міжнароднай супольнасці юрыдычна прызнаць наш нейтралітэт, — нам для выжывання патрэбны гарантыі, што мы не станем заложнікамі чарговых эксперыментаў вялікага ўсходняга суседа.

З пошты тыдня

## ПРАСЛАВУТАЯ ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ

11 лістапада Польшча адзначала сваё вялікае свята — Дзень Незалежнасці. Перадача першай праграмы польскага радыё, якую мне давялося паслухаць у гэты дзень, была ўрачыстай і цікавай. Біяграфія Пілсудскага, польскія ваенныя песні ад часоў Касцюшкі і да нашых дзён, патрыятычнае выхаванне польскай моладзі... Але пры ўсім гэтым знайшлася і тая праславутая лыжка дзёгцю, якая непрыемна ўразіла мяне, грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Гэта тая частка перадачы, дзе польскае радыё тлумачыла сваім слухачам, чаму і цяпер на беларускай зямлі адмоўна ацэньваюць баявую дзейнасць Арміі Краёвай падчас апошняй сусветнай вайны. Больш за ўсё мяне ўразіў каментарый нейкага пана, якога, здаецца, адрэкамендавалі як Цэзарыя Лявінскага. Ну што гэта за дзіўная рэч — беларускі нацыяналізм, пачаў свае разважанні пан Лявінскі. На Беларусі, маўляў, 1,5—2 мільёны палякаў, 2—3 мільёны расейцаў, яшчэ ўсялякія іншыя, ну і 2—3 мільёны беларусаў. Зрабіўшы такім чынам вялікае дэмаграфічнае «адкрыццё», вырашыў пан пакпіць і з беларускае мовы. Маўляў, размаўляюць на гэтай мове пераважна ў вёсках ад Гародні да Мінска, а за Мінскам Беларусь увогуле рускамоўная. У такіх варунках, на думку пана каментатара, ніякага беларускага нацыяналізму, канешне, няма і негатыўнае стаўленне да баявых подзвігаў АК ёсць толькі вынік дзейнасці камуністычных сіл Беларусі. І ні слова пра тое, што АК змагалася на беларускай зямлі не толькі з немцамі, але і з беларускім народам, ні слова і пра тое, як адмоўна ацэньваюць такую «баявую» дзейнасць АК у суседняй Жамойці. Побач з такім каментарыем польскае радыё перадало і невялікі фрагмент з цырымоніі адкрыцця помніка байцам АК у беларускай вёсцы. А я падумаў пра тое, што сапраўды прыязныя стасункі паміж беларускім народам і яго вялікімі суседзямі — Польшчай і Расеяй — павінны пачынацца не з усталявання на беларускай зямлі помнікаў карнікам АК або карнікам Суворава. Яны павінны пачынацца з выказаных самымі рознымі, адказнымі і неадказнымі прадстаўнікамі рускага і польскага народаў, дзяржавы якіх шмат вякоў праводзілі ў дачыненні да Беларусі каланіяльную палітыку эксплуатацыі і гвалту, пачуццяў спачування беларускаму народу і пакаяння перад ім.

**Уладзімір ТУНЯК,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук, дактарант Беларускага педагагічнага універсітэта**

# Жывём, верым, дзеім...

*Навагоднія інтэрв'ю «ЛіМа»*

***Якое свята — без сябрыны? Тым больш — Новы год... На навагоднюю сябрыну на свае старонкі мы запрасілі людзей не «ўлаўраных», але чынных, дзейных, захопленых сваёй справай — літаратурай, музыкай, тэатрам, гісторыяй... Яны невыпадкова трапілі ў поле зроку нашага аглядальніка, як то кажуць, «далі падставы», каб задаць ім пытанні.***

**Алена РАДКЕВІЧ, вядучая праграм радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная»:**

## «Я ПРЫХІЛЬНІЦА МУЖЧЫНСКАГА СТЫЛЮ Ў ПАЛІТЫЦЫ»



**— На працягу года вы шматкроць праводзілі гутаркі ў прамым эфіры з нашымі беларускімі палітыкамі, у тым ліку і з палітыкамі маладымі. Скажыце, спадарыня Алена, як вы лічыце, ці здольны нашы мужчыны ў палітыцы дасягнуць чагосьці сапраўды значнага, дзейснага, грамадска вартаснага? І на каго з цяперашніх палітыкаў палягае ваша «грамадзянскае» спадзяванне?**

— Ужо не першы раз мне задаюць сходнае пытанне, дыферэнцыруючы, чамусьці, і журналістыку і палітыку па полавай прыкмеце. Я ж лічу, што, насамрэч, і стыль у журналістыцы, і стыль у палітыцы падзяляюцца на мужчынскі і жаночы, аднак незалежна ад таго, хто яго прадстаўляе — мужчыны альбо жанчыны. Бадай, наадварот: у сучаснай практыцы нашых мужчын-палітыкаў найбольш выяўляецца «жаночы» — альбо нават я б сказала «бабскі» стыль. Мяркуйце самі: для каго больш уласціва псіхалогія, накшталт: «Ну каму мы патрэбныя...», ці: «Хто нас возьме, апроч...» і г.д. — псіхалогія, якую актыўна культывуе і насаджае большасць нашых парламентарыяў. Бязвольная гатоўнасць аддацца. Пад апеку альбо пратэктарат кагосьці мацнейшага — здольнага дзейнічаць і прымаць рашэнні. Дзяржава здабывае імідж недалужнае старое дзеўкі, якой «хаця б за брыдкага — абы замуж».

Якія кіраўнікі — такое і грамадства. Вось ужо і народ, стаміўшыся цікавацца грызнёй у Вярхоўным Савеце, енчыць, як панельная дзеўка, назіраючы бойку за яе некалькіх прэтэндэнтаў. Чакаць стамілася. Раздражнёная. Няважна ўжо, хто і пераможа — абы хутчэй хто-небудзь узяў! Вось вам і «бабская» псіхалогія цэлага грамадства — аб'екта, а не суб'екта гістарычнага працэсу.

Я прыхільніца іншага — мужчынскага — стылю ў палітыцы. І спадзяванні шчаснага лёсу Беларусі ўскладаю на палітыкаў глыбокіх, моцных, бясстрашных, якія не пічкаюць народ ўратавальнымі ілюзіямі і супакойлівымі мітамі. Яны паслядоўна кажуць праўду, якую плаксівая «грамадская думка» ахрысціла ў «экстрэмізм» і «радыкалізм». Насамрэч тое, што кваліфікуецца сёння толькі беларускім грамадствам як «экстрэмізм», — ёсць ясная ідэалогія ў чыстым і звязным выглядзе — пазбаўленая спадзеўкаў на інерцыю гісторыі, палітычную выпадковасць ці эканамічную непазбежнасць. Беларусь знойдзе апірышча ў духу, розуме і сіле. У мужчынскім пачатку.

Ну-тка, з трох разоў: адгадайце, каго з сённяшніх беларускіх палітыкаў я маю на ўвазе? На жаль, наяўны палітычны спектр робіць вельмі абмежаванымі варыянты адказу...

**Андрэй ДУДАРАЎ, акцёр Рускага тэатра Беларусі:**

## «Я ПРЫХОДЖУ І ІДУ З ТЭАТРА ВОЛЬНЫМ...»



**— «Каго» вы йгралі ў мінулым годзе з найбольшаю асалодаю: герояў «Чонкіна», Паніча,.. Андрэя Дударава? Як у вас са «свабодаю творчасці» /у сэнсе — свабодаю ад залатога цельца/?**

— Адкуль што артысты бяруць для сваіх роляў, дзякуючы журналістам, ведаюць усе, а я даражу кожнаю, нават самаю маленькаю роляю — у спектаклі «Дзялок» А. Талстога: Германія 30-х гадоў, паліцэйскі, усяго тры выхады... Яшчэ ў інстытуце вучылі, што эпізадычныя ролі мусяць быць запамінальнымі для гледача, але запамінальнасць падчас працы кудысьці хавалася і ў гэтым спектаклі адшукалася толькі на прэм'еры. Я ўзяў строй памераў на шэсць-восем большы, падклаў тлусцінкі, перацягнуўся папругаю ды выйшаў у наш закулісны калідор да вялікага люстэрка. Наш касцюмер Яніна Міхайлаўна ледзь не павалілася са смеху... Так, пад ейны смех, я і выскачыў на сцэну, і ў абсалютным ачмурэнні ўсё прадставіў гледачу. І трэба ж: зала была паўнюткая курсантаў мінскіх міліцэскіх школ! Яны дачакаліся мяне ля выхаду з тэатра і пацвердзілі, што славутую запамінальнасць у ролі я такі знайшоў...

Бліжэй за ўсё да майго сённяшняга светаадчування Паніч з «Раскіданага гнязда» Янкі Купалы. Гэтая роля з падмосткаў тэатра-студыі «Абзац» усё адно як паяднала маё сцэнічнае жыццё з пазасцэнічным, пазатэатральным. Мы калі працавалі над гэтым спектаклем, дык згадвалі падабенства Паніча ды Лапахіна з «Вішнёвага саду» А. Чэхава: Паніч малады, імпэтны, працавіты пераўтваральнік жыцця, перадусім з'явіўся не са злом, не на грабеж сям'і Зяблікаў, бо становішча, грошы, даброты для яго — не самамэта. Паніч — дбайны, разумны гаспадар на сваёй зямлі, на сваім месцы, ён справу робіць з адчуваннем свайго часу... Ролю перастрэла маё прыватнае жыццё. Яшчэ ў інстытуце я вырашыў, што сама творчасць і матэрыяльная залежнасць ад яе вынікаў не павінны замінаць мне. Аказалася, што сіл ды здольнасцей хапае і на тое, каб займацца бізнесам, — маё прадпрыемства «Цэнтрабел», так бы мовіць, гарантавала мне жаданую свабоду творчасці, а з цягам часу, мяркую, можа даць падставу для ўвасаблення ўласных уяўленняў пра тое, якім мусіць быць тэатр сёння... Я прыходжу і іду з тэатра вольным, я нічым не звязаны, акрамя моцнай унутранай патрэбы выходзіць на сцэну. Дарэчы, хутка — чарговы выхад у новай ролі: прэм'ера спектакля «Ад'ютант-ка яго вялікасці» І. Губача /я — партнёр Вольгі Клебановіч, Уладзіміра Шэлестава, Вячаслава Саладзілава, рэжысёр спектакля — Мадэст Абрамаў/ прызначана на самы канец студзеня...

**Уладзімір АРЛОЎ, пісьменнік**

## «СВЕТ ПОЎНЫ НЕСПАДЗЯВАНАК...»



**— Мяркуючы па вашай бібліяграфіі апошніх гадоў, вы — адзін з самых «ураджайных» сучасных беларускіх пісьменнікаў. Скажыце, спадар Уладзімір, што трымае вашае пісьменніцкае натхненне ў такі «ненатхняльны» час: грошы, прага папулярнасці, метафізічнае імкненне да «гульні»?**

— Бываюць і іншыя крыніцы таго, што вы адважна назвалі натхненнем. Напрыклад — цыганская генеалогія часткі маіх лейкацытаў і эрытрацытаў, якія змушаюць гаспадара час ад часу бадзяцца па свеце, а потым занатоўваць для сучаснікаў і нашчадкаў свае адкрыцці.

А свет нават у самыя «ненатхняльныя» часы поўны неспадзяванак — дзівосных, як навагоднія падарункі за размаляванымі марозам вокнамі нашага задаўненага дзяцінства. Калі хочаце, вось вам адна з такіх нечаканасцей, што як снег на галаву звалілася на мяне акурат напярэдадні Новага года.

Напэўна, кожны беларус, што прачытаў бліскучы раман Генры Мілера «Тропік Рака» /забаронены на абшарах СССР як вусцішна-скандальная «парнуха»/, адзначыў сам сабе адзін загадкавы пасаж. У сваім узнёслым хваласпеве Парыжу Мілер раптам піша: «Гайдаючыся ў парыжскай калысцы, кожны можа марыць пра свой Берлін, Нью-Йорк, Чыкага, Вену, Мінск...» Чаму сярод трох еўрапейскіх сталіц названы менавіта Мінск, а не Рым, не Будапешт, ці, у горшым разе, які-небудзь Мадрыд? Гэта амаль неверагодна, але мне, здаецца, удалося натрапіць на след былой каханкі сусветна вядомага пісьменніка, што на Елісейскіх палях замілавана апавядала яму пра гаману Даўгабродскай і золата Кальварыйскіх клёнаў. Яшчэ больш неверагодна, што, паводле папярэдніх звестак, колішняя заўсёдніца

*(Працяг на стар. 4)*

# Жывём, верым, дзеім...

(Пачатак на стар. 3)

манпарнаскіх кавярняў цяпер ціха жыве ў мінскім мікрараёне Малінаўка. У той самай Малінаўцы, дзе сёння даюць кватэры беларускім пісьменнікам. Даюць, між іншым, за іхнія ж уласныя грошы, і, каб разлічыцца за жытло з ганарараў, штомесяц трэба выдаваць не меней чым па рамане...

**— Чым маеце парадаваць чытача ў Новым годзе?**

— Прашу святую Еўфрасінню, каб дапамагла выдавецтву «Беларусь» выпусціць кнігу, першыя словы якой гучаць так: «Любоў да горада нагадвае каханне да жанчыны. Гэта таксама вялікая таямніца, у якой нялёгка прызнацца...» Кніга называецца «Таямніцы полацкай гісторыі».

Нябесныя сілы пажадалі, каб якраз на Куццю я паставіў кропку ў творы пад назваю «Сібірская аповесць». Спадзяюся, атрымалася досыць вострая страва, якую будзе цяжкавата праглынуць, не запіўшы добрым келіхам чырвонага віна. Наўрад ці гэты опус шмат каго парадуе. Зрэшты, чаму літаратар павінен абавязкова радаваць, а не, дапусцім, злаваць, або проста гуляць з чытачом у шкляныя перлы?

**Рыгор СІТНІЦА, мастак-графік, сябра мастацкай суполкі «Пагоня», выкладчык Беларускага ліцэя мастацтваў:**

## «ТРЭБА НАБРАЦЦА МУЖНАСЦІ ДЫ ПРАЦАВАЦЬ ДАЛЕЙ»



**— Мяркуючы па колькасці ўгодкава-асветніцкіх акцый, на якіх шаноўнага спадара сёлета можна было бачыць /у якасці ўдзельніка/, — можна зрабіць выснову, што справа гэтая яшчэ моцна прыцягвае айчынных мастакоў. Ці сведчыць гэта на тое, што сучаснае мастацтва мусіць быць «з кулакамі»? І — як наконт жадання «чыстае творчасці» на Новы год?**

— Мой удзел у мастацка-асветных акцыях ды іншых нацыянальна-патрыятычных імпрэзах цалкам зыходзіць з маіх перакананняў, якія грунтуюцца на ідэі беларускага нацыяналізму /не ў бальшавіцкім, а ў нармальным еўрапейскім сэнсе гэтае з'явы/, які, уласна, ёсць маім светапоглядам, фармуючы адпаведныя схільнасці, сімпатыі ды інтарэсы. Згодна з гэтым вызначаюцца й мае творчыя памкненні. Таму ўдзел у асветніцкіх імпрэзах ёсць не толькі маім грамадзянскім абавязкам, але й неабходнасцю, якая ў сваю чаргу ёсць неад'емнай часткаю майго мастакоўскага жыцця.

Але тут наўрад ці можна зрабіць выснову, што гэта — масавая з'ява ў асяроддзі айчынных мастакоў. На вялікі жаль, большыня з іх застаецца абыякавымі да праблем беларушчыны, ды выкарыстоўвае свае мажлівасці ці на тое, каб хоць пракарміцца, ці — каб асягнуць так званага «чыстага мастацтва». Канешне, можна, відаць, пазайздросціць мастакам з тых краін, дзе пануе сацыяльная ды палітычная стабільнасць і дзе карэнным народам не пагражае перспектыва этнічнага знікнення. Тады, відаць, сапраўды, ёсць шанц лунаць у мастацкіх вышынях, прылічыўшы сябе да «чыстых творцаў»... Але я ніколі не пазайздрошчу тутэйшым мастакам, якія адасобіліся ад праблем уласнае нацыі.

Я перакананы, што творчасць мае для мяне пэўны сэнс толькі пры захаванні веры ў аптымістычную перспектыву нашае незалежнае Бацькаўшчыны. У супрацьлеглых варунках усялякі сэнс творчасці губляецца, бо ані ў «Северо-Западном крае», ані на «Kresah vshodnih» мае творчыя высілкі патрэбнымі не будуць. Хіба што толькі на пракорм, але тое ўжо не ёсць творчасцю...

Нацыянальная арыентацыя ў творчасці ніякім чынам не замінае разнастайным мастацкім эксперыментам. Мушу зазначыць, што нацыянальна свядомае мастацтва не такое ўжо й правінцыйнае, як таго камусьці хацелася б. І ў гэтым сэнсе Беларусь на сёння мае дастаткова творчых асоб, што здатныя прадстаўляць яе на самым вышэйшым узроўні мастацкага свету. Я заўсёды вітаю ўсялякія праявы пошукаў новае мастацкае формы, дый сам гэтага не цураюся. Дарэчы, у сэнсе формы выяўлення мы, як еўрапейская нацыя, павінны заняць сваё месца ў кантэксце агульнаеўрапейскага мастацкага працэсу. Разам з тым цалкам зразумела, што Еўропе мы цікавыя найперш сваёй нацыянальнай адметнасцю, таму дужа важным ёсць адпаведнасць сучаснай мастацкай формы беларускай ментальнасці. Тут, я ўпэўнены, далёка не кожны творчы эксперымент кладзецца ў кантэкст нацыянальнай духоўнасці ды працуе на выжыванне беларушчыны... Рынкавыя стасункі ды магутны наплыў таннай прадукцыі маскультуры вымагае ад нас моцных высілкаў, каб беларушчына захоўвала за сабой вартую прастору ў мастацкім жыцці. Трэба набрацца мужнасці ды працаваць далей, бо адзіным метадам змагання за месца пад сонцам ёсць высокая мастацкая вартасць твораў. А «чыстая творчасць» — ёсць тое, што адпавядае ўласным мастацкім перакананням і не з'яўляецца здрадаю самому сабе.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ, гісторык, загадчык аддзела Інстытута гісторыі АН Беларусі:**

## «КОЖНЫ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ГАРТУЕ НАШ ДУХ...»



**— Пытанне перш прагматычнае: вы як гісторык ці не цікавіліся, калі нашы продкі пачалі святкаваць Новы год? Дый увогуле, што гэта за свята было ў спракаветныя часы? І пытанне асабістае: вы, Міхась Міхайлавіч, яшчэ <u>верыце</u> ў Адраджэнне?**

— Яшчэ ў першабытнасці прыкмецілі, што змены ў навакольным свеце і ў самім чалавеку падпарадкаваны самым розным цыклам. Асабліва блізка наш продак успрымаў гадавы кругабег, які заўсёды завяршаўся зімовым паміраннем прыроды. Вясна ж уяўлялася яе ўваскрашэннем. Мабыць, таму славяне і пачыналі новы год з І сакавіка. Нават хрысціянізацыя старажытных беларусаў не змяніла гэтай завядзёнкі, і толькі пасля каляндарнай рэформы 1582 года мы, як і ўсе еўрапейцы, пачалі лічыць пачатковым днём года 1 студзеня. Хрысціянскія народы, аднак, у адрозненне ад атэістаў, успрымаюць гэты дзень звычайна як каляндарную дату. Урачыста ж святкуецца блізкі ад Новага года дзень нараджэння Хрыста. Для нас гэта — Каляды. Ну, а дух Калядаў такі моцны, бо ў ім тысячагадовая традыцыя продкаў, вера ў добрае і светлае, у нязгаснасць жыцця...

Што ж тычыцца «веры»... Жонка часта ўспамінае, што яшчэ гадоў дваццаць таму, у найцяжэйшыя гады татальнай русіфікацыі і ўціску ўсяго беларускага, я казаў ёй, што, як гісторык, ведаю — не бывае вечных імперый, і маскоўскай таксама наканавана скананне. Значыць, надыдзе і нашая Воля! Калі слухаю ўспаміны ветэранаў незалежніцкага пасляваеннага падполля, перачытваю «Споведзь» Ларысы Геніюш, разумею, што толькі для беларусаненавіснікаў суверэнітэт стаўся нечаканасцю. Ён намі здабыты! Можа, без знешніх эфектаў, без «шабляў на танкі», больш — нязломнай мужнасцю і цягавітасцю. У гэтым мы падобныя на чэхаў. Таму на наша Адраджэнне, нашу Незалежнасць гляджу з вялікай верай і аптымізмам. Нягледзячы нават на тое, што маем правіцеляў не дзяржаўніцкіх, а яшчэ бэсэсэраўскіх, якія могуць здаць краіну суседзям у любы зручны момант. Гляджу з аптымізмам, бо яшчэ дваццаць гадоў назад, калі чуў у менскім тралейбусе беларускае слова, разумеў — гэта хутчэй за ўсё нехта з сяброў; зараз жа на шматтысячных беларускамоўных мітынгах часам цяжка знайсці знаёмага, і я шчаслівы з гэтага... Гляджу з аптымізмам, бо калі, не дай Божа, на вуліцах Менска з'явяцца акупацыйныя войскі, нашы дзеці і ўнукі ўжо ніколі не забудуць, як над Домам урада лунаў бел-чырвона-белы сцяг, што мы жылі пад святой Пагоняй... Гляджу з аптымізмам, бо за апошнія тры гады з'явілася патрыятычна-асветніцкай літаратуры больш, чым за ўсе пяцьсот гадоў беларускага кнігадруку; бо кожны дзень Незалежнасці мацуе нашу дзяржаву, гартуе беларускі дух... Нам бы яшчэ пратрымацца некалькі гадкоў... Гэта добра разумеюць і ворагі, таму так спяшаюцца пацягнуць нас назад, у розныя канфедэрацыі, саюзы і «зоны»...

# РАЗАМ З НАРОДАМ І ДЗЕЛЯ НАРОДА

**Зварот Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады з нагоды 90-й гадавіны заснавання Беларускай Сацыялістычнай Грамады і 75-годдзя заснавання Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі**

Спаўняецца 90 гадоў ад часу заснавання першай беларускай палітычнай партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

У 1903 г. маладыя людзі сацыялістычных і патрыятычных перакананняў аб'ядналіся ў Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду, якая ў 1905 годзе прыняла новы назоў — Беларуская Сацыялістычная Грамада. У гэтай партыі супрацоўнічалі марксісты і сацыялісты-народнікі.

Маладая партыя жадала, каб Беларускі край у адпаведнасці з правам народаў на самавызначэнне стаў аўтаномнаю адзінкаю ў складзе будучай Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Разам з іншымі левымі партыямі Расіі беларускія сацыялісты бралі чынны ўдзел у рэвалюцыі 1905-07 гг., змагаліся за звяржэнне самадзяржаўя, за зямлю для народа, за самавызначэнне.

Сілы рэвалюцыі былі слабыя. БСГ зведала на сабе жорсткія ўдары царскай ахранкі. Сябры партыі былі кінуты ў турмы, вымушаны былі ісці ў падполле, эміграваць.

У другой палове 1906 года беларускія сацыялісты прыйшлі да высновы, што дзеля захавання партыі, дзеля гуртавання ўсіх патрыётаў Беларусі, дзеля асветы народа неабходна заснаваць беларускую газету. Спачатку выходзіла «Наша доля», якая з-за цэнзурных праследаў хутка спыніла існаванне. Лепшы лёс чакаў «Нашу Ніву» — газету, якая выходзіла з 1906 па 1915 год. Сябры Грамады заснавалі таксама выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Санкт-Пецярбурзе, а пазней — Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні. Беларускія сацыялісты выдавалі і рэдагавалі часопісы «Саха» і «Лучынка», прызначаныя для сялян і моладзі.

Нашаніўскі перыяд дзейнасці Грамады мае неацэннае значэнне для беларускага вызваленчага руху. Газета будзіла нацыянальную свядомасць народа. Гуртавала вакол сябе ўсю свядомую Беларусь, падтрымлівала пісьменнікаў і дзеячаў беларускага мастацтва. Дзякуючы «Нашай Ніве», якая з'яўлялася фактычным штабам БСГ, партыя не толькі захавалася, але і ўмацавалася. Пад уплывам газеты былі выхаваны будучыя дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі.

Выпрабаваннем для партыі стала першая сусветная вайна. Відныя дзеячы БСГ Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч /Цётка/ засталіся ў акупаванай Вільні. Была створана Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група — фракцыя Грамады, якая стаяла на марксісцкіх пазіцыях. Сацыял-дэмакраты баранілі інтарэсы беларускага народа, арганізоўвалі прафсаюзы. Яны былі ў ліку заснавальнікаў новай беларускай газеты «Гоман». Сацыял-дэмакраты былі стваральнікамі беларускіх школ, настаўніцкіх курсаў, настаўніцкай семінарыі.

У пошуках будучай формы жыцця народа дзеячы Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Работніцкай Групы, як і сацыялісты-народнікі, прыйшлі да высновы, што наша краіна павінна стаць незалежнаю дзяржаваю.

Для беларускіх сацыялістаў, якія жылі ў цэнтральных і ўсходніх раёнах краіны, а таксама ў Расіі, паваротным момантам было звяржэнне царызму. БСГ выйшла на арэну адкрытага палітычнага змагання. Дзеячы партыі адыгралі выдатную ролю ў стварэнні прадстаўнічых органаў нашага народа — Беларускага Нацыянальнага Камітэта, а потым Беларускай Рады і Вялікай Беларускай Рады. Сацыялісты былі заснавальнікамі беларускіх арганізацый у войску. Яны былі вядучаю партыяй на Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 года.

Усведамляючы, што для поўнага самавызначэння народа яшчэ не выспелі ўсе аб'ектыўныя і суб'ектыўныя перадумовы, БСГ па-ранейшаму адстойвала ідэю аўтаноміі. Аднак бальшавікі не маглі згадзіцца нават з гэтым патрабаваннем, якое было запісана ў рэзалюцыі Усебеларускага з'езда. Сам ход гісторыі прывёў сацыялістаў, якія жылі на ўсходзе краіны, да думкі пра неабходнасць самастойнай беларускай дзяржаўнасці.

Стварэнне 20 лютага 1918 г. Народнага Сакратарыята /урада/ Беларусі, абвяшчэнне 9 сакавіка таго ж года Беларускай Народнай Рэспублікі, а 25 сакавіка — яе незалежнасці з'явілася галоўным вынікам амаль 15-гадовай дзейнасці Беларускай Сацыялістычнай Грамады. «На цэлы бел свет» было сцверджана, што жыве Беларусь. Ад гэтага часу расійскія вялікадзяржаўнікі і польскія шавіністы, толькі пакрывіўшы душой, маглі даводзіць, што няма беларускага народа, беларускай мовы, беларускай культуры і дзяржаўнасці.

У другой Устаноўчай Грамаце да народаў Беларусі ў сціслым выглядзе выказаны сацыяльна-палітычныя ідэалы беларускіх сацыялістаў: свабода слова, друку, сумлення, права грамадзян аб'ядноўвацца ў партыі, прафесійныя і грамадскія арганізацыі, недатыкальнасць асобы і жылля, права працоўных на страйкі. Беларускія сацыялісты хацелі бачыць сваю Радзіму дэмакратычнай і квітнеючай дзяржавай. Яны не заплямілі сябе тэрорам, праследамі іншадумцаў. Палітыку яны рабілі чыстымі рукамі.

За кароткі час існавання БНР былі адчынены многія дзесяткі беларускіх школ, гімназіі, прагімназіі, працавалі педагагічны інстытут, нацыянальны тэатр, выходзілі газеты, прымаліся захады дзеля адкрыцця універсітэта ў Менску, быў наладжаны выпуск падручнікаў. Дзеячы БНР самі былі выкладчыкамі. Яны пісалі і перакладалі для школьнікаў падручнікі і вучэбныя дапаможнікі.

БНР была нежаданым дзяржаўным утварэннем для суседзяў. Яе ўпарта не хацеў прызнаць кайзераўскі ўрад Нямеччыны. Антанта заахвочвала Польшчу да анексіі беларускіх земляў. Яе лёс быў прадвызначаны. Тым большага прызнання заслугоўваюць лідэры маладой Беларускай Дзяржавы, якія насуперак абставінам адстойвалі права народа на суверэнітэт. З гонарам можна сказаць, што гэтыя лідэры былі выхаванцамі Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Так склалася, што менавіта ў 1918 годзе Беларуская Сацыялістычная Грамада падзялілася на тры партыі. З БСГ выйшлі сацыялісты-народнікі /эсэры/ і сацыялісты-федэралісты. Яны ўтварылі свае партыі. Сваю партыю ўтварылі і марксісты.

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Партыя ад першай хвіліны свайго існавання была арыентавана на пабудову дэмакратычнай дзяржавы са шматукладнай эканомікай. У праекце яе праграмы адсутнічала палажэнне пра дыктатуру пралетарыяту, пра нацыяналізацыю прамысловасці. Нават аграрнае пытанне прапаноўвалася вырашыць шляхам выкупу зямлі ў памешчыкаў. Партыя салідарызавалася з тым напрамкам у сусветнай сацыял-дэмакратыі, які бальшавіцкія ідэолагі называлі апартуністычным, рэвізіянісцкім і рэфармісцкім, з тым напрамкам, перспектыўнасць і плённасць якога была засведчана ўсёй далейшай гісторыяй.

Сёння мы з гонарам называем імёны заснавальнікаў Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі Івана і Антона Луцкевічаў, Алеся Гаруна, Язэпа Лёсіка, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Аркадзя Смоліча, Браніслава Тарашкевіча. Яны былі ў ліку першых беларускіх сацыялістаў, якія цвёрда сталі на незалежніцкі грунт. Яны пакінулі памяць пра сябе самаадданаю працаю дзеля народа.

У гэтыя дні мы абавязаны згадаць і тых беларускіх сацыялістаў, якія сталі на бальшавіцкія пазіцыі: Алеся Чарвякова, Зміцера Жылуновіча і іншых. Мы не павінны вінаваціць іх за выбар, бо яны сумленна служылі свайму народу, сталі, як і многія іх таварышы па БСГ, ахвярамі сталінскага тэрору.

Памяць пра Беларускую Сацыялістычную Грамаду і Беларускую Сацыял-Дэмакратычную Партыю мы ўшаноўваем у назве нашай партыі.

Ушаноўваючы памяць нашых папярэднікаў, мы, беларускія сацыял-дэмакраты 90-х гадоў, на поўніцу чэрпаем з іх ідэйнай спадчыны. Нашы папярэднікі былі разам з народам і служылі народу. У іх творах для нас ёсць дакладнае ўказанне на тыя каштоўнасці, якія ёсць і нашы каштоўнасці, нашы прынцыпы. Гэта перш-наперш прызнанне самацэннасці свабоды і роўнасці людзей і народаў. Гэта адстойванне дэмакратыі і сацыяльнай справядлівасці. Гэта салідарнасць з усімі дэмакратычнымі сіламі ў імя прагрэсу, дабрабыту і міру. Гэта ідэал прававой, сацыяльнай, дэмакратычнай дзяржавы. Найвышэйшая ж каштоўнасць — незалежнасць Беларусі. Толькі ў незалежнай Беларускай Дзяржаве наш народ можа развіць усе свае творчыя сілы.

Гаворачы аб сённяшнім адраджэнні сацыял-дэмакратычнай ідэі на Беларусі, нельга не ўспомніць першага старшыню Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады Міхася Ткачова, чыя самаадданая палітычная і арганізацыйная праца з'явілася падмуркам для росту і ўмацавання Грамады.

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада мае немалы патэнцыял. У гэтыя дні, калі адзначаецца 90-годдзе Беларускай Сацыялістычнай Грамады і 75-годдзе Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі, мы сардэчна віншуем сяброў БСДГ і яе сімпатыкаў з гэтымі датамі і заклікаем кожнага прыкласці яшчэ больш намаганняў дзеля будаўніцтва незалежнай, дэмакратычнай, сацыяльнай і прававой Беларускай Дзяржавы.

***«1 студзеня 1919 года Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі абнародаваў Маніфест аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі... Пры братняй дапамозе вялікага рускага народа беларускі народ, нарэшце, здзейсніў сваю запаветную мару і ўпершыню ў сваёй гісторыі стварыў суверэнную нацыянальную беларускую Савецкую Дзяржаву».***

# І РАНЬШ НЕ БЫЛО, І СЁННЯ НЯМА...

## СУМНЫЯ ЗГАДКІ НАПЯРЭДАДНІ 75 УГОДКАЎ БССР

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук

Гэтую цытату я ўзяў з кнігі І. Краўчанкі, М. Раманоўскага, Т. Хадкевіча «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка», якая пад грыфам Інстытута гісторыі АН БССР выйшла ў свет у 1958 г., г. зн. напярэдадні 40-годдзя ўтварэння БССР. Прыкладна такімі словамі ў нас заўсёды пачыналіся артыкулы і прамовы, прысвечаныя гэтай даце ў гісторыі беларускага народа. Большасць аўтараў такіх артыкулаў і прамоў не верыла ў змест падобных слоў, але пускала іх у абарот толькі таму, што інакш проста не прынята было гаварыць.

Праўда, дзесьці ў канцы 60-х — пачатку 70-х гадоў у падобных прыведзенай вышэй цытатах стараліся не ўжываць такія словы, як «суверэнная», «нацыянальная». Першае не ўжывалі таму, што вельмі ж многімі разумеўся дзяржаўны суверэнітэт Беларусі як штосьці толькі сімвалічнае, другое — таму, што нацыянальнае было адсунута назад інтэрнацыянальным, страціла сваю актуальнасць у ходзе ажыццяўлення распрацаванай КПСС палітыкі зліцця нацый і народнасцей.

Створаная з ласкі дзяржаўных і партыйных органаў Расійскай Федэрацыі Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ўжо з першых дзён свайго існавання не вызначалася адметнай суверэннасцю. На яе тэрыторыі без усялякай перапрацоўкі дзейнічалі многія дэкрэты, што прымаў урад Савецкай Расіі. Нават нормы прадстаўніцтва на І Усебеларускі з'езд Саветаў, які меркавалася правесці ў пачатку 1919 года, вызначаліся ў адпаведнасці з Канстытуцыяй РСФСР. Але, бадай, самым страшным і небяспечным падкопам пад дзяржаўны суверэнітэт з'яўлялася ўсталяваная адразу ж практыка партыйнага цэнтра Савецкай Расіі па ўкамплектаванні адданымі яму людзьмі вышэйшага партыйнага звяна ў Беларусі. Як справядліва заўважыў Максім Гарэцкі ў аповесці «Дзве душы», ёю тады кіравалі «бальшавіцкія камісары ўсіх нацый, апрача беларускай». Яны ўмела падбіралі, вылучалі на кіруючыя пасады і зрусіфікаваных, пазбаўленых нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, якіх зусім ці вельмі мала хвалявала праблема дзяржаўнага суверэнітэту БССР.

Адпаведныя структуры Расійскай Федэрацыі ўдзельнічалі і ва ўкамплектаванні кадрамі самых высокіх пасад савецкіх органаў. Невыпадкова ў Прэзідыум Часовага рэвалюцыйнага ўрада Беларусі, які складаўся з трох чалавек, трапіў толькі адзін беларус — З. Жылуновіч, астатнія — армянін Аляксандр Мяснікян /Мяснікоў/ і яўрэй Майсей Калмановіч — наогул займалі негатыўную пазіцыю ў пытаннях утварэння самастойнай беларускай дзяржавы. На першай сесіі ЦВК БССР /5 студзеня 1919 г./, калі быў абраны Малы Прэзідыум ЦВК, А. Мяснікоў стаў яго старшынёй. Немясцовага паходжання былі і іншыя два члены Малога Прэзідыума ЦВК БССР — камісар па замежных справах Н. Пятроў і камісар па ўнутраных справах С. Іваноў.

Першы сур'ёзны іспыт па дзяржаўным суверэнітэце давялося трымаць Беларусі ўжо на другім месяцы свайго існавання. Урад БССР вымушаны быў згадзіцца з прапановай У. Леніна аб перадачы РСФСР дзвюх беларускіх губерняў — Віцебскай і Магілёўскай. Гэтую прапанову правялі праз рашэнні І Усебеларускага з'езда Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, які праходзіў у Мінску 2—3 лютага 1919 года. Справу аблегчыў удзел у яго рабоце старшыні Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Я. Свярдлова, які вызначаўся вялікай рашучасцю і катэгарычнасцю пры правядзенні лініі бальшавіцкай партыі. Дарэчы, сярод 230 дэлегатаў з'езда членамі гэтай партыі з'яўляліся 213 чалавек, а 17 спачувалі ёй. Як бачым, у апазіцыі КП/б/Б ніхто з дэлегатаў не знаходзіўся.

Едучы ў Мінск з такой анексіяніцкай місіяй, Якаў Свярдлоў прывёз пастанову УЦВК «Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі», паасобныя месцы якой зусім не адпавядалі рэчаіснасці. Далучыць да сябе такую велізарную беларускую тэрыторыю і заяўляць у пастанове, што ўрад РСФСР зыходзіць «з прынцыпу поўнага і сапраўднага самавызначэння працоўных мас усіх краін», азначала ўводзіць у зман людзей, бо прыведзеныя вышэй словы зусім не дапасоўваліся да яе ўзаемаадносін з Беларуссю. Гэтае ж можна сказаць і пра наступную вынятку з пастановы: «...толькі цяпер на грунце прызнання поўнай свабоды самавызначэння... ствараецца добраахвотны і непарушны саюз працоўных усіх нацый, якія насяляюць тэрыторыю былой Расійскай імперыі».

Прэтэнзіі Савецкай Расіі на Віцебскую і Магілёўскую губерні тлумачылі верагоднасцю нападу на Беларусь польскіх войскаў, таму палічылі за лепшае, каб хоць частка яе тэрыторыі адышла да размешчанай ад нас на ўсходзе краіны. Наколькі рэальнай была інтэрвенцыя Польшчы на Беларусь, цяжка сказаць. Неблагія ўмовы для гэтага меліся пасля вываду з яе тэрыторыі нямецкіх войскаў. Канкрэтных жа дзеянняў з мэтай захопу Беларусі не рабілася. Але як толькі ўрад Расіі адхапіў ад яе такую вялікую тэрыторыю, дык чаму ж і ў начальніка Польскай дзяржавы Юзафа Пілсудскага не мог разгарэцца падобнага роду апетыт, тым больш, што гэты палітык і военачальнік быў ураджэнцам нашага краю, прызнаваў сябе беларусам, валодаў беларускай мовай? Словам, і Масква, і Варшава глядзелі на Беларусь, як на нічыйную тэрыторыю, і каму з якога боку было зручней, з таго і імкнуліся прыдбаць для сябе як мага большы кавалак.

Не трэба быць вялікім палітыкам, каб зразумець, што Савецкая Расія далучэннем да сябе Віцебскай і Магілёўскай губерняў /апошняя фактычна і не ўваходзіла ў БССР, бо з вясны 1918 г. заставалася ў складзе РСФСР/ не толькі груба парушыла дзяржаўны суверэнітэт БССР, але і справакавала чапад на яе Польшчы. У Маскве гэта добра разумелі і таму ўсяляк імкнуліся не дапусціць інтэрвенцыі Польшчы на беларускія землі. 10 лютага 1919 года Народны Камісарыят замежных спраў РСФСР паслаў тэлеграму польскаму ўраду, выказаўшы ў ёй жаданне ліквідаваць усялякія канфлікты з Польшчай, устанавіць з ёю добрасуседскія адносіны, хаця вядома, што апошняя на той час межавала з Беларуссю, а не з Расіяй.

Ёсць важкія падставы меркаваць, што калі б бальшавіцкая Масква не прыбрала да сваіх рук Віцебскую і Магілёўскую губерні, а ўсяляк імкнулася захоўваць тэрытарыяльную недатыкальнасць Беларусі, такую палітыку абавязана была б праводзіць і Польшча, і, магчыма, наш народ не зведаў бы польскай інтэрвенцыі і акупацыі ў 1919—1920 гадах.

На тым жа І Усебеларускім з'ездзе Я. Свярдлову вельмі спрытна ўдалося правесці яшчэ адну хітрую задуму бальшавіцкай партыі, якая зводзіла на нішто дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. Маю на ўвазе прынятую на з'ездзе «Дэкларацыю аб устанаўленні федэратыўнай сувязі паміж Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай і РСФСР». У гэтым афіцыйным дакуменце рускі народ адкрытым тэкстам называлі старэйшым братам. Магчыма, адсюль і пайшло шырокае ўжыванне гэтых слоў ва ўсіх жанрах літаратуры, у тым ліку і навуковай, а таксама ў афіцыйных прамовах. Назіраючы з боку за ходам выступленняў на з'ездзе, паводзінамі дэлегатаў у перапынках паміж пасяджэннямі, прысутны на ім прадстаўнік Народнага Камісарыята нацыянальнасцей РСФСР так тэлеграфаваў у Маскву: «У кулуарах з'езда ажыўлена абмяркоўваецца пытанне пра ўтварэнне рэспублікі /нібыта яна не была створана 1 студзеня 1919 г.!? — **Л. Л.**/. Адна тэндэнцыя — астацца з РСФСР». Над сфармаваннем, усталяваннем гэтай тэндэнцыі нямала папрацавала брыгада масквічоў на чале з Я. Свярдловым. Яна рабіла ўсё, каб не даць поўнага дзяржаўнага суверэнітэту для БССР і з цягам часу ўключыць яе ў склад РСФСР на правах аўтаноміі.

Не Мінск, а Масква з'явілася месцам нараджэння утапічнай у сваёй аснове ідэі аб утварэнні Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі /Літбел/, якая паклала канец самастойнаму існаванню БССР, з такім пафасам абвешчанай 1 студзеня 1919 года. Гэтае пытанне з удзелам Я. Свярдлова Цэнтральнае Бюро КП/б/Б абмяркоўвала ў першы ж дзень працы І Усебеларускага з'езда. Асаблівых спрэчак не ўзнікла, таму прынятае рашэнне тут жа было перададзена на разгляд з'езда, дзе яно знайшло поўную падтрымку. Дэлегатам тлумачылі, што такі крок абумоўлены магчымасцю нападу з боку Польшчы. Дзіўнае тлумачэнне, бо даны фактар меў два зусім процілеглыя па характару вынікі: у першым выпадку верагодная інтэрвенцыя Польшчы з'явілася прычынай далучэння да РСФСР Віцебскай і Магілёўскай абласцей, у другім — аб'яднання Беларусі і Літвы. Мне ж думаецца, што ў другім выпадку Расія выступіла ініцыятарам аб'яднання Літвы з Беларуссю хутчэй за ўсё дзеля таго, каб апошняя, застаўшыся толькі ў межах Мінскай і Гродзенскай губерняў, не так востра адчувала страту сваіх усходніх земляў.

Аб'яднанне Літвы з Беларуссю не выканала пастаўленую перад ім задачу: быць рэвалюцыйным авангардам на заходніх граніцах савецкіх рэспублік. Літбел выявіла амаль поўную няздольнасць супрацьстаяць уварванню на яе тэрыторыю польскіх войск. Яна распалася, як картачная хатка. Задума камуністаў Масквы праваліліся. Беларусь апынулася пад невыносна цяжкай паводле сваіх вынікаў польскай акупацыяй.

Пад пільным кантролем бальшавіцкай Масквы адбываліся ўсе падзеі на Беларусі і пасля таго, як яна другім разам, 31 ліпеня 1920 года, устанавіла ў сябе савецкую дзяржаўнасць. Каб мець большы ўплыў на дзейнасць Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, якому да склікання Усебеларускага з'езда Саветаў належала ўся цывільная ўлада, у склад яго ўвялі адданых партыйнаму цэнтру ў Маскве ваенных работнікаў, а таксама латыша В. Кнорына, які да гэтага добра «праславіў» сябе як праціўнік беларускай дзяржаўнай ідэі. Залежнасць камуністаў Беларусі ад партыйнага цэнтра ў Маскве ці нежаданне весці самастойную ад яго палітыку з асаблівай моцай выявілася ў лістападзе 1920 года на III з'ездзе КП/б/Б, на якім заяўлялася, што Кампартыя Беларусі «ёсць абласная арганізацыя РКП/б/, якая праводзіць у жыццё прынцыпы і тактыку РКП, прыстасоўваючы яе да мясцовых умоў, і поўнасцю падпарадкоўваецца /падкрэслена мною. — **Л. Л.**/ ЦК РКП /бальшавікоў/». Такое вызначэнне КП/б/Б свайго дачынення да РКП/б/ ёсць прамое парушэнне, калі не сказаць здрада дзяржаўнаму суверэнітэту, бо ў нацыянальна незалежнай краіне тая ці іншая партыя не можа лічыць сябе абласной арганізацыяй, поўнасцю падпарадкаванай аналагічнай партыі іншай дзяржавы.

Зусім не палічыліся з дзяржаўным суверэнітэтам нашага народа, калі ў сакавіку 1921 года ў Рызе сабраліся прадстаўнікі РСФСР, УССР і Польшчы і ў адсутнасці ўпаўнаважанага ад БССР «вырашылі» яе тэрытарыяльнае пытанне. Без беларусаў, напэўна ж, было лягчэй галоўнаму каморніку ад урада РСФСР І. Іофу і яго калегам расставіць межавыя слупы з Польшчай, бо вельмі ж блізка, амаль ля самага асяродка нашага краю, даводзілася ўкопваць іх. На гэты раз дзяржаве Беларусі пакінулі толькі Мінскую губерню. Самая вялікая частка этнічнай тэрыторыі Беларусі адышла да Польшчы /108 тысяч квадратных кіламетраў, дзе жыло больш за 4 мільёны чалавек/, а самая маленькая — да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі /52 тысячы квадратных кіламетраў, дзе жыло 1,5 мільёна чалавек/, што нельга назваць іншым словам, як рабаўніцтва. У складзе Расійскай Федэрацыі знаходзілася прыкладна 75 тысяч квадратных кіламетраў узятай ёю ў лютым 1919 г. у Беларусі тэрыторыі з насельніцтвам каля 5 мільёнаў чалавек.

Апынуўшыся пад магутным прэсам дыпламатыі Савецкай Расіі, урад БССР збаяўся выказаць хоць у самай асцярожнай форме сваю незадаволенасць вынікамі Рыжскага дагавора. На ўвесь голас пратэставаў супраць яго толькі эміграцыйны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Яго прэм'ер-міністру В. Ластоўскаму і А. Цвікевічу ўдалося ў красавіку 1922 года на Генуэзскай канферэнцыі ўручыць яе ўдзельнікам мемарыял з просьбай дапамагчы скасаваць Рыжскі дагавор. Толькі рашучае ўмяшанне кіраўніка дэлегацыі РСФСР, яе наркама замежных спраў Георгія Чычэрына не дазволіла вынесці беларускае пытанне на парадак дня Генуэзскай канферэнцыі.

Вялікі смутак апанаваў нацыянальна свядомымі пластамі беларускага народа ад такога рабавання яго этнічнай тэрыторыі. Моцна пахіснуліся надзеі нарэшце займець сапраўдную суверэнную дзяржаву ў межах усёй ці пераважна ўсёй тэрыторыі Бацькаўшчыны. Непакоіла, трывожыла гэта душу беларуса не толькі БССР, але і Расійскай Федэрацыі, Польшчы. Балюча перажываў нечуваную несправядлівасць з боку славянскіх суседніх дзяржаў яшчэ зусім малады паэт Алесь Дудар. Амаль што крэўю напісаны ім верш «Пасеклі наш край папалам», які не ўвайшоў ні ў адну з яго ні прыжыццёвых, ні выданых пасля смерці кніг. Вось найбольш уражлівыя радкі з верша:

**Не смеем нават гаварыць**
**І думаць без крамлёўскай візы.**
**Без нас ўсё робяць макляры**
**Ды міжнародныя падлізы.**

**Распаўся б камень ад жальбы,**
**Калі б ён знаў, як торг над намі**
**Вядуць маскоўскія рабы**
**З вялікапольскімі панамі.**

**О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні**
**Такі разлом, туга такая!**
**...І баюць байкі баюны**
**Севера-Заиаднага края...**

Аднак і паўтарамільённая БССР, якой яна стала па віне архітэктараў Рыжскага дагавора, не апусцілася на калені перад цяжкасцямі, што былі выкліканы не толькі вынікамі імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў, але і поўным разбурэннем эканамічных сувязей з прычыны страты такой велізарнай тэрыторыі на захадзе і на ўсходзе. Не ў прыклад многім сённяшнім дзяржаўным дзеячам і вучоным ніхто тады не ліў слёзы, што загінем з-за развалу нацыянальнага рынку, парушэнняў эканамічных сувязей з суседнімі краінамі. І пры істотна ўрэзанай тэрыторыі, пры сімвалічнай дзяржаўнасці ўладу маючыя людзі ў цэнтры рэспублікі і на месцах сваім непахісным жаданнем не даць загінуць нацыі разгарнулі такую стваральную дзейнасць, што многія беларусы шчыра паверылі ў рэальнасць свайго адраджэння і на гэтым грунце дасягнулі прыкметнага поспеху на самых розных участках гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Жыццёвы ўзровень насельніцтва БССР быў ніколькі не ніжэй, чым у тых рэспубліках, якіх так моцна не пакрыўдзілі пры тэрытарыяльным размежаванні. Выратавалі нас працавітыя мужыкі, якіх так бракуе цяпер.

Бальшыня народа правільна разумела значэнне, ганарылася дзяржаўным суверэнітэтам Беларусі. Яго нацыянальна-дзяржаўная свядомасць была на ўзроўні, які дазваляў адпаведным органам улады і кіравання брацца за вырашэнне самых складаных эканамічных, сацыяльна-палітычных і культурных задач. І гэта нягледзячы на тое, што моцна залежная ад партыйнага цэнтра СССР, арганічна інтэграваная ў яго КП/б/Б мела зусім іншы погляд на дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. Супярэчлівую яе нацыянальным інтарэсам палітыку Маскве ўдавалася праводзіць не ў малой ступені дзякуючы таму, што за ўвесь міжваенны час КП/б/Б узначальвалі амаль выключна пасланцы з іншых рэспублік, з якіх толькі адзін з'яўляўся беларусам па нацыянальнасці. Гэта быў Васіль Шаранговіч. Праўда, на пасадзе першага сакратара ЦК/б/Б ён і года не пратрымаўся, стаўшы ў сакавіку 1938 года чарговай ахвярай крывавых сталінскіх рэпрэсій.

Неадпаведная прынцыпам дзяржаўнага суверэнітэту БССР палітыка камуністаў не мела б такіх цяжкіх вынікаў, калі б да ўсялякага роду залежнасці ад Масквы яны не імкнуліся паставіць усе астатнія дзяржаўна-палітычныя, адміністрацыйна-гаспадарчыя і грамадскія структуры. Пацвердзіць гэта можна і спасылкамі на рашэнні VII з'езда КП/б/Б /сакавік 1923 г./. Зыходзячы з наяўнасці ў свеце адзінага фронту капіталу і адсюль неабходнасці супрацьпаставіць яму адзіны фронт пралетарыяту, з'езд выказаўся за ўсталяванне агульнага кіраўніцтва з цэнтра, г. зн. з Масквы, не толькі знешняй, але і ўнутранай

*(Працяг на стар. 12)*

## «РОДНЫ КРАЙ»

Трэці раз прыйшоў да аматараў беларушчыны адрыўны каляндар «Родны край» /рэдактары-складальнікі А. Законнікава, В. Балвановіч, Т. Улевіч/. Выдавецтва «Беларусь», нягледзячы на фінансавыя і іншыя цяжкасці, якімі, дарэчы, сёння любое выдавецтва «сытае» па горла, зрабіла ўсё магчымае, каб пабачылі свет 130 тысяч асобнікаў гэтага патрэбнага ў кожнай сям'і выдання. Прытым і кошт, калі ўлічыць цяперашнюю абвальную інфляцыю, прымальны. У прыватнасці, у Мінску, у пераходзе станцыі метро «Плошча Перамогі», дзе знаходзіцца фірменная крама «Беларусь», каляндар каштуе ўсяго 960 рублёў.

Ну, а што да зместу «Роднага краю-94», дык твар выдання вымаляваўся яшчэ ў 1991 годзе, калі рыхтаваўся першы выпуск календара: як мага больш падаць інфармацыі, што тычыцца палітычнага, культурнага жыцця рэспублікі, слаўнай нацыянальнай гісторыі, а таксама разнастайныя карысныя парады. На кожны дзень указваецца ўсход і заход сонца, працягласць дня, называюцца праваслаўны і каталіцкі імяніннік, юбілейныя даты.

## ПАМЯЦІ КАМПАЗІТАРА



Вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння вядомага кампазітара Яўгена Цікоцкага адбыўся ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. На вечары прысутнічалі дачка і сын кампазітара — Кіра Яўгенаўна ды Міхаіл Яўгенавіч. З расповядам выступіла музыказнаўца В. Сізко. З цеплынёй і пашанай гаварылася пра ўклад Я. Цікоцкага ў беларускую музыку, пра ягоныя шчырасць і спагадлівасць да людзей, глыбокую інтэлігентнасць і адукаванасць. У запісе прагучалі ўспаміны кампазітара пра сустрэчы і сумесную працу з Янкам Купалам. Рамансы і арыі з опер выканалі Л. Івашкоў, В. Рузіна, Л. Кручкоўская /канцэртмайстры І. Чэрнік, Т. Ткачонак, Л. Галкіна/. Праслухалі прысутныя і фрагменты музычных запісаў.

**Л. АСТАПКЕВІЧ,**
загадчык аддзела навуковай прапаганды

*На здымку П. ЖОЎЦІКАВА дачка і сын Я. Цікоцкага падчас сустрэчы.*

## СВОЙ ЧАСОПІС

з'явіўся ў Згуртавання беларускай шляхты. Называецца ён «Годнасць». Мэты і задачы новага выдання вызначаны ў яго першым нумары так: «...найперш трэба ўсвядоміць, што такое шляхта. Разуменне таго можа прыйсці толькі праз веданне гісторыі нашае Айчыны. І таму асноўная накіраванасць выдання — гэта мінуўшчына, вайсковая гісторыя, бо шляхта і войска паняцці амаль тоесныя... І безумоўна тое, што шляхта не была бязлікаю аморфнаю масаю. Усё складаецца з асобных людзей, постацяў, якія з'яўляюцца рэпрэзентантамі пэўных родаў, гісторыю якіх будзем падаваць у выданні».

У першым нумары змешчаны статут Згуртавання і іншыя дакументы, артыкулы А. Грыцкевіча «Шляхта Вялікага княства Літоўскага да Люблінскай уніі 1569 года». Ёсць раздзелы «Малы гербоўнік Беларускай шляхты», «Шляхецкія спісы», рэцэнзуецца кніга «Дваранства Беларусі ў перыяд разлажэння і крызісу феадалізму /канец XVIII — першая палова XIX ст./» А. Лютага і Г. Туміловіча.

## ЮБІЛЕЙ ЛЕАНІЛЫ ЧАРНЯЎСКАЙ

адзначылі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Пляменнік Леанілы Усцінаўны віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Р. Гарэцкі, народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, пляменніца Янкі Купалы Я. Раманоўская, Т. Голуб, падкрэсліваючы адраджэнскую дзейнасць Л. Чарняўскай, адначасова прыгадвалі і яе мужа, класіка нацыянальнай літаратуры М.Гарэцкага. 100-гадовыя юбілеі Леанілы Усцінаўны і Максіма Іванавіча, гаварылася на вечары, — важныя падзеі ў культурным і грамадскім жыцці беларусаў.

# «Дзе ісціна, а дзе лжывасць?...»

*«...Гэта прости таму, што я, выходзіць, яшчэ не навучыўся чуць, бачыць, заўважаць, адчуваць, дзе ісціна, а дзе лжывасць, дзе спагада, а дзе зайздрасць, дзе натуральнасць, а дзе падробка пад яе... Ці спасцігну хоць калі-небудзь вось такія простыя і такія складаныя чалавечыя адносіны? А пакуль я проста не хто іншы, а глушэц».*

*/Міхась Парахневіч. «Запіскі былога партапаратчыка» /*

Няўдзячная гэта справа — пачынаць з цытат, але калі яны дапамагаюць выйсці на пэўныя высновы, то такое ў сваёй натуральнасці — прымальна. Такім чынам, вось яшчэ адна цытата, але не з дакументальнай аповесці М. Парахневіча «Запіскі былога партапаратчыка» /«Маладосць», N 9 за 1993 г./, а з рэдакцыйнага рэзюме: «Міхась Парахневіч, як і кожны аўтар, мае права на свой пункт гледжання на пэўныя падзеі, факты нядаўняга мінулага і на дзейнасць пэўных асоб». Вядома ж, мае, заўважым са свайго боку. Можна зразумець рэдакцыю, якая далікатна адмежавалася ад аўтарскага «суб'ектывізму»...

Чалавек па-свойму досыць назіральны, М. Парахневіч нямала цікавага паказвае з жыцця партапаратчыкаў, што насялялі «галоўны» і не толькі галоўны дом. Іх службовы занятак — вядома, у залежнасці ад рангу аб пасадах — гэта ў асноўным пакручвацца туды-сюды ў начальніцкім крэсле; разглядаць апеляцыйныя пытанні; рабіць выгляд, што робіш вельмі ўжо важную, патрэбную і неадкладную справу і блукаць па аддзелах, каб там унеслі свае заўвагі і прапановы ці проста завізіравалі «паздзіранае» табой з мінулагодніх папер на патрэбу сённяшняга дня; збірацца ў радыёфікаваным пакоі, які не мае ні аднаго акна — выхаду на Божы свет, і з дапамогай прыёмніка браць удзел у партыйных форумах; напружваць свае нервовыя клеткі ў чаканні кантакту з вышэйстаячым начальствам, насцярожвацца, калі пачуеш слова «свабодны»; часам, атрымаўшы начальніцкую «пілюлю», праседжваць дзень за сталом як ачмураны; падстаўляць падножкі непажаданым і безабаронным асобам; рыхтавацца да дыпламатычных хвароб, а потым пры нагодзе зашывацца ад неспрыяльных для цябе абставін у лечкамісію... і так да бясконцасці. Галоўнае ж — гэта трымцець і трымацца за сваю пасаду да крыві ў пазногцях.

Агульнавядома, што такая сітуацыя спараджае і гартуе асобых людзей, вяртае з даўніны і мінуўшчыны маральных калек, катаў і ахвяр тыпу Угрум-Бурчэева, Арганчыка /«Гісторыя аднаго горада» Салтыкова-Шчадрына/, Башмачкіна /«Шынель» Гогаля/, Дзевушкіна /«Бедныя людзі» Дастаеўскага/ і г. д. Іх набор даволі шматлікі, а як браць не толькі з рускай літаратуры, то ім «несть числа». Герояў М. Парахневіча па-чалавечы шкада: яны ўсё больш губляюць статус чалавека і ператвараюцца ў робатаў, у зомбі, якія па камандзе сваіх вядучых не проста займаюцца марнатраўствам, але і самастойна гатовы наўкол атручваць жывое жыццё, забіваць жывыя душы.

А вось і сам аўтар. Даведзены сваімі паплечнікамі да адчаю, ён вымушаны паказваць сваю непрыналежнасць да гэтага фантасмагарычнага існавання, нібыта хоча адмовіцца ад яго, але ж праз надта ўжо наіўную ў дадзеным выпадку інвектыву: «Ніколі не паверыў бы, што нармальныя людзі нармальных службовых устаноў могуць дакочвацца да гэтага — падстаўляць падножку». Праз кароткі час наш герой забываецца на крыўды і абразы і зноў жыве паўнакроўным жыццём сваёй установы. Аб стаўленні аўтара аповесці да бяспраўнага люду можна было б таксама распавесці, але яны за рамкамі аповесці. Ясна адно: каб не збалансоўваў ён сваё нутро і не змірыўся ўнутрана з воўчымі законамі, то даўно і па ўласнай ініцыятыве пакінуў бы «хату».

Лёгка можна здагадацца, чым займаюцца героі аповесці пасля работы. Але пакінем здагадкі, лепш зазірнем у аўтарскі тэкст: «...іншы раз усхопішся на досвітку, бо ўсю ноч не давала спакою думка: пры афармленні ўказа не тая, здаецца, літара ў канцы прозвішча і дата пад указам не адпавядае даце юбіляра...» Як бачым, справы «галоўнага дома» маюць працяг па-за яго сценамі і ў вольны час. Знаходзіцца таксама месца для пісання ананімак, падседжвання адным другога, устаноўцы ў сваіх кватэрах двайных французскіх замкоў — у дадатак да таго, што каля дзвярэй знаходзіцца міліцыянт-ахоўнік і да т. п. Яшчэ п'юць гарэлку /праўда, цішком/. Ёсць месца і «лямурам».

Героі аповесці жывуць на канкрэтнай зямлі, гэта значыць, што пэўная фізічная прастора — іх радзіма. І як жа яны ставяцца да яе? Па-першае, амаль ніхто з іх не гаворыць мовай сваёй Бацькаўшчыны. Пры словах «Масква», «з Масквы», «у Маскву» яны нерухомеюць і, амаль упадаючы ў самнамбулізм і містыку, чакаюць любой каманды да выканання. У Беларусь прыязджае ўсяго толькі намеснік адказнага сакратара часопіса «Огонек» /орган ЦК КПСС/ — колькі люду ўжо тады на прысагнутых нагах у нашым ЦК! Маскоўская паэтэса Кацярына Шавялёва /яе Пегас адгукнуўся на запрашэнне першай асобы ў рэспубліцы/, адкінуўшы ўсю харчовую субардынацыю ў галоўнай сталовай камуністаў Беларусі, пераходзіць з ніжэйшага адсека ў вышэйшы, а мясцовыя бонзы толькі крывяцца ад незадавальнення. А які жах абуджаецца ў душы нашага героя пры думцы, што ён можа згубіць ліст-адказ, падрыхтаваны на ананімку ў Маскву!..

Хто будзе чытаць, той знойдзе тут многа цікавага, хай на сёння нават і вядомага. Але ж ці ўсё, што мог, паведаў нам аўтар? На вялікі жаль, не. Больш таго, воляй лёсу і спрадвечнай устаноўкай нашага простага і не толькі простага люду — любым чынам выбіцца «ў людзі» ён, трапіўшы на адну з ніжэйшых прыступкаў наменклатурнай лесвіцы, усе разнастайныя працэсы-праявы жыцця падае не праз агульначалавечае і агульназначнае, а праз персаніфікаванае і келейнае бачанне. Гэта значыць, што нас імкнуцца з цэнтральнай магістралі тагачаснага жыцця звесці на абочыну, штурхаюць у правінцыялізм, мястэчковасць, падмяняюць асноўныя прычыны падзей іх другарадным следствам. Таму часта і атрымліваецца, што ў асноўным ва ўсім вінавата не «саўдэпія» /мы ўсе наўкол — яе састаўныя/, а Саўка /так называлі па завуголлях, паказваючы дулі ў кішэнях, многія носьбіты «духоўнасці» тых дзён Савелія Паўлава — загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Дарэчы, самі яны пры нагодзе ўзбройваліся ягонымі метадамі ў адносінах да залежных ад іх людзей/. Увесь меншы люд у «галоўнай хаце» і іншых падобных месцах шкадаваў, што пра гэта не ведае Пётр Міронавіч Машэраў, чалавек з «шырокай зычлівай усмешкай, з сакавітым беларускім адказам «добры дзень» на трапяткое прывітанне маленькага партапаратчыка. Менавіта тут /а такіх мясцін у аповесці шмат/ аўтар найбольш супярэчыць сам сабе, бо папярэдне ён жа расказаў нам, як Пётр Міронавіч пад апладысменты прысутных блаславіў Паўлава на высокую пасаду.

Размытасць, неаднароднасць і супярэчлівасць пазіцыі аўтара часта прыводзяць да таго, што яго мастацкая свядомасць дрэйфуе ў бок аблегчанага тлумачэння рэчаіснасці. Здараецца, невялікія велічыні ён амаль узводзіць у абсалют. Як не ўспомніць тут мясціны, дзе апісваецца дробны клерк-цэнзар Драбязка!

Чытаючы гэтую спробу споведзі, задаеш міжвольна сабе пытанне: а ці не ўзвялічвае сваю персону аўтар тым, што называе сябе партапаратчыкам? Гэтым, хай не наўмысна, ён прыкрывае сапраўдных партапаратчыкаў. Неабцяжарванне сябе спробай аналізу, адмаўленне ад паказу «партайгеноссэ» знутры, часам нейкае, скажам па-руску, «ёрничанье», прыбядненне, самашкадаванне, хітраванне, у пэўнай ступені ўсё гэта раскрывае вобраз

# *Будзьма смяяцца?*

Народ смяецца — значыць народ жыве!

Але як прыслухоўваешся да сучаснага жыцця, дык ствараецца ўражанне, што беларусы, суровыя і панурыя, моўчкі нясуць на плячах цяжар і крыўду свайго нялёгкага існавання. Існавання, у якім мы, беларусы, паступова «знікаем» /растваряемся/. Нават калі і пачуеш смех, то ён не наш, а хутчэй суседскі — «задорны», «петрясны», ці «гучна-альтавы». Мы не маем ніводнага досыць вядомага гумарыста-размоўніка, ніводнай сатыра-гумарыстычнай тэлеперадачы, ніводнага беларускамоўнага конкурсу гумару. На карце Беларусі няма горада, які мог бы адшчапіць крыху славы ў Габрава ці Адэсы. Праўда, у нас ёсць «Вожык» і некалькі сатырычных аддзелаў у некаторых часопісах і газетах, але /няхай мне даруюць іх рэдактары, яны павінны валодаць сваім жа прафесійным пачуццём/ гэта хутчэй нагадвае вярблюджую калючку ў галоднай бяссмехавай пустэльні.

І самае горшае становішча ў беларускай сучаснай літаратуры, асабліва ў прозе. Паэту, маючы на ўзбраенні такія моцныя сродкі, як рытм і рыфму, лягчэй дасягнуць сатырычнага эфекту. Возьмем паэмы Ведзьмака Лысагорскага «Сказ пра Лысую гару» і Ведзьмака Лысагорскага-меншага «Вандэя навыварат». І наогул, верш сам па сабе можа паслужыць добрым узорам для пародыі, што пацвярджае нядаўна выдадзеная кніга М. Скоблы «Розгі ў розніцу».

А ў прозе няма не толькі сучасных беларускіх твэнаў, о'генры, чэхавых, аверчанкаў, ільфаў і пятровых, але не з'явіліся нават паслядоўнікі нашага ж А.Мрыя. Як ні парадаксальна, але гумарыстычная навелістыка /не кажучы пра больш буйныя жанры/ адчувае на сабе, можа, нават і неўсвядомленае, супраціўленне выданняў, бо гумарыстычная навела /апавяданне/ больш вялікая па аб'ёме, чым гумарэска «на злобу дня», і таму фізічна не можа змясціцца ў невялікім аддзеле сатыры і гумару, а надрукаваць яе па аддзеле прозы неяк няёмка — не сур'ёзна ж! Цікавы факт: «Вожык», тутэйшы флагман сатыры і гумару, не маючы літаратурнай старонкі, не бярэ ў друк апавяданні памерам больш за 4 старонкі.

Адчуваючы ўсё гэта, было прыемна ўбачыць на паліцах кнігарні кнігу Вінцэся Мудрова «Жанчыны ля басейна» і прачытаць у анатацыі, што ў кнігу «ўвайшлі гумарыстычныя і сатырычныя апавяданні». Праўда, апошняя фраза анатацый цалкам збянтэжыла і зноў нагадала пра трагедыю смеху на Беларусі: «Аўтар смяецца, але смех ягоны не лёгкаважны, а сур'ёзны і ачышчальны». Невядомая дагэтуль магчымасць — сур'ёзна пасмяяцца — вельмі зацікавіла.

І ўсё ж такі падчас чытання з-за камуфляжнай формулы «ачышчальны і сур'ёзны смех» праступіла выразная аўтарская іронія. А іронія сапраўды бывае, што якраз і адчуваецца ў апавяданнях В. Мудрова, — сумная, горкая.

Жыццё, будзённае і складанае, часам трагічнае, стварае і прыхоўвае жорсткія пасткі, у якія не могуць не трапіць рамантычныя ці наіўныя, альбо зусім праставатыя героі апавяданняў. Яны бяззбройныя, бо не маюць адпаведнай хітрасці і ўспрымаюць свет такім, якім яго бачаць, — шчырым, адкрытым, без адваротнага боку. Таму і трапляе пад страшны «[illegible]» кандыдата ў майстры спорту летуценнік Адась /«Узлёт і падзенне Адама Марштрупы»/, таму і выклікаюць неразуменне і, мабыць, смех у вясковых аднагодкаў турботы Жэрара /«Памылка Жэрара»/, таму і надрываецца дзед Яўхім, які як свайго сына палюбіў прахадзімца Пятра Пятровіча /«Апошні кватарант»/.

Абставіны, асяроддзе, усюдыпранікальная банальнасць прымушаюць пагадзіцца Ваню Банькова са словамі

---

*Вінцэсь Мудроў. Жанчыны ля басейна. Апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1992.*

апавядальніка з нечаканага боку. Па сутнасці ён з'яўляецца буферам паміж партапаратам і грамадствам. Так бачыцца і ў рэтраспектыве, і з пазіцыі сённяшняга дня. І хоць настальгіі па нібыта мінулых, цалкам камуністычных часах у аўтара мы не знойдзем, усё ж ад піетэту ў адрас былога першага сакратара ЦК кампартыі Беларусі і некаторых іншых ён ніяк не можа вызваліцца. Безумоўна, не варта забывацца на біблейскае «не судзіце, каб і вас не судзілі», але... Ці не ў сакратарства Машэрава Беларусь была ператворана ў агульнасаюзны свінакомплекс і адначасова застаўлена ракетнай зброяй? Між тым, сам Першы мог міфатворча выйсці з верталёта ў гумовых ботах, узяць з рук перапалоханага калгасніка касу і прайсці невялічкі пракос... Але шкада нам і самога Першага, бо і ён трымцеў далёка не перад першымі з Масквы. Якраз гэта і дало падставу стварыць легенду аб ягоным забойстве з боку нібыта брэжнеўскай хеўры.

Не станем адмаўляць своеасаблівую каштоўнасць твора Міхася Парахневіча для сучаснасці і для гісторыі, але ён усё ж, на маю думку, атрымаўся «недацягнутым», непадключаным да вялікага літаратурнага працэсу. На жаль, аўтар не зусім выканаў запавет свайго літаратурнага настаўніка І. Грамовіча, які «на поўным сур'ёзе раіў больш глыбока і пільна прыглядацца да «галоўнага дома» і ягоных часовых насельнікаў, бо далёка не кожнаму пісьменніку выпадае магчымасць у жыцці ўсё чуць, усё бачыць, каб, калі гэта надарыцца, узяцца за пяро». Чаму так здарылася — меркаваць не будзем. Маем надзею, што аўтар яшчэ вернецца да гэтай тэмы, і чытач будзе мець мо другую рэдакцыю аповесці, а мо і новы твор. Мажлівасці і характар у яго для гэтага ёсць. Здолеў жа ён яшчэ ў тыя часы, даведзены да адчаю, кінуць у твар «падпалкоўніка» ідэалагічнай службы: «Вы яшчэ не Форд, а я вам не гаечнік». Дык што ж гаварыць пра сённяшні светапогляд? Трэба меркаваць, ён не застаўся ранейшым. Пра гэта сведчыць сам факт напісання твора.

У аўтара «Запісак...», адзначым таксама, ёсць што пазычаць у сэнсе тэм і сюжэтаў. Чаго варта, напрыклад, інфармацыя аб доме над Свіслаччу па вуліцы Я. Купалы, дзе праходзілі і, магчыма, яшчэ праходзяць грамадзянскія паніхіды па нікому сёння невядомых людзях, па дарэмна пражытых жыццях не самых калісь нязначных сыноў камуністычнай партыі! А як маглі б упрыгожыць які-небудзь твор у якасці эпіграфа словы аб дзейнасці журналістаў — гэтых балонак заангажаванага бальшавікамі жыцця: «Я ўсё больш ясна ўсведамляў: мы, газетчыкі, шмат «наўракалі», прыфарбавалі, а то проста і хлусілі».

І яшчэ. Будзем спадзявацца, што пачатае М. Парахневічам, пададзены ім прыклад будзе мець свой працяг у жыцці і творчасці іншых майстроў пяра. Хто сур'ёзна стане адмаўляць, што многім нашым пісьменнікам, і больш, і менш масцітым, ёсць што ў гэтым плане напісаць?

**Яўген ГУЧОК**

---

бібліятэкаркі Люсі /«Ліст з Асвеі»/: «Цяпер ненаселеных астравоў няма. Усе населеныя. У мяне брат на Шпіцберген хадзіў. Казаў — голыя скалы, мароз пяцьдзесят і жэрці няма чаго. А жывуць людзі».

Хочацца верыць: прыстасаванне да жыцця адбываецца ці будзе адбывацца ў герояў В. Мудрова толькі вонкава, а ўнутры застанецца: «Не! Ёсць ненаселеныя астравы, ёсць і будуць заўсёды, пакуль існуе Мара!..»

Амаль няма ў апавяданнях забаўнага /светлага/ гумару, няма і вострай, выкрывальнай сатыры, некаторыя /«Палонны Чорнага стэпу» і «Жанчыны ля басейна»/ увогуле працяты трагічнасцю людскіх лёсаў. Гэта ніколькі не змяншае вартасць кнігі, хутчэй наадварот. Адно з паняццем «смех» даводзіцца расстацца.

Можна зрабіць адну заўвагу: бывае, што апісанні, як характарыстыка стану герояў, і філасофска-лірычныя адступленні /асабліва «Узлёт і падзенне Адама Марштрупы»/ збіваюць зададзены тэмпарытм усяго твора, робяць яго цяжэйшым для ўспрымання.

Хоць апавяданні В. Мудрова закранаюць даперабудовачныя часы, цяпер яны набываюць яшчэ больш злавесны сэнс — грознае папярэджанне, што на нашыя мары і спадзяванні наступае тое жорсткае, складанае, бясcмешнае і трагічнае, што мы называем бязлітасным жыццём.

Дык будзьма смяяцца, каб не ўмерці?

**Сяргей МІНСКЕВІЧ**

---

*Надрукавана ў бібліятэцы «Маладосці»*

# «Пражыві чалавекам на гэтай зямлі...»

Вершы Ігара Пракаповіча з ягонай першай кнігі «Рэха малітваў» ні па форме, ні па змесце, здаецца, не вылучаюцца з агульнай беларускай паэтычнай плыні. Але, калі ўлічваць, што паэт атрымаў свой першы зборнік ва ўзросце Хрыста, дык, пэўна, вершы ў ім ахопліваюць усё паэтычнае жыццё творцы, усе ягоныя пошукі, ваганні, жыццёвыя адкрыцці. Гэта выклікае цікавасць. Акрамя таго, й само імя паэта сярод аматараў паэзіі «апошняе хвалі» знанае — нягледзячы на тое, што паэт жыве ў далёкіх ад сталіцы Паставах.

Ігар Пракаповіч яшчэ на пачатку так званай перабудовы атрымаў пэўную вядомасць як аўтар смелых адраджэнскіх вершаў. Нездарма ён сабраў іх у гэтай кнізе ў асобны раздзел «Белыя коні на чорнай траве», які складае бадай што палову зборніка. Сёння, параўноўваючы гэтыя вершы з падобнымі творамі іншых паэтаў, наўрад ці назавеш іх лепшымі ўзорамі паэзіі нацыянальнага абуджэння канца 80-ых — пачатку 90-ых гадоў. Як на мой густ, я адзначыў бы гэты верш:

**У блакітных вачах Беларусі**
**Дабрыні патаемная сіла...**
**Мірна ходзіць балотамі бусел,**
**Ціха спее над ярам каліна.**

**Тут на волю душу адпускаюць,**
**Каб над краем прывольным ляцела.**
**Каб у сэрцы ад гэтага раю**
**Адчувальна мякчэла, святлела.**

**Кожны ў свет увайшоў, каб змагацца**
**За святыні Радзімы і маці,**
**Роднай мовы сваёй не цурацца**
**І свой велічны род не паганіць...**

**Глянь у неба — там птушкі лятаюць,**
**А здаецца, што душы людскія.**
**Іх сягоння ў блакіт адпускаюць,**
**Каб набыць патаемныя сілы...**

Адзначаю не ў плане паэтычнай бездакорнасці. Ёсць у гэтым вершы нейкая таямнічая глыбіня. Ён найперш эмацыянальны, чым разумова-патрыятычны. Можа, такі сёння рацыянальны час, што не верыш словам, накшталт «ні дня не пражыць без Радзімы», або «О мова! Дарагая! З табою паміраю...» Гэткая патрыятычная экзальтацыя хутчэй выклікае ўсмешку, чым уздзейнічае на святыя пачуцці. Высветлілася, што аднымі заклікамі справу не зробіш. Справа гэтая патрабуе багата часу і карпатлівай працы. Той-сёй з тае нагоды нервуецца і ледзь не гатовы перайсці на лаянку. Часам і Пракаповічу здаецца, што ягоных сіл і трываласці не хапае:

**Жыццё ў правінцыі, як багна,**
**Жыўцом засмоктвае людзей.**
**І на душы крывавіць рана**
**Маіх няздзейсненых надзей.**

Не цяжка здагадацца, якія ж надзеі паэта не здзейсніліся, бо «Мой храм — Беларусь, Там ні п'яніц няма, ні забойцаў». А тут «сыты кнырь з хлява смяецца», таму, тлумачыць паэт, «у багне вязнуць мастакі». Нездарма так часта ўжывае аўтар «Рэха малітваў» слова «сэнс». Вось і людзі не хочуць разумець сэнсу прыгажосці: «у гразь скачалі, праз горад голай правялі, а потым хорам асмяялі, бо сэнсу так і не знайшлі».

Практычна ўся кніга і прысвечана пошуку сэнсу сённяшняга быцця. «Хто знойдзе сэнс?» — у другім вершы паўтарае паэт. — «Яго няма». Дык што ў гэткім выпадку трэба рабіць? «Глядзець на месяцаву жоўць і, як сабака, сэрцам выць...»? Ці «неабходна многае паспець, пакуль на цела не сыпнулі жвірам...»? «Бессэнсоўнасць жыцця вымушае шукаць далячынь...» Дзе ж тое жыццёвае апірышча, якое дазволіць спадзявацца на лепшае? Паэт згадвае прыклад Ісуса Хрыста: «Хай жа кроў разамкне вашы вейкі — вось таму я іду на Галгофу!» Аднак і рэлігія не дае адхлання — «да споведзі нельга пайсці: бо душа — атэіст».

Самога сябе не падманеш. Таму ў віленскім касцёле Святой Ганны, куды паэт прыйшоў у пошуках веры, ён пачынае прасіць веру ў... любоў, ён шэпча літаніі аб сваёй любай дзяўчыне.

Важным вершам для разумення пошукаў паэтам «сэнсу», з'яўляецца твор пра Музыку, які закахаўся ў Снежную каралеўну. Музыка бясконца грае для каханай на «льдзістай скрыпцы». Небарака, ён не разумее, што наўсцяж толькі лёд, а ў ідэальнай абалоні яго «няма ні каліва жыцця».

**Хто каралеўне прысягае,**
**Хто слепа верыць чысціні,**
**Той не згарае на агні.**
**І не жыве.**
**А сумна грае...**

Вось і атрымліваецца, што марна жыць вераю ў нейкую ўяўную чысціню, — ёсць ты, ёсць жыццё, І, дзякуй Богу, што «мы не стаміліся жыць». Гэткія ж думкі нараджаюцца і ў рубаі /бадай што лепшая нізка вершаў зборніка/, якімі заканчваецца кніга.

**Нам мала адпушчана радасных дзён**
**Дый тыя ідуць, як цягнік, пад адхон.**
**І мы падрываем чарговыя рэйкі**
**І з горла ізноў выціскаем праклён.**

Дык што атрымліваецца? Трэба не мітусіцца, не весці зацятую барацьбу з нематэрыялізаванай навакольнай пошасцю, а адчуць прыгажосць мала адпушчаных «радасных дзён»? А як жа тады «Мой храм — Беларусь», у якім «каторы ўжо раз д'ябал свечку з усмешкаю тушыць»? У адным з апошніх вершаў кнігі паэт спрабуе адказаць на гэтае складанае балючае пытанне:

**Пражыві чалавекам на гэтай зямлі.**
**Усё, што бачыш наўкола, — шануй і любі,**
**Стань крыніцай з гаючай і чыстай вадою**
**У смярдзючым балоце маны і хлусні.**

**Алесь АРКУШ**

*г. Наваполацк*

*Ігар Пракаповіч. Рэха малітваў. Вершы. Мінск, «Бібліятэка часопіса «Маладосць», 1993.*

---

# «І не да казкі, як жывеш...»

Не кожная з паэтак здолела б выплеснуць душу ў шчымліва-неспатольным звароце: «Даражэнечкі!.. Дарагі!..» Не кожны з чытачоў прыме і зразумее гэткую жаночую безагляднасць. Бо ёсць мера пачуцця — і мера яго мастацкага адлюстравання, што далёка не адно і тое ж.

Так, лірычная гераіня Марыі Панковай /скарыстаем гэтае традыцыйнае вызначэнне/ умее кахаць моцна, самаахвярна, аж да поўнага растварэння сябе як асобы ў «прадмеце страсці»:

**Я прыпадаю асакой,**
**Калючай, безнадзейнай.**
**Пабудзь са мной,**
**Пабудзь са мной,**
**Як свята,**
**як нядзеля.**

**Усё жыццё так прагла я**
**Да рук тваіх прыпасці.**
**Адчуй мяне, сасмяглую**
**Па шчасці...**

«Сасмягласць па шчасці» адчуваецца ва ўсім — у прамых, амаль малітоўных прамаўленнях да каханага, у высокай — да зрыву голасу — інтанацыі, у раптоўных збоях рытму ці поўным адмаўленні ад рыфмы.

**Я стала вельмі ціхай,**
**Я не магу крычаць...**
**Я гаварыць, бывае, не магу...**

Шчодра ўсыпаны вершы паўторамі, клічнікамі, шматкроп'ямі, аздоблены эпіграфамі, пярэсцяць эмацыянальнымі гіпербаламі: «Я столькі змагла ў Вас убачыць, што хопіць, каб жыць між людзей», «Не, то не проста вочы... Не, то не проста сум», «Запамінайце, о вякі!..» і да т. п.

У невялічкай па аб'ёме маладосцеўскай кніжцы Марыі Панковай змясціліся 83 вершы. У пераважнай большасці яны безназоўныя, кароценькія, зыркія, як сполах маланкі: высвечваюць адзін нейкі міг духоўнага жыцця. Жыцця адпачатку неўраўнаважанага альбо страціўшага раўнавагу, ускалыхнутага палкім пачуццём. Тут вяршыні шчасця і бездань смутку, надзея і адчай, папрок і прымірэнне. Гэтая маланка, калі развіць параўнанне, асляпляе і палохае. Яна спальвае сабой і — сябе, як быццам аддаць назапашаны ток — адзіная яе мэта і прадвызначэнне. Імпульсіўны душэўны парыў, можа, і аб'екта асабліва не выбірае — як не выбірае бліскавіца дрэва. Хаця і бліскавіца, і каханне часцей трапляюць у высокае...

Не пазайздросціш таму, хто меў рашучасць і адвагу прыняць пякельны дарунак. Праўда, у кнізе ягоны вобраз безцялесны і безаблічны. А што ў адным з вершаў ён прадстаўлены як «адзінокі воўк», дык гэта не больш, як літаратурны прыём.

«Я выпакутавала Вас!» — сказана ёмка і дакладна, хаця і не без экзальтацыі. Празмерная экзальтаванасць — асноўны хіб лірычнай гераіні і прычына ладнай долі паэтычнага баласту ў зборніку «Нязбытнаю ласкаю»: ёю спароджаны самыя слабыя, банальныя радкі і вершы. Патрэбны прыклады? «Божа! Вярні мне яго рукі...», «Вы — лёс мой, Вы — страшны мой лёс!..», «Я жыць без святла не магу! Вы так мне патрэбны!» і да т. п.

**Сапраўднае** не ў прыведзеных радках, яны — толькі слабое водгулле, вынік паспешлівасці і чыста жаночай нецярплівасці — як мага хутчэй занатаваць на паперы перажытае.

«Спыніць імгненне» — задача не з простых, бо, па-першае, жывое, сённяшняе пачуццё без часавай аддаленасці і пэўнай ступені асэнсавання рэдка прыводзіць да творчых удач. Па-другое, патрабуецца валоданне пяром, або майстэрства, каб пазбегнуць інтанацыйнай аднастайнасці, каб захаваць тую самую **меру**.

З мерай, як мы высветлілі, у Марыі Панковай нелады. Затое ў яе паэзіі ёсць тое, без чаго перагарнуў бы старонкі з лёгкім скепсісам /ці мала мы чыталі рыфмаваных жаночых прызнанняў!/, а іменна: ёсць сапраўдны, непрыдуманы боль. Боль — гэткая ж фізічная рэальнасць, як і эйфарыя шчасця /два бакі аднаго медаля/. Без драматызму не бывае сапраўднай лірыкі, як не бывае вішні без кіслі. /Дарэчы, вішня — любімы вобраз паэткі/.

**О, гэты свет, глухі і цяжкі!**
**І не да казкі, як жывеш...**
**...Як гаснуць сонечныя краскі!**
**Як плача выплаканы верш!**

«У вершах М. Панковай шмат жалю і тугі, смутку па тым, што не спраўдзілася, не збылося». Мы маем рэдкую магчымасць працытаваць удалую анатацыю. «Неадлюбленае, неаджытае» не столькі канстатуюцца паэткай, колькі прысутнічаюць як бы паміж радкоў — у тоне, настроі вершаў. Няма сумнення: перад намі душа — насуперак узросту — нерастрачаная, здольная тужліва задумацца, светла паўспамінаць ды так па-бабску пашкадаваць сябе саму.

Хоць кніга «Нязбытнаю ласкаю» не прэтэндуе на разнасцяжнасць тэматыкі, на значнасць і вынашанасць абагульненняў, на выяўленчыя знаходкі, але найбольш мяне засмучае ў ёй не гэта, а адсутнасць аўтарскай самадысцыпліны. Няма ніякай патрэбы занатоўваць кожны сардэчны рух, бо далёка не ўсе яны варты ўвагі, а тым больш адлюстравання. Няма і якой-небудзь пэўнай кампазіцыі ў гэтай «паэме кахання» — усё ўроссып, адвольна, без логікі і паслядоўнасці.

Казаць пра логіку ў дачыненні да кахання было б гэтак жа недарэчна, як і пра меру — калі б не наступная, істотная ў дадзеным выпадку акалічнасць: жанчына, «якая спявае», — трошкі болей, чым проста жанчына. А каму дадзена, з таго і патрабуецца.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Марыя Панкова. Нязбытнаю ласкаю. Вершы. Мінск, «Бібліятэка часопіса «Маладосць», 1993.*

Проза

Алесь АСІПЕНКА

# ГЕНСЕК І ГЕНІЙ

## I

Генсек меўся адбыць у сталіцу пасля кароткага развітальнага абеду ў рэзідэнцыі, спецыяльна да яго прыезду пабудаванай і аздобленай з усходняй пышнасцю і неэканомнасцю. Учора была вячэра, якая зацягнулася далёка за поўнач, так што Генсека, як жартавалі памочнікі, ледзьве закацілі на брывах у нумар. Ранні развітальны абед быў адначасова і познім снеданнем.

Абед ішоў па складзеным сцэнарыі: шмат пілі, елі, гаварылі па-ўсходняму доўгія квяцістыя тосты, цешылі Генсека песнямі і танцамі, падносілі дарагія падарункі ад прадпрыемстваў і арганізацый, частавалі старым вытрыманым віном, а калі якое падабалася высокаму госцю, адпраўлялі ў сталіцу скрыні з упадабаным пітвом.

Нашпігаваны перад банкетам замежнымі лекамі, Генсек надзіва адчуваў сябе бадзёра, а прыём, наладжаны яму, выклікаў маральнае задавальненне і неадольнае памкненне купацца ў гэтай мілай атмасферы ўсеагульнага пакланення і пашаны.

У апошнія гады Генсек стаў заўважаць нейкую сваю ўласную непаўнацэннасць. Усё як бы заставалася ў рамках былых традыцый — слова Генсека па-ранейшаму было апошнім і бясспрэчным словам, а пашана да яго — той жа, што выказвалася да папярэдніх правадыроў, — але акалічнасці падчас змушалі задумвацца: наколькі шчырымі з ім бываюць сябры і паплечнікі?..

Магчыма, такое глупства лезла ў галаву таму, што ён стаў глухнуць. Спачатку перастаў чуць на правае вуха, а неўзабаве слых пагоршыўся і на левае. Мала таго, што ён перастаў добра чуць, дык яшчэ не паспяваў асэнсоўваць пачутае, губляў нейкія важныя словы ў кантэксце размовы, пасля чаго яна набывала сумбурны характар.

У сваім асяродку з гэтым яшчэ можна было мірыцца. Але ж зрэдчас даводзілася кантактавацца з зарубежнымі дзеячамі. Гаворка, вядома ж, вялася цераз перакладчыкаў, і хоць Генсек не заўсёды чуў, што яму перакладаюць, а таму дапускаў прыкрыя промахі, але ён быў упэўнены, што тлумачы не схібяць, перакладуць замежнаму палітыку тое, што выгадна дзяржаве. І ўсё ж адчуванне непаўнацэннасці пасля такіх сустрэч абвастралася, Генсек — вядома, толькі ў думках — абзываў сябе палітычным імпатэнтам. Фізічным ён стаў некалькі раней.

Пра імпатэнтнасць Генсеку падумалася невыпадкова — да мікрафона якраз выйшла славутая эстрадная спявачка, рухавая фігура якой выклікала ў памяці дужа вольныя асацыяцыі. «Але як яна апынулася тут?» — падумаў Генсек і стаў назіраць за яе эратычнымі рухамі, якія выклікалі ў яго пэўныя эмоцыі.

Божухна, было б гэта гадкоў пяць назад!..

А між тым, прыдворная світа таптался ў разгубленасці. Справа ў тым, што па сцэнарыі, распрацаваным яшчэ ў сталіцы, Генсек павінен быў пакінуць гасцінную рэспубліку паўтары гадзіны назад. У сталічным аэрапорце, напэўна, ужо з'ехаліся члены палітбюро і ўрада, каб сустрэць дарагога Генсека. Нават затрымка на паўгадзіны выклікала б у іх гнеў і абурэнне. У выніку вінаватай акажацца світа і найперш палкоўнік, які адказваў за графік і бяспеку Генсека.

Палкоўнік адклікаў убок першага памочніка Генсека, папрасіў:

— Намякні Генсеку, што мы затрымліваемся на паўтары гадзіны...

— Ужо на гадзіну пяцьдзесят чатыры хвіліны, — зірнуўшы на швейцарскі хранометр, удакладніў памочнік. — Ды не станем псаваць настрой Генсеку.

— Але ж графік...

— Тады скажы Генсеку сам, — прапанаваў памочнік.

## II

Малады Геній — славуты кампазітар і не менш славуты дырыжор — без аніякай ахвоты браў удзел у Тыдні літаратуры і мастацтва сваёй рэспублікі ў Сярэдняй Азіі. Ён толькі што вярнуўся з турнэ па Еўропе, марыў пра зацішша, каб напісаць сімфонію, якая завалодала ім у часе гастроляў, як яму прапанавалі паўдзель-нічаць у мерапрыемстве, якому надавалася аж сусветна-глабальнае значэнне.

Геніі таксама знаходзяцца ў залежнасці ад абставін, людзей і асабліва тых, хто валодае ўладай. Генія чамусьці вельмі доўга не выпускалі за мяжу; дапамог тутэшні генсек, які цяпер і ўзначальваў дэлегацыю, што ляцела на Тыдзень літаратуры і мастацтва. Не паслухацца яго было няёмка і небяспечна. І Геній змушаны быў даць згоду.

Як і чакалася, Тыдзень ператварыўся ў бясконцы ланцуг кашмарна доўгіх пасяджэнняў, банкетаў, прыёмаў і звычайных выпівонаў з традыцыйнымі шашлыкамі і пловамі. Тыдзень і закончыўся вялікім сумным канцэртам і кароткім банкетам, на якім прысутнічалі члены тамашняга палітбюро на чале з уласным генсекам, які лічыўся прыхільнікам і мецэнатам музыкі і прыгожага пісьменства.

Геній меў гонар паціснуць руку тамашняму генсеку і змушаны быў расплачвацца за гэты гонар.

— А мы вас затрымаем на які дзянёк, — паведаміў Генію тамашні генсек. — Падырыжыруеце нашым сімфанічным аркестрам. Народ прагне вас бачыць і чуць і ён не даруе нам, калі вы не згодзіцеся...



Мал. У.СКРЫГАНАВА

Геній умольна глянуў на свайго генсека — той толькі развёў рукамі.

— Мне не хацелася б адставаць ад дэлегацыі, — асмеліўся запярэчыць Геній. — Яна ляціць спецрэйсам і без пасадак на прамежкавых аэрадромах...

— Але ж і вы, наш дарагі госць, паляціце спецрэйсам, — адказаў генсек, і Геній вымушаны быў згадзіцца.

Такі ўжо лёс геніяў!..

Радавала адно — канцэрт удаўся. Зала слухала музыку затаіўшы дыханне. Аркестранты ігралі выдатна. А на завяршэнне ўсяго, пасля канцэрта, было аб'яўлена, што кампазітару і дырыжору брацкай рэспублікі прысвойваецца званне народнага, якое Геній не меў у сябе на радзіме. Аднак міністр культуры шапнуў яму, што дома яго чакае такое ж высокае званне.

Праводзіць Генія ў аэрапорт прыехала безліч народу. Тамашні генсек і апякун музыкаў праводзіць Генія не прыехаў, але выслаў вялізны кошык цудоўных ружаў.

## III

Згодна з распрацаванай інструкцыяй, зацверджанай сумеснай пастановай палітбюро і ўрада, на час палёту Генсека ўсе аэрапорты еўрапейскай часткі краіны /а калі Генсек ляцеў у азіяцкія рэгіёны, дык і азіяцкай часткі/ закрываліся: у паветры не дазвалялася знаходзіцца не толькі рэйсавым, але спартыўным, вучэбным, санітарным і іншым самалётам. Называлася гэта забеспячэннем надзейнага паветранага калідора. За парадкам сачыла не толькі аэрапортаўскае начальства, але служба супрацьпаветранай абароны і спецслужба дзяржаўнай бяспекі, якую ўзначальваў генерал-палкоўнік, чалавек з неабмежаванымі магчымасцямі і такой жа ўладай.

Атрымаўшы інфармацыю, што неба на ўсёй еўрапейскай частцы краіны ачышчана ад лятальных апаратаў, а Генсек адчувае сябе надзвычай бадзёра, генерал-палкоўнік пазваніў вядомай мастачцы, з якой у яго цягнулася даўняя і ўжо добра абрыдлая сувязь. Генерал-палкоўнік не раз ужо збіраўся парваць інтымныя адносіны з каханкай, але, не пабачыўшы яе больш за тыдзень, пачынаў адчуваць жахлівую пустату, і вяртаўся да мастачкі, як кола ў раз'езджаную каляіну.

Шчыра кажучы, дык генерал-палкоўніка звязвала з палюбоўніцай не адна інтымная блізкасць, але і службовыя дачыненні — мастачка была ягоным асабістым і вельмі карысным агентам, уваходжым і ў кола творчай інтэлігенцыі, і ў кола партыйнай эліты. Адначасова па ўказанні зверху мастачка сачыла і за самім генерал-палкоўнікам, які ў чыноўных вярхах лічыўся непрадказальным, безразважным і нават авантурыстычным, у падначаленні якога, тым не менш, знаходзілася магутная, добра ўзброеная і вельмі сакрэтная часць асобага прызначэння.

Падспудна генерал-палкоўнік здагадваўся, што за ім нехта сочыць, а таму імкнуўся пры кожным выпадку падкрэсліваць сваю адданасць Генсеку, захоўваючы старое чыноўнае правіла: дагаджаць не толькі Генсеку, але і ягонаму сабаку.

— Я паслаў па цябе машыну, — пачуўшы такі знаёмы голас, сказаў генерал-палкоўнік мастачцы.

Прывыклая да выклікаў у любы час сутак, мастачка не стала задаваць лішніх пытанняў: калі па яе паслана машына, дык шафёр ведае, куды трэба ехаць.

Выплеснуўшы на сябе ледзь не палову флакона французскіх духоў, мастачка выйшла на вуліцу — насупраць пад'езда стаяла светла-шэрая «Волга» з таксісцкімі шашачкамі. Звычайны генеральскі трук, каб захаваць канспірацыю.

## IV

Са спазненнем на дзве гадзіны пятнаццаць хвілін самалёт Генсека вырулiў на ўзлётную паласу. Праз шкло ілюмінатара з салона было добра відаць, як на бетонных плітах аэрадрома ўсё яшчэ стаяць карлікавыя постаці праважатых, махаюць рукамі, мабыць, ад шчасця, што візіт Генсека закончыўся, можна нарэшце адпачыць у чаканні ўзнагарод.

Самалёт, уздрыгваючы корпусам, прабег па ўзлётнай паласе, мякка адарваўся ад зямлі, пачаў крута набіраць вышыню. Яго тут жа падхапілі шматлікія радары і дыспетчарскія пункты, каб сачыць за палётам адзінага на ўсю еўрапейскую частку краіны генсекаўскім самалётам.

Зрабіўшы разварот над горадам, самалёт лёг на курс, і адразу ў салон да Генсека зайшоў першы памочнік — прынёс на подпіс тэлеграмы. Зверху ляжала тая, у якой выказвалася гарачая падзяка начальству і народу, які так хораша прымаў Генсека. Астатнія тэлеграмы пасылаліся ў краі і вобласці, над якімі пралятаў Генсек. У іх выказвалася ўпэўненасць, што народы вобласці або краю і надалей будуць нястомна будаваць светлае заўтра.

Змацаваўшы тэлеграмы ўласнаручным подпісам, Генсек звярнуўся да памочніка з пытаннем, якое і цешыла і хвалявала яго.

— Як ты мяркуеш, наша паездка ўдалася? — спытаўся Генсек.

— Яна стала гістарычнай вяхой, — удакладніў памочнік.

— А ці ёсць у тамашняга генсека залатая зорка героя? — пацікавіўся Генсек.

— Ёсць, — адказаў памочнік і, падумаўшы, дадаў: — Але яму не зашкодзіць і другая...

— Унясі гэтую маю прапанову на наступнае пасяджэнне палітбюро, — распарадзіўся Генсек, а калі памочнік сабраўся выходзіць, запыніў яго: — А як трапіла ў склад нашай дэлегацыі эстрадная спявачка?..

— Разумееце, — чамусьці завібрыраваў памочнік, — яе вельмі прасілі ўвесці ў склад дэлегацыі нашы гаспадары і ў прыватнасці тутэшні генсек дзеля большай інтэрнацыяналізацыі канцэрта.

Генсек або не пачуў, што яму сказаў памочнік, або прытварыўся, што не пачуў.

— Можа, яна праспявала б мне, — пацямкаў тлустымі губамі Генсек. — Кажуць, у яе выдатны голас...

Эстрадная спявачка адразу здагадалася, якіх песень ад яе чакае Генсек, і вельмі падзівілася: няўжо гэтая развалюха яшчэ нешта можа? Яе нават разабрала цікаўнасць: а як усё адбудзецца?.. Зрэшты, цікаўнасць саступіла месца звычайнай практычнасці. У ансамбля няма памяшкання для сталай працы, ды і выступаць даводзіцца ў арандаваных залах, а за арэнду бяруць вялікія грошы. Дык ці не паможа Генсек, калі да яго добра падлашчыцца? Нічога не паробіш — мастацтва патрабуе ахвяры...

Яна зайшла ў салон Генсека з выразам нявіннасці і найвялікшай пашаны да чалавека, якому абавязана ўсім сваім жыццём.

— Сядай, — запрасіў яе Генсек і паказаў на мяккае крэсла насупраць таго, у якім сядзеў сам. — Карыстаючыся выпадкам, я вырашыў спытацца, ці створаны твайму ансамблю належныя ўмовы?..

Эстрадная спявачка аж расчаравалася. Пра колішнія перамогі Генсека над жанчынамі ці мала гаварылі ў сталіцы. Выходзіць, усё мана. У Генсека, апрача клопатаў пра ўмовы працы акцёраў, ніякіх іншых намераў няма.

— Умоў, лічыце, ніякіх, — пайшла напрасткі спявачка. — А між іншым, нам бы вельмі падышоў будынак...

І яна назвала дом, які толькі што быў пабудаваны дзеля іншых мэт, але сапраўды падыходзіў яе ансамблю.

— Дык за чым справа? — на адэскі лад спытаўся Генсек і паклаў цяжкую склератычную руку на голае калена спявачкі.

— Дык жа гарсавет супраць... Ды і міністэрства культуры...

— Спадзяюся, што ўдваіх мы ўгаворым і гарсавет і міністэрства культуры, — не дужа выразна сказаў Генсек і прасунуў руку пад кароценькую спаднічку спявачкі.

— Толькі на вас і надзея, — прачула вымавіла спявачка.

Крадком яна паглядзела на мяккі тапчан — можа, варта перасесці на яго, бо Генсеку, магчыма, самому няёмка цягнуць яе туды. Але ж трэба, каб Генсек хоць як намякнуў ёй, каб перасела на зручны тапчан. Генсек намёку не падаваў. Затое ягоная рука дагрэблася да запаветнага месца, уздрыгнула і замерла, толькі ледзь варушыліся пальцы ды вочы Генсека зрабіліся масляністыя, як памазаныя алеем аладкі. Спявачка падумала-падумала, нахілілася да Генсека, прыклалася тонкімі вуснамі да ягоных тлустых губ, лізнула іх языком. Генсек аж застагнаў ад насалоды.

— У цябе якое званне? — выцягнуўшы руку з-пад спадніцы, спытаўся Генсек.

— Заслужаная...

— Будзеш народная, — паабяцаў Генсек і, каб не забыцца, паклікаў памочніка,

якому загадаў унесці неабходную прапанову на палітбюро.

## V

Спецрэйс, якім павінен быў вяртацца дамоў Геній, прызначаўся для дастаўкі футбольнай каманды на радзіму кампазітара, дзе меўся адбыцца каляндарны матч на першынство краіны. Ляцелі абодва склады каманды разам з трэнерам, начальнікам каманды, доктарам, масажыстам і яшчэ нейкай абслугай. Футбалісты ўжо каля гадзіны рэзаліся ў карты і даміно, не разумеючы, чаму іхні самалёт не ўзлятае ў паветра. Нехта з каманды выказаў здагадку, што з імі паляціць Хазанаў, які быццам бы меўся выступаць на стадыёне, але чамусьці не выступіў. Здагадка нібы і пацвердзілася, калі футбалісты пабачылі мноства машын, якія падрулілі аж да самага трапа. Але той, каго праводзілі, быў зусім непадобны на Хазанава, і ў футбалістаў прапаў да яго інтарэс.

Як толькі Геній заняў вольнае месца ў самым хвасце самалёта, прывязаўся рэменем, самалёт вырулiў на ўзлётную паласу і неўзабаве ўзняўся ў паветра. Геній, узрушаны праводзінамі, летуценна глядзеў у акенца-ілюмінатар, за якім распасціралася сінявата-попельнае неба, а далёка ўнізе слалася пад крылом яшчэ зялёная, расчэрчаная квадратамі зямля з рэдкімі паселішчамі.

Неяк незаўважна Генія запаланіла музыка і яшчэ больш пачуццёвая, глыбокая і па-народнаму мудрая за тую, што трывожыла яго ў часе паездак па Еўропе. Цяпер нішто не замінала сканцэнтравацца і хоць збольшага запісаць яе на паперу. Праўда, у яго не было інструмента, але і без раяля ён чуў кожны гук, кожную ноту, кожны нюанс будучай сімфоніі.

Футбалісты ўжо драмалі ў крэслах. Самалёт роўна і нягучна гудзеў турбінамі, быццам недзе за яго сценамі працаваў вялізны пыласос. Ён не перашкаджаў працы.

— Я прынясу вам кавы, — пачуў Геній мілагучны дзявочы голас.

З вышыні жаночага росту на яго глядзелі дзве азярынкі вачэй, такіх, як і ў ягонай жонкі.

— Дзе мы ляцім? — спытаўся ён, быццам у іхнім месцазнаходжанні заключаўся ўвесь сэнс жыцця.

— Дык ужо над Еўропай, — усміхнулася яна.

А ён і не заўважыў, што ляціць ужо каля трох гадзін. Блаславёны час творчасці — яго не заўважаюць творцы.

## VI

Аператары радарных установак вялі самалёт Генсека. Яркая кропачка гэтая рухалася з поўдня на поўнач. Прывычная справа прывычных людзей.

Раптам на экранах узнікла яшчэ адна кропка, якая перамяшчалася з усходу на захад. Такога не магло быць. Але такое было — радары не ўмеюць хлусіць. Яны не людзі, прывыклыя да маны і ашуканства. Адразу запрацавала сувязь. Начальства высвятляла, хто, адкуль і куды ляціць, што за людзі на борце самалёта і чаму яны парушаюць самую строгую інструкцыю?

Прайшлі лічаныя хвіліны, за якія быў знойдзены адказ на ўсе пытанні: спецрэйс з футбалістамі на борце самалёта, разам з імі Геній, ён жа кампазітар і дырыжор, які быў пакінуты тамашнім генсекам, каб падырыжыраваць сімфанічным аркестрам. Рэйс наладжаны па ўказанні самога тамашняга генсека, які да ўсяго з'яўляецца членам палітбюро. Але ўсё адно трэба было садзіць самалёт на першы па шляху аэрадром. Каб спецрэйсам не кіраваў сам тамашні генсек, самалёт пасадзілі б і без адпаведнага загаду. Цяпер апошняе слова належала генерал-палкоўніку, які адказваў за бяспеку Генсека і астатніх членаў палітбюро.

Слова генерал-палкоўніка было рашаючым і адмяніць яго мог толькі сам Генсек.

## VII

Генерал-палкоўнік чакаў мастачку, узбуджана пахаджваючы па вялізным пакоі з шырокай тахтой і мноствам падушак на ёй. Апошнім часам ён вельмі растлусцеў, хоць рэгулярна гуляў у тэніс і плаваў у басейне. Незлічоныя банкеты, што наладжваліся з баярскай пышнасцю, накладалі свой адбітак на нязграбную генеральскую постаць. А з растлусцеласцю з'явілася тое, што звычайна здараецца з мужчынамі пэўнага ўзросту — генерал-палкоўнік цярпеў у жанчын паражэнне за паражэннем. Толькі перад мастачкай ён не ведаў адступленняў, таму і цаніў такую палюбоўніцу.

Калі ён пабачыў яе, зацягнутую ў паркалёвую сукенку, з якой дужа рэльефна выступалі абрысы яе гнуткага цела, генерал-палкоўнік адчуў да адурэння зняможлівую пажадлівасць. Ён нястрымана схапіў мастачку ў абдымкі, не памятаючы сябе, сарваў з яе сукенку, так што мастачка засталася ў кароценькай камбінацыі і туфельках на высокім абцасе.

Звычайна мастачка станавілася так, каб генерал-палкоўніку было зручна павалiць яе на тахту. На гэты раз яна не паспела дайсці да тахты, а таму апусцілася на мяккі тоўсты дыван. Разам з ёю асеў на дыван і генерал-палкоўнік...

На століку пры тахце якраз у гэты крытычны момант дрэнькнуў тэлефон. Генерал-палкоўнік аж здрыгануўся. Званіць сюды мог толькі ягоны першы намеснік і, безумоўна, па звышважнай справе.

— А-а-а, чорт, — вызверыўся генерал-палкоўнік і падпоўз да тэлефона. — Ну, што табе? — пагрозліва крыкнуў генерал-палкоўнік, нават не спытаўшы, хто звоніць.

— У зоне пасажырскі самалёт, — далажыў намеснік.

Да генерал-палкоўніка доўга не даходзіла, пра якую зону кажа намеснік, пра які самалёт, а калі дайшло, ён раз'юшана крыкнуў:

— Збіць!..

Пасля нядоўгага маўчання намеснік паспрабаваў асцярожна запярэчыць:

— У самалёце футбольная каманда нашай сістэмы...

— Футбалісты не артысты, — адказаў генерал-палкоўнік і вельмі застаўся задаволены сваім адказам.

— У тым і справа, што гэтым самалётам ляціць Геній — вядомы кампазітар і дырыжор...

Гнеўнае раздражненне ахапіла генерал-палкоўніка.

— Ты што, такую тваю, — вылаяўся генерал-палкоўнік, аж мастачка зацiснула далонямі вушы, — загадаў не разумееш?! Збіць!... Падумаеш, Геній. Ды ў нас геніяў навалам... Збіць!..

Тройчы паўтораны загад змусіў намесніка замоўкнуць. Каму хочацца губляць выгадныя пасады...

## VIII

Сцюардэса прынесла кубачак кавы. Падаючы яго Генію, спыталася:

— Вы — кампазітар?

— Крыху...

— Як Пахмутава, пішаце песні?..

— Ствараю сімфонію...

— А я сімфоній не разумею...

Самалёт страшэнна страсянула, падкінула ўгору. Грукат і свіст абрынуліся на Генія. Перад вачамі мільганула і знікла сцюардэса. У прасторы разляталіся аркушы нотнай паперы з запісанай на ёй музыкай. Геній паспеў схапіць адзін аркуш, зацiснуў у руцэ. У чорнай прасторы разляталіся ва ўсе бакі рэчы, людзі, абломкі самалёта. Яны ляцелі і кружыліся. А можа, кружыўся ён сам. З ім заставалася толькі музыка. Яна гучала ў ягонай памяці і пасля таго, як ён страціў прытомнасць.

Музыка, якую людзі так і не пачуюць...

## IX

Праз тыдзень пасля непрыкметных для шырокіх народных мас падзей адбылася помная і нават гістарычная падзея — Генсек уручаў узнагароды і дыпломы на званні вялікай групе дзеячаў сцэны, кіно, эстрады і палітыкі. Сярод іх быў і генсек рэспублікі, што так гасцінна прымала Генсека, і эстрадная спявачка.

Як і належыць, Генсек сказаў змястоўную, прачулую прамову, напісаную яму памочнікам па пытаннях культуры. У прамове праводзілася тая бясспрэчная думка, што геніі надзвычай рэдкая з'ява ў жыцці народаў, а таму яны з'яўляюцца залатым фондам нацыі і іх трэба шанаваць і берагчы.

Назаўтра ўсе газеты выйшлі пад шматзначным загалоўкам: Геніі — залаты фонд нацыі.

## X

Месца аварыі з самага таго дня, як самалёт грымнуўся аб зямлю, было абкружана войскам. Ішло скрупулёзнае збіранне рэштак самалёта, рэчаў і саміх пасажыраў. У адной са сталічных газет з'явілася непрыкметнае паведамленне аб аварыі рэйсавага самалёта і аб створанай камісіі па прычынах аварыі.

На другі дзень пошукаў на дне глыбокага яра салдаты знайшлі крэсла з прывязаным да яго тулавам. У руцэ чалавека быў зацiснуты аркуш нотнай паперы.

Тулава разам з крэслам паклалі ў агульную магілу-яму.

Паэзія

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ



# ДА ВЫШЫНЯЎ ІМКНЕЦЦА ДУША...

### ПАЛЫН

Дарма цябе абгаварылі,
Бо з гаркаватым пахам ты,
Я на тваім замглёным крыллі
Гатоў праспаць да яснаты.

Ты неразгадная загадка
Чыйгосьці горкага жыцця,
Што не ўзрасло на роўных градках
І лёс яго мяне працяў.

Ля ганка спарахнелай хаты
Як буйна ты ў цішы расцвіў!
І ты зусім не вінаваты,
Што хату раз'ядае цвіль.

Ізноўку думкі развярэдзіў
Ты, адшчапенец паміж траў,
Няма такіх на свеце спраў,
Каб дзеля іх цябе не згледзець.

Між разнатраўя-разналюддзя
Ты одум і майго быцця.
Не ведаю, што з намі будзе,
Ды ведаю, што ёсць працяг

Любое кволае былінкі
І мне яна
чым не сястра:
Адной мы ўскормлены скарынкай
Зямлі... для моцнасці нутра.

Куды б ні скіраваў я крокі,
Упруся ўрэшце у пагост.
І мой палын замглёнавокі
Прыпыніць недзе ўласны рост...

●

Супыніся, д'ябальская сіла,
Дай дачушку мне падгадаваць!
Гэта ж столькі ты людзей скасіла...
Мала! Затаптаць патрэбна ў гаць,
Выкачаць збалелага ў пакутах,
Каб ён смерці сам сабе прасіў
Не героем да скалы прыкутым —
Чарвяком, забыўшы неба сінь.
А ў мяне ў грудзях запас любові
Да дзіцёнка, да цябе, народ,
А ў мяне пачуццяў столькі ў слове,
Што не можа зледзянець мой род.
Гэта ў казках волаты-асілкі
Сціснуць камень — і вада цячэ,
І дрыжаць пад позіркам асінкі,
І гара для іх за пух лягчэй.
Я, вядома, іншай загартоўкі
І мяне бароніць не бліндаж,
У якога скура у тры столкі
Ды яшчэ на пузе патранташ.
На маім баку адно сумленне
Ды худыя рукі не ў крыві
Ні суседа і ні пакалення,
Бо замешаны я на любві.
І не вам, няпрошаныя д'яблы,
Лютаваць бы ля майго жыцця!
Не рассыплюцца і без мяне ўжо ямбы:
Я вязаў іх як сябе працяг...

### СВЯТА ЧЫСЦІНІ

Бялізна на балконе заінела.
Так зззяе дэфіцытны парашок,
Што чорная кашуля
стала белай,
Святочны дзень
у будні дзень зайшоў.
Марозам пахне.
Чысціню такую
Прыносіла калісьці
мама ў дом.
З тае пары я чысціню святкую.
Святочная бялізна за акном.

●

Адчайны час не разлічыў:
І ў новым дні і ў новым класе,
Хто быў нічым —
Нічым застаўся,
Хоць век і падхапіў пачын.

Гудзе,
гамоніць лес-народ,
Прагалы ўспомніўшы,
прасекі,
Не хочацца,
каб дрывасекі
У новы рушылі паход.

●

Як умеем, як можам, жывём.
Наша доля ад нас не залежыць.
Кожны ў свеце з уласным кляймом.
Нашай волі акрэслены межы.

А душа ўпадабала разгон.
А душа да вышыняў імкнецца.
Ды вяртаюць яе ў загон:
Кажуць, сэрца і тое у клетцы...

●

Мітынгуюць зараз хлопцы
Ад вясны і да вясны.
Як прышчэпкі на вяроўцы,
Балансіруюць яны.

Вузялочкамі на памяць
Рвуцца ў неба кулачкі,
Слоўаў ветраная замець
Разлятаецца ў бакі.

Я зайздрошчу ім — раскоша,
Бо ніхто не б'е пад дых.
Як распораныя клёшы,
Сёння думкі ў маладых.

### СВАРКА

Калі ўсёдзяржаўная сварка
Галоўны занятак дня,
То скварку мець і да скваркі
Не можа такая радня.

Тады ў суседзяў жабруе
Народа самотны цень.
Тады цэлы свет гаруе
Ад сораму за людзей.

●

Скрычыцца радзіма,
Сап'ецца жонка
І дзеці паставяць
крыж на бацьках...

І ўсё гэта будзе
Толькі старонкай
З кніжкі гісторыі
ў нашых руках.

І ўсё гэта спішацца
І запішацца
На выдаткі
свавольных дзён,
Калі забіваюць,
галосяць,
хрысцяцца...

І шклянак звон,
Як царкоўны звон.

●

Пра шчасце казачку не бай,
Радзіма дарагая...
Мы ў цемры скончылі свой баль.
Стагоддзе дагарае.

Мы кінуліся распачаць
Лад модны самы, новы,
І лямпачкі ўсе Ільіча
Разбілі аб галовы.

●

Адпакутуе і абновіцца
Радзіма,
нібыта ікона...
Да апошняе, раны загояцца,
Зажывём памяркоўна.

Гэта бачу я часта,
Як ніхто мо не бачыць зараз...
Трэба раіцца з часам
Ды адно не развітвацца з марай.

●

Чакаю ранніх дзён і ранніх птушак
Пасля ўчарнелай ад дажджоў зімы.
Закон прыроды чалавек парушыў
І пачарнелі душы і грамы.

Даўно мы гэтым колерам заняты —
Ад чырвані раптоўны перапад.
А між зямлёй і небам перакаты
Грымотных спраў і бліскавічных страт.

ЛіМ - часапіс

## СНЕЖАНЬСКІЯ ІМЯНІННІЦЫ

**Марына Мікалаеўна Бяльзацкая, старэйшы харэограф, стваральніца й мастацкі кіраўнік знанага далёка за межамі Беларусі дзіцячага народнага ансамбля танца «Равеснік», адзначыла сваё 80-годдзе. У гонар юбіляркі была наладжана ўрачыстасць у мінскім Палацы культуры прафсаюзаў. І яшчэ адна выдатная жанчына Беларусі справіла нядаўна свой дзень нараджэння: Зінаіда Мажэйка, вядомы ў шырокім навуковым свеце этнамузыколаг. Пра яе як пра жанчыну года пісала сёлета ў «ЛіМе» музыказнаўца Р. Аладава, згадваючы, між іншым, працу З. Мажэйкі над новым дакументальным фільмам. Прэм'ера яго /а называецца фільм «Крывыя вечары»/ была прымеркавана да 60-годдзя аўтаркі сцэнарыя і адбылася днямі ў Доме літаратара, а таксама як тэлепрэм'ера — у эфіры.**

## «УСЁ ЛЯТУЦЬ І ЛЯТУЦЬ ТЫЯ КОНІ...»

**Чарговы выпуск перадачы «Край» /12 снежня/ называўся «Коннік на гербе» і, паміж іншым, меў на мэце распавесці пра адно з адметных меркаванняў аб паходжанні самога беларускага герба. У якасці носьбіта меркаванняў і вядучаю выступіла Любоў Філімонава; тым, хто меўся пацвердзіць рацыю — Вячаслаў Рагойша; рэдактарам — Ігар Александровіч; рэжысёрам — Мікалай Грыгор'еў. Гутарка навукоўца і журналісткі скіравалася паміж Сімплягадамі беларускага адраджэння: «У гісторыі Беларусі многія не змаглі выявіцца, бо не было дзяржаўнасці, — яны зрабіліся яркімі асобамі культур іншых народаў» /В. Рагойша/, «У гісторыю любога вобразу мусіць быць пакладзена цікавая асоба» /Л. Філімонава/. Рысу падвяло класікава «Колькі таленту звялося»... Між тым карысна было даведацца, што князь Паўтаржыцкі, з якім Л. Філімонава звязвае прататып конніка на «Пагоні», калісь склаў славу беларускай конніцы дый падзівіцца з тэлевыявы падобнай конніцы — недзе ж узялі ды знялі!; каторы раз уздыхнуць пад перабор паходжанняў назвы «Беларусь»; на свае вочы пабачыць прадстаўніцу роду Паўтаржыцкіх Таццяну Неўскую, абаяльную кабету сталага веку... Дадамо, што, на жаль, нават шэраг «лятучых коней» не паспрыяў утварыць вобраз перадачы, на які здолеў засяроджана папрацаваць хіба акцёр Рускага тэатра Беларусі Андрэй Душачкін — за кадрам — чытаючы тэкст, у кадры — старадрук; чытаннем Генрыка Сянкевіча ды Максіма Багдановіча акцёр здаволіў самыя знацыяналізаваныя густы і ўлесціў самыя змастачаныя.**

**Ж. Л.**

## ПЕРШЫ З СЕРЫІ

**«Помнікі музычнай культуры Беларусі» — так называецца першы нотны зборнік з аднайменнай серыі выданняў, распачатай творчым калектывам пад эгідай Беларускага інстытута праблем культуры /кіраўнік У. Скараходаў/. Укладальніца зборніка мастацтвазнаўца А. Ахвердава прадставіла ў ім інструментальныя творы шасці беларускіх кампазітараў мінулага стагоддзя, у тым ліку музыку выдатнага ўраджэнца Віцебшчыны А. Абрамовіча, слыннага ўраджэнца Міншчыны — скрыпача, кампазітара, збіральніка беларускага фальклору — М. Ельскага, дзве п'есы Н. Орды і інш. Рыхтуюцца наступныя зборнікі гэтай каштоўнай для аматараў фартэпіяннай ігры, для піяністаў-пачаткоўцаў серыі. У іх будуць прадстаўлены ўзоры нашай музычнай старасветчыны 16-га, 17-га, 18-га стагоддзяў. Калі вы хочаце набыць такія ноты, пацікаўцеся наконт іх у выдавецкім аддзеле Беларускага інстытута праблем культуры. Гэта ў Мінску, па вуліцы Каліноўскага, 12.**

**Н. К.**

## НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК

**Перад Новым годам, як вядома, прынята падарункі рабіць. Гэтай добрай завядзёнкі трымаюцца і выдавецтвы. Прынамсі, «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі ў пераднавагоднія дні аматараў даўніны падаравала папулярную «Живописную Россию», выпуск якой у 1881—1901 гадах быў задуманы і ажыццёўлены адным са знакамітых рускіх географаў, падарожнікам Пятром Сямёнавым-Цяньшаньскім. Праўда, не ўсе тамы, а толькі трэці з іх — «Литовское Полесье» і «Белорусское Полесье», які тычыцца гісторыі нашага краю. Як вядома, большасць нарысаў гэтага тома напісаны беларускім гісторыкам і этнографам Адамам Кіркорам. Рэпрынтнае ж выданне зроблена па экземпляры, які захоўваецца ў асабістай бібліятэцы Барыса Сачанкі. Тыраж узноўленага тома — 10 тысяч асобнікаў.**

Тэатр

# «Свет трымаецца толькі на душах...»

***Акцёры да тэатральнай прэсы зазвычай ставяцца з недаверам, і нешматлікія паразуменні толькі зрэдчас спрыяюць адваротнаму. Тым больш я, як прадстаўнік прэсы, удзячная акцёру Рускага тэатра Беларусі Андрэю Душачкіну — за давер. Менавіта «ЛіМу» ён даверыў перад усімі сваё аўтабіяграфічнае эсэ «Голас памяці», — так бы мовіць, першую спробу пяра ў прозе. Вынятка, што падрыхтавана да друку, уражвае не толькі і не столькі літаратурнай сталасцю, але наймацней — шчырым, беражлівым, паважным стаўленнем да аб'екта гаворкі: маці і бацьку прысвяціў акцёр свой пазасцэнічны досвед — народнай артысткі СССР Аляксандры Іванаўне Клімавай і акцёру, педагогу Андрэю Валянцінавічу Душачкіну-Карсакоўскаму.***

***Жана ЛАШКЕВІЧ.***

Калі сабраць усе фатаграфіі маці ў ролях, якія яна сыграла за шмат гадоў, можна падумаць: выстава каралеў усіх часоў і народаў. Каго тут толькі няма... Клеапатра, Марыя Сцюарт, лэдзі Макбет, Гертруда, не кажу ўжо пра іншыя, так званыя касцюмныя ролі. Ёсць нават адна прынцэса, прынцэса Касманаполіс Т. Уільямса, мая ўлюбёная матчына роля ў «Салодкагалосай птушцы юнацтва».

Я зазіраю ў вочы гэтым каралевам ды прынцэсам: мне хочацца папытаць у маці, як, чым узрушылі іхнія лёсы, іхнія асобы душу самой актрысы...

Час-почас мне шанцуе даўмецца свайго, праўда, з цяжкасцю. Такая размова, паводле завядзёнкі, пачынаецца пэўна: «Адчапіся ад мяне. Я не хачу ніякіх размоў пра тэатр і ўсе гэтыя ролі. Я хачу пачувацца спакойна, мне ўсё гэта надакучыла...» Але, спакваля супакойваючыся, маці сёе-тое расказвае. Напрыклад, яе ўлюбёнаю роляю была Марыя Сцюарт у аднайменнай п'есе Шылера. Гэтая каралева Шатландыі, высвятляецца, была дужа падобная на маці: такая добрая, даверлівая ды... няшчасная. А што да самога тэатральнага працэсу, рэпетыцый, спектакляў, спосабу работы... Самы цікавы час — рэпетыцыйны, калі можна пашукаць, пamroіць, утварыць або ўвасобіць сваё бачанне пэўнае ролі. А самы спектакль, нават паклон у фінале /а гэта, на мой погляд, самы прыемны для акцёра момант/ ніякай асаблівай радасці маці не дае. Так... працэс, не больш. А што да школы выканання, сістэмы і да т.п., дык яна адказвае проста: што не ведае, як усё гэта адбываецца і патлумачыць нічога не можа. Сказаў жа ёй калісь рэжысёр тэатра імя Лесі Украінкі М. Сакалоў: «Ты нават не ўяўляеш сабе, якія цуды ты творыш!» Так і ёсць — не ўяўляе.

Але самы дарагі для мяне фотаздымак — наш сямейны, старасвецкі, вялікі, — там уся мая радзіна па маці, пачынаючы з прадзеда ды прабабці. Сібірскі род... Дзед ды прадзед у барадах і вусах годна стаяць у апошнім радзе, строга пазіраюць у аб'ектыў, — засяроджана, як фатаграфаваліся ў той час. Бабка ды прабабка ў хустачках, радочкам бліжэй, больш сціпла, як прынята было кабетам, потым — цёткі, дзядзькі, усе маладыя, і з самага бліжняга рада пазіраюць трохі спалохана ў аб'ектыў сялянскія дзеці. І толькі дзяўчо з краю, у даўжэзнай сукенцы да пятак, з раскудлачанымі светлымі льнянымі валасамі, проста выходзячы... з сябе, з фотаздымка, смела, не тое што іншыя дзеці, глядзіць — васьмігадовая Сашачка Клімава, мая маці... Вось так нібыта з фотаздымка яна і выскачыла... проста ў артысткі, проста са сваёй вёскі Самадураўка, пасля Затаболаўка Кустанайскай вобласці, дзе нарадзілася ў 1921 годзе. У сям'і, дзе было шасцёра дзяцей. А потым? У Маскву? У школу Малога тэатра — да педагога, народнай артысткі Веры Пашэннай? Пачакайце хвілю-другую...

Шмат хто з людзей задумваецца над сваім лёсам, няшмат хто — над лёсам свету, самыя рэдкія дрэнчацца над лёсам сусвету. А я мусіў задумацца пра тое, што ж гэта ўвогуле такое — лёс. Вырашыў, магчыма, наіўна, што калі зразумею самую сутнасць лёсу, дык знайду ключ да вырашэння процьмы пытанняў — жыцця й смерці, удачы й няўдачы, самога сябе, Бога. Выснова, да якой я прыйшоў, не зводзіцца да слоў ці паняццяў. Яе можна толькі адчуць душою. Не розумам. Не духам, бо дух — амаль характар, характар — амаль воля, а воля — траха не свядомасць. І тут — ні да чаго. Тут, хутчэй, прамаўляе падсвядомасць голасам прыроды, — праўдзівым. Які мы, людзі, зразумець яшчэ не патрапілі. А я адчуў: лёс — гэта карціна твайго жыцця ва ўсіх фарбах, дэталях, вобразах, колеры, падборы ды складзе фарбаў... Тое, што Мастаком ужо выяўлена. Здаецца, можна сказаць прасцей, маўляў, рок, фатум, доля такая... Але гэтыя вызначэнні недакладныя. Па-першае, таму, мне здаецца, што гэтыя паняцці карэнна песімістычныя, а Богава малявідла — прыўкраснае адпачатку і застаецца такім да канца. Проста чалавек не бачыць і не адчувае яго, але гэта — у горшым выпадку. У лепшым — бачыць да самае смерці, жывучы рэальным зямным жыццём, бачыць найбольш часта й дакладна ў сне, і з гэтым бачаннем самога сябе, думаю, не развітваецца і пасля скону, агораўшы зямны пераход на адвечным сваім шляху...

Задумваючыся пра лёс, міжволі зважаеш на ўсё, што ён вызначае і як праяўляецца, на знакі, што могуць паказаць яго, твой лёс... Пазначка-выпадак? Яго вялікасць выпадак запраторыў у Магнітагорск у 1941 годзе вялікі хаўрус артыстаў маскоўскага Малога тэатра на чале з рэжысёрам М. Празароўскім. Яны гралі свае спектаклі ў памяшканні Магнітагорскага тэатра драмы імя А. С. Пушкіна /падчас вайны Малы тэатр эвакуіравалі ў Чэлябінск, і з базы ў Чэлябінску акцёры ездзілі іграць свае спектаклі/. У Магнітагорск сям'я маёй маці патрапіла не адразу, але тут ужо не выпадак паспрыяў, а сама гісторыя. У Магнітагорску сям'я Клімавых-Салжанікіных стала жыць напрыканцы 1929 года, а да гэтага выпала на яе долю шмат падзей. Па-першае, 1 кастрычніка 1921 года нарадзілася мая маці. А каб вы разам са мною добра задумаліся пра лёс, я ў агульных рысах падам жыццё сялянскае сям'і. 1921 быў галодным годам. Галадалі ўсе, нават сяляне, нават такія працавітыя, як мой дзед Іван Фёдаравіч Клімаў і мая бабця, Аляксандра Нікіфараўна Салжанікіна. Пракарміць сям'ю з шасці дзяцей у скрутны паслярэвалюцыйны час было складана. Нават для людзей, што жылі на зямлі. Першаю памерла мая цётка Таня, потым мой дзядзька Вася, засталіся маці, Раечка, Паўлік, Валодзя. Пазней, ужо падчас Вялікай Айчыннай, мой дзядзька Паўлік скраў веласіпед — пакатацца. Потым вярнуў, ды позна было. Яго судзілі і выракам сталася штрафная рота. Дзядзька ваяваў пад Масквою, загінуў праз колькі месяцаў пасля адпраўкі на фронт. Дзядзька Валодзя сканаў ад цяжкай хваробы, — таксама падчас вайны. Вось і засталіся ў сям'і — цётухна мая Рая ды маці. Раіса Іванаўна Клімава жывая і здаровая сёння, цяпер на пенсіі, усё жыццё рабіла кіроўцам трамвая ў Магнітагорску...

Трэба заўважыць, што радзіна Клімавых-Салжанікіных не мела нікога, хто б хоць неяк спрычыніўся да мастацтва. Не было, дый, пэўна, і быць не магло. Глядзіце самі. Мой дзед, патомны селянін з Кустаная, прыйшоў у заробкі ў Кустанайскую вобласць у сяло Самадураўку, потым Затаболаўка, балазе і рэчка была побач — Табол, дзе і ўгледзеў маю бабцю, тады, натуральна, маладую сялянку Аляксандру Салжанікіну. Што надарылася далей, здагадацца няцяжка, але я ўдакладню — вяселле. А каб не зайшоў мой дзед у гэтую самую Самадураўку, што было б? Падумаць страшна. Мяне не было б. А каб і быў хто іншы, дык не я. Але лёс ведае, што робіць. Так мая радзіна па маці і пайшла.

Жыццё тымчасовае было надта цяжкім, нават сялянскія дзеці не елі колькі хацелі, але... Зямля, і якая — сібірская! — была, дзед араты быў, коней трымаў, было сваё пшанічнае поле, бахчы, голад, надаралася, і адступаўся. Маці згадвае, ехалі неяк увечары з бахчы, — яна зусім маленькая была, — адышлася ад воза ў лес, а выйсці назад не можа. Спалохалася так, што на ўсе жыццё запомніла. Але, дзякуй Богу, выйшла, ды проста да воза, — во радасці было!

Улюбёны занятак сям'і — ляпіць пельмені. Потым, вядома, есці. Ляпілі з песнямі, — бабця, у асноўным, дзед мяса круціў, а дзеці па кутах сядзелі. Чакалі. Тым часам ужо шмат ссыльных з'явілася ў Сібіры. У Кустанайскую вобласць усё больш з Украіны высылалі, таму і песні любілі ўкраінскія, і спявалі іх, ну і свае, вядома, «Для кого есна — отрада, для меня отрады нет» або «Скакал казак через долину...» А яшчэ на лыжках любілі іграць ды на балалайцы. Мо праз гэта маці мастацтвам і захапілася? Больш не было адкуль: жылі і цяжка, і весела. Я раз-пораз думаю, па кім гэта такі вясёлы пайшоў, — а пад пельмені і выпіць любілі, і пабіцца потым, напрыклад, з жонкаю. Маці згадвае, як аднойчы дзед асабліва ўзвярэдзіўся на бабцю, а малая маці дома была дый крыкнула: «Мам, не бойся, дай яму...» І бабця, доўга не маракуючы, узяла качаргу і дала... Больш дзед жонку не чапаў. Дарэчы, потым, ужо ў нас у доме, маці зрэдчас карысталася з досведаў





*На здымках з сямейнага архіва: Андрэй Валянцінавіч Душачкін-Карсакоўскі з сынам Андрэем; Аляксандра Іванаўна Клімава на гастролях у Омску.*

свайго маленства, высвятляючы дачыненні з бацькам, толькі ўжо больш гарадскім чынам, напрыклад, з дапамогаю сервізнага посуду. Так што тэмпераменту нашай сям'і не пазычаць, ён у нас сібірскі...

Хутка дзед падняў цудоўную гаспадарку, усё сваёю працаю агораў, цяжкою, катаржнаю, сялянскаю працаю. Але і гаспадарка зрабілася заможнаю!.. Ды прыехаў аднойчы з Кустаная дзедаў брат і параіў, пакуль не раскулачылі, падавацца куды далей, кідаць усё ды з'язджаць. А дзед мой яшчэ і ў Чырвонай Арміі не служыў! І кінулі ўсё. Толькі хлеба ды сала на дарогу ўзялі, дзяцей на воз ды ў Кустанай, адтуль цягніком — у Сярэднюю Азію, простым ходам у Кызыл-Арду. Так што краявід у маёй маці змяніўся, рака таксама. Цяпер Сырдар'я нагадвала Табол, — праўда, рака таксама прыгожая. І памяняла мая матухна лясы Сібіры на стэпы Кіргізіі, сялянскую хату — на юрту, кавуны — на сушаныя дыні і звычайных прусоў — на скарпіёнаў. Я цяпер разумею, скуль у маці такая лёгкасць у змене настрояў або прыняццяў якіх-кольвек рашэнняў ды велізарная, я б сказаў, бязмежная прастора мрояў, летуценняў, мараў... Што ёй, калі яна і не такое ў дзяцінстве ўведала-спазнала?..

У Кіргізіі дзеці пачалі патроху вучыцца. Спачатку ім выкладаў стары кіргіз на кіргізскай жа мове /а мы цяпер усё дрэнчымся са сваёй нацыянальнаю/. Пазней — жанчына і ўжо па-руску. Хлеба не ставала. Дзед ізноў падняў гаспадарку, а дзядзька Фядзюша, мой стрыечны дзед, праз год з'ехаў у Магнітагорск. Тады гэта яшчэ Магнітка была, — а ўслед за ім і ўся сям'я рушыла. Там маці і школу скончыла, дарэчы, была другагодніцаю, нештачкі з арыфметыкаю не зладзілася. Але арыфметыцы давялося здавацца: мама пасля школы паступіла ў педагагічны інстытут, — а я ўсё думаю, чаго гэта яна так любіць мяне выхоўваць? У інстытуце быў драмгурток. У драмгуртку тым і сыграла свае першыя ролі будучая народная артыстка, выпускніца школы-студыі Малога тэатра, у свой час, без перабольшання, зорка Адэскага драматычнага, Кіеўскага драматычнага імя Лесі Украінкі, Харкаўскага ды Свярдлоўскага драматычных і, нарэшце ды назаўжды, Рускага тэатра Беларусі. У маленькім магнітагорскім драмгуртку рабіла свае першыя крокі па сцэне актрыса, што ўвасобіла сабою цэлую эпоху беларускай тэатральнай гісторыі, што зрабілася легендаю яшчэ пры жыцці і пакінула па сабе памяць ужо назаўсёды, незалежна ні ад чаго. Ну, а каб усіх канчаткова пераканаць, як лёс рупіўся са сваім пэндзлем, дадам, што драмгурток у 1941 годзе даваў канцэрты на заводзе, дзе маці працавала капіроўшчыцаю, ды ездзіў па шпіталях. Пра тыя канцэрты зберагłося і сведчанне — ліст франтавіка Івана Емяльянавіча Лук'янчука. /Цікава, як склаўся ягоны лёс?.. Ці жывы ён, ягоныя родныя?/

Іншым гледачом, што прысутнічаў на адным з канцэртаў, быў рэжысёр Малога тэатра М. Празароўскі. Ён прапанаваў маці працаваць у іхняй трупе актрысаю дапаможнага складу; прапанову мама, зразумела, прыняла і ўжо праз два гады была актрысаю другой катэгорыі і — іграла! Пасля вайны мама выправілася ў Маскву — трымаць іспыты ў школу Малога тэатра імя Шчэпкіна. Падчас аднаго з іх педагог у камісіі сказаў: «Пастаўце ёй, калі можна, шэсць...» Так вось усё і спраўдзілася. І ці можна гэта назваць інакш, чым лёсам?

Мама беражліва захоўвае фатаграфію свайго улюбёнага педагога Веры Мікалаеўны Пашэннай. На шчасце, збярогся і яе ліст да маці:

«Дарагая, трапяткая, таленавітая мая Сашачка!

Я заўсёды вас памятаю, сачу за вамі і радуюся вельмі, таму што вы бліскуча працуеце... Душачка мая, я ўсім сэрцам хачу ўдыхнуць у вас радасць творчасці і радасць светаадчування...»

І радасці гэтыя, па-мойму, Пашэнная ўдыхнула ў маму. Як мага.

... У маленстве я любіў гуляць у такую гульню — хто каго саштурхне. Становішся на якое-небудзь бервяно, альбо выступ, або карніз і таўчэшся, штурхаешся з прыяцелем. Хто паваліўся — той прайграў. Добрая гульня. Жыццё гуляе ў яе з чалавекам да самага скону. Калі-нікалі сутыкае людзей адно з адным, а раз-пораз дае магчымасць падужацца і з уласным лёсам. Але, каб моцна трымацца на нагах, адных ног... мала. Патрабуюцца веды разам з уменнем ды жаданнем перамагчы. Адкуль у маім характары сталі з'яўляцца гэткія якасці? Ад бацькі. Яны былі ў яго і ён рабіў усё, каб выхаваць іх ува мне. Надышоў час пагутарыць пра майго бацьку...

Пра ягоны лёс, пра ягонае жыццё, — і зразумець, які «восьмы цуд свету» мог перасекчы ў адным пункце лініі жыцця двух такіх розных людзей, як мая маці ды мой бацька. Нарадзіўся бацька ў 1923 годзе на Украіне, і хоць уся сям'я Карсакоўскіх-Душачкіных руская і толькі на трэцюю частку — палякі, Кіеў мне — амаль радзіма, украінцы такія ж родныя, як і беларусы. Казаць пра бацьку мне будзе цяжка, памяць ягоная для мяне — святая. Ён рана пайшоў ад нас з маці, — адышоў, хоць і змагаўся за жыццё да апошняга... Але хвароба здужала яго. Вось тады і зрабіліся мы з маці самымі лепшымі сябрамі ў свеце...

Лёс майго бацькі, карціна ягонага жыцця цалкам адрозная ад карціны лёсу маці. Яму надта не спрыялі і дужа не заміналі ніякія гістарычныя скруты: менавіта са спалучэння выпадковасцей ды пэўнасцей складзены жыццяпіс маёй маці, — яны ж выявілі яе непаўторны, адметны талент. Бацькава жыццё ткана на іншых кроснах і з іншага матэрыялу. З іншага рэчыва. Я не буду стамляць вас падрабязнасцямі ягонага жыццяпісу, — не так ужо і важна пра яго распавесці. Больш важна спазнаць іншае, тое, што прымушае мяне з болем у сэрцы і радасцю ў душы цвяліць свае незагойныя ўспаміны ды намагацца зразумець, што ж гэта быў за чалавек...

Калі я разважаю пра лінію чалавечага жыцця, што так выразна накрэслена на далоні ў кожнага, першае, што заходзіць у галаў, — каму яна належыць, удаліцу ці бедаку. Паставімся да гэтых вартасцей, як да абавязковых выпрабавальных ступеняў, дадзеных Богам. Бо і першая, і другая роўна пазначаны Ягонаю пячаткаю, — бальшыня ж чалавечая дыхтоўна зберагае сваю «ніякую» ступень або ўзровень «ні качкі, ні швачкі».

У бацькавай сям'і да прыгожых мастацтваў ніхто дачынення не меў, — як і ў матчынай, калі памятаеце. Бацька не тое, што маці: арыфметыку ведаў добра, другагоднікам не быў, самастойна вывучыў англійскую мову, так што лёгка чытаў любыя англійскія кнігі, цудоўна ведаў геаграфію, фізіку, у шахматы гуляў так, што па ўсіх тэатрах, дзе яму выпадала служыць, дагэтуль легенды зберагліся. А гуляў ён, каб вы зразумелі, без ферзя на лік, г.зн. калі да вызначанага ходу ён не даваў мат, дык лічылі, што ён прайграў; выдатна разбіраўся ў прэферансе, а гэта складаная гульня; меў адметную памяць... Гадаваўся й рос у інтэлігентнай сям'і, чый радавод меў польскую шляхту па галіне маёй бабці... Чаму ж з усімі якасцямі ды здольнасцямі бацька абраў артыстычную кар'еру, такую прывідную, уяўную, мройную? Тым больш, як высветлілася, бацьку для гэтай кар'еры бракавала найгалоўных здольнасцей. Я маю на ўвазе не талент, талент быў, і які! Я маю на ўвазе жорсткасць, хцівасць, драпежнасць, здрадлівасць, калі трэба «дзеля справы». Мяркую, менавіта брак пералічаных «талентаў» стаўся першапрычынаю бацькавага адыходу, — перадусім з тэатра, але ўсё гэта надарылася потым, потым, потым...

А пакуль адным цудоўным летнім днём у Кіеўскі інстытут імя Карпенкі-Карага на акцёрскі курс залічылі вясёлага, кучаравага, абаяльнага танцора і выдатнага гульца ў прэферанс, буйнога аматара гарэлкі, кабет ды більярда Андрэя Валянцінавіча Душачкіна-Карсакоўскага, майго бацьку. Да часу інстытуцкіх іспытаў бацька ўжо дастаў сталасці, бо юнацкія ягоныя гады супалі з вайною, арміяй, палонам, акупацыяй. Потым за ўсе гэтыя падзеі свайго жыцця бацька меў непрыемнасці ад НКУС, але, на шчасце, не дужа моцныя — пашэнціла. І стала шэнціць далей. У інстытуце бацька займаўся ў знакамітага прафесара, народнага артыста, мастацкага кіраўніка тэатра імя Лесі Украінкі Канстанціна Паўлавіча Хахлова. Паводле бацькі, Хахлоў спалучаў лепшыя якасці педагога і кіраўніка тэатра, — пра чалавечыя і гаворкі няма. А таму з першага года вучыў сваіх студэнтаў любіць тэатр, разумець ягонае складанае жыццё. Ён займаў студэнтаў у масавых сцэнах спектакляў, якія ішлі тады ў тэатры, даваў магчымасць паступова прызвычайвацца да сцэны, — таму гуляць у масоўках і выконваць маленечкія ролі бацьку давялося яшчэ студэнтам, аднак ацаніў ён гэта як мае быць пазней. Пазней, калі яго, лепшага студэнта курса і ўлюбёнага вучня Хахлова, запрасілі ў славуты тэатр імя Лесі Украінкі. Адразу пасля інстытута. На сталую працу!..

Дэбютаваў бацька адметна, — ролямі Керубіна ў «Жаніцьбе Фігаро» Бамаршэ ды Артура ў «Авадні» Этэль Войніч. Выпалі і яшчэ ролі — не менш значныя... Ягоная акцёрская будучыня ўяўлялася дыхтоўнаю, пэўнаю, вызначанаю, але... У гэтае «але» я і хачу ўкласці ўвесь сэнс жыцця /як я яго разумею/, а таксама лёс бацькі, — узіраючыся ў мінулае...

У 1949 годзе мая матухна, маладая і таленавітая актрыса Аляксандра Клімава, паспяхова канчае вышэйшую тэатральную адукацыю і, адпрацаваўшы два гады ў Адэскім рускім тэатры, у 1951 запрашаецца ў Кіеў, у тэатр імя Лесі Украінкі. Бадай, з гэтага моманту і можна распачынаць адлік часу нашае сям'і: час маіх бацькоў тады, у 1951, толькі-толькі пачынаўся. У 1952 мае бацькі ўзялі шлюб. Адбылося ў іх гэта досыць проста, напэўна, паспрыяў вялікі жыццёвы досвед: бацька зрабіўся трэцім мужам маёй мамы, а мама — трэцяю жонкаю майго бацькі. «Клімава, выходзь за мяне», — сказаў маці бацька. «Добра, Душачкін, выйду», — адказала мама. Напраўду, усё занадта проста. А так... Не бывае?

Якраз на той час прыпалі сур'ёзныя і шматабавязваючыя дачыненні маёй маці з вядучым акцёрам тэатра імя Лесі Украінкі народным артыстам Раманавым. Дачыненні былі сур'ёзныя і шматабавязваючыя да такой ступені, што разам з выхадам на сцэну ў гэтай драме майго бацькі форма класічнага трохкутніка вызначылася досыць пэўна. Маці з бацькам не пажадалі напальваць закулісную атмасферу сваім асабістым жыццём і вырашылі пайсці, дакладней, паехаць у Харкаўскі драматычны тэатр імя Пушкіна, балазе іх туды даўно клікалі ды абацялі добрыя ўмовы. Вось тады, у 1953 годзе, жыццё майго бацькі і пераламалася. Ён спраўдзіў свой выбар.

Ён адмовіўся ад любага горада, ад любага тэатра, а такое набываюць, як і губляюць раз у жыцці. І выйшаў на свой шлях няўдаліцы такі ўдалы мой бацька. Ахвяраваўшы кар'ераю, ён абраў маю маці, сваю жонку. Выбар быў зроблены раз і назаўсёды, за што я бацьку і паважаю. Усё астатняе, увесь ягоны акцёрскі, педагагічны, чалавечы шлях зрабіўся ўжо лагічным наступствам таго выбару, таго ўчынку...

... Калі я ўзіраюся ў жыццё маіх бацькоў, дык міжволі раблю выснову: яны заспелі найцікавейшы час. Нягледзячы на наступствы гэтак званай вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі, праўдзіва Вялікай Айчыннай, на аднаўленне й нішчымніцу, небыткаванне й рэзрух, на смерць, гора, жахі ды выродствы, — на ўсё, чым багатыя скрутныя гістарычныя падзеі, людзі не здрадзілі ні веры ў душы, ні надзеі ў сэрцы. Няхай вера гэтая была наіўнаю, няхай спадзяваліся яны на летуценне, няхай будучыня ім мроілася, а рэальнасцю яны мусілі ледзь не грэбаваць, не дапяўшы да праўды, — гэта цяпер не вельмі важна. Іх вера, надзея ды любоў былі шчырыя, а інакш як было ім аднаўляць, адраджаць, здзіўляць? Або тады ім яшчэ ставала моцы, а нам сучаснікам, ні на што моцы ўжо не стае? Часам мне здаецца, што мы шукаем выйсця з нашых апрыкрых праблем не там, дзе яно ёсць. Не галавою мусім агараць гэтае набалелае, - а — душою. Ісціна — у ёй. Без мінулага няма цяперашняга, без цяперашняга няма будучыні. Наша цяперашчына прадказвае будучыню: агулам плюндрым, дратуем мінуўшчыну. Пазбаўляем сябе руху наперад. Упарцімся, помсцімся, злуём — на мінулае? Мы гэта — сур'ёзна?.. Сёння, калі тэатр у такім заняпадзе, мне надта ўжо не хочацца зазіраць у рот ды ў выратавальную кішэню любым «сябрам ды калегам», але карціць азірнуцца на ўласную гісторыю да падгледзець, разгледзець, выведаць, як т а м у нас было. Раптам ключ да Адраджэння — т а м? Проста ў тыя часы мы яго і згубілі...

У 1956 годзе Аляксандра Клімава ды Андрэй Душачкін-Карсакоўскі пераязджаюць у Мінск, прыняўшы запрашэнне Рускага тэатра Беларусі. Уласна храналогію творчага шляху маіх бацькоў на гэтым можна было б і скончыць: увесь тутэйшы перыяд іх дзейнасці тэатральнай публіцы ды спецыялістам добра вядомы, дастаткова вывучаны і асветлены. Я ж скажу толькі тое, што дакляраваў на пачатку расповяду пра бацьку: свет трымаецца толькі на душах людзей. Людзей, якія жыццём, працаю, учынкамі, святлом сваіх думак ахвяруюць уратаванню свету. Да такіх людзей я далучаю свайго бацьку. Ён быў добрым акцёрам ад першага да апошняга дня на сцэне, педагогам, што выгадаваў цэлы шраг дыхтоўных, абазнаных артыстаў, і нават калі бацька не зрабіў з іх «зорак», дык прыстойных прафесійнікаў — абавязкова. Ягоны педагагічны талент дагэтуль шануюць у Беларускай акадэміі мастацтваў, пра ягоны творчы шлях у Рускім тэатры Беларусі нагадаю я. Нагадаю збольшага: пра Цэзара ў «Антоніі і Клеапатры», Вайнонена ў «Аптымістычнай трагедыі», Вагіна ў «Дзецях сонца», Фёдара Таланава ў «Нашэсці», — а гэта нечага ды варта. Бацьку цаніў і паважаў У. Маланкін, — чалавек-легенда беларускага мастацтва, адзін з найталенавітых нашых рэжысёраў ды педагогаў. Бацька працаваў з прафесарам В. Рэдліх, — выбітным педагогам, цудоўным чалавекам. Гэтыя людзі — увасабленне цэлага пакалення беларускіх творцаў, — былі сябрамі ды калегамі маіх бацькоў. Калі мне распавядаюць, як Кістаў гушкаў мяне, маленькага, на руках, а Бялоў вучыў вымаўляць «р», мне хочацца проста вышэй узняць галаву... Гісторыя нашай акцёрскай сям'і вымагае столькі ж гонару, колькі й роздуму...

Але няма такога — «акцёрскай прафесіі». Няма. Я ніякім чынам не грэбую тэхнікай, умельствам, дадзенымі, адметнасцямі псіхафізічнага апарату, — усім, што вызначае здатнасць асобы да сцэнічнага мастацтва. Але такой работы — акцёрам — няма. Ёсць — асабістыя праявы, схільнасці, прадвызначанасць, — да гэтай думкі мяне падштурхнулі назіранні за маімі бацькамі. Усе ролі, што ім выпалі, поўніліся іх асабістым жыццёвым досведам, культурай, інтэлектам, душою. Каб не былі бацькі асобамі, дык што б яны сыгралі? Не ўратаваў бы ні рэжысёр, не дапамог бы ўзровень ягоных запатрабаванняў ды якасць ролі, не паспрыяў бы штучны вэрхал вакол спектакля. Іграць на сцэне можна толькі праз свой лёс. Толькі. Менавіта таму актрыса Аляксандра Клімава мяркуе, што лепшыя ролі Андрэя Душачкіна-Карсакоўскага прыпадалі якраз на тыя спектаклі, дзе яны былі заняты разам. Як, напрыклад, у «Дзецях сонца» або ў «Дванаццатай гадзіне» Арбузава. На сцэне спраўджваліся, узаемаўплываючы, дзве адметныя асобы, чые лёсы паяднала жыццё. Іранічнасць, засяроджанасць, адчужанасць, што былі ўласцівы бацьку ў жыцці, як мага прыдаліся да сцэны, паспрыяўшы кожнай ролі спраўдзіцца, ператварыўшы кожную ягоную ролю ва ўдачу, — куды больш важка за радасць сумленнага рамяства.

Але галоўнае прызванне майго бацькі, галоўны ягоны талент выявіліся не ў тэатры, не ў інстытуце. Назаўжды ён зрабіўся сябрам ды памочнікам маёй маці, а мне — бацькам ды настаўнікам. Ён навучыў мяне думаць, даў у рукі прафесію, дапамог паверыць у сябе, а маці — перажыць усе нягоды ды хваляванні, што заўжды спадарожнічаюць таленту. Светлая яму памяць.

Светлая памяць усім, хто сваім жыццём спраўджваў свой час.

**Андрэй ДУШАЧКІН**

Анонс

# Каляды ў Беларускай Капэле

4, 7 і 8 студзеня ў зале на Залатой Горцы аб'яднанне «Беларуская Капэла» ладзіць цыкл канцэртаў «Каляды ў Беларускай Капэле», прысвечаны творчасці кампазітараў эміграцыі. Прагучыць музыка Д. Верасава, М. Зінчука, Э. Зубковіч, А. Карповіча, І. Маціеўскага, М. Равенскага, Р. Самохіна, Я. Тарасевіча, В. Селях-Качанскага, М. Шчаглова-Куліковіча. Ёсць свая адметнасць у гэтым пераліку імёнаў: двое з творцаў — не эмігранты і творчасць іхняя не з'яўляецца ў поўным сэнсе эмігранцкай.

Ян Тарасевіч — сын губернатара Гародні, выхаванец Пецярбургскай кансерваторыі, пачаў свой творчы шлях у разгар першай сусветнай вайны. Беларуская накіраванасць асабліва прасочваецца ў вакальных і харавых творах /на вершы Купалы, Коласа, М. Багдановіча/. У фартэпіянных творах чутны нават цэлыя мелодыі, узятыя з фальклорных крыніц. Але... З-за вынікаў сусветнай вайны кампазітар, нікуды не з'язджаючы з Гародні, апынуўся ў межах ужо іншай дзяржавы. Пераехаць у савецкую Беларусь? Сына губернатара нічога добрага тут не чакала. Так вось і здарылася, што толькі праз 30 гадоў пасля смерці прафесара Я. Тарасевіча беларускі слухач упершыню пачуе ягоную музыку.

Ігар Маціеўскі — пецярбуржац, наш сучаснік. Доктар мастацтвазнаўства, прафесар. Продкі ягоныя з боку маці паходзяць з беларускага Палесся. З дзяцінства чуў ён беларускія песні — ад маці. Некалькі гадоў таму да яго трапіла кніжка М. Багдановіча «Вянок», факсімільнае выданне, падарунак блізкага сябра з Беларусі. З тых часоў напісаў шмат твораў на вершы Максіма-кніжніка, Н. Арсенневай, В. Таўлая, а таксама праваслаўную літургію на старабеларускі /часоў ВКЛ/ тэкст.

Творчасць іншых згаданых кампазітараў вяртаецца да нас з-за мяжы, са збору Лонданскай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Ці лічыць гэтыя творы замежнымі? Думаецца, гэта неад'емная частка беларускай культуры XX ст. і наш абавязак вярнуць яе ў канцэртнае жыццё таго народа, дзеля якога яна стваралася.

Прадстаўляць канцэртныя праграмы будуць Г. Каржанеўская, А. Хахлоў, аўтар гэтай нататкі /вакальныя творы/, а таксама І. Алоўнікаў /фартэпіянная музыка/ ды мужчынскі камерны хор «Унія» пад кіраўніцтвам К. Насаева. На адкрыцці канцэртнага цыкла выступіць прафесар А. Мальдзіс, чыімі намаганнямі вяртаюцца ў нашу культуру імёны творцаў, якія воляю лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ,**
**мастацкі кіраўнік «Беларускай Капэлы»**

# Дом літаратара: студзеньская афіша

**3 студзеня** дзяцей а 12-й гадзіне запрашае ёлка.

Далучыцца да вытокаў беларускай прозы можна будзе **5 студзеня** на вечарыне, прысвечанай 125-ым угодкам з дня нараджэння Ядвігіна Ш.

**11 студзеня** будуць паказаны дакументальныя музычна-этнаграфічныя фільмы «Палескае вяселле» /аўтар сцэнарыя З. Мажэйка, рэжысёр Ю. Лысятаў/ і «Пранясі, Божа, хмару» /аўтар сцэнарыя З. Мажэйка, рэжысёр А. Шклярэўскі/.

Вечар памяці В. Хомчанкі — **13 студзеня.**

Змітрок Марозаў запрашае **18 студзеня** на прэм'еру сваёй кнігі вершаў «Сын чалавечы».

«Тут я жыву...» — такая назва вечара, прысвечанага 80-годдзю з дня нараджэння А. Кулакоўскага, які адбудзецца **20 студзеня.**

**25 студзеня** адзначаюцца 125-ыя ўгодкі з дня нараджэння А. Гурыновіча.

«У радаводнай гасцёўні браты Грыцкевічы, гербу Харугвы»... Зацікавіліся? Тады прыйдзіце ў ДЛ **27 студзеня.**

**Нагадваем, што пачатак усіх гэтых мерапрыемстваў — у 18 гадзін 30 хвілін.**

ЛіМ - часапіс

## ТЫДЗЕНЬ СУПРАЦЬ СНІДУ

З 1 снежня па 7 снежня ў Мінску адбылася дабрачынная акцыя «Дзеячы культуры супраць СНІДу», якую наладзілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу. Адбыўся мінікінафестываль студыі мастацкіх фільмаў АО «ВИТТ» у кінатэатры «Мир», студэнцкі фестываль, у акцыі прыняў удзел і Беларускі дзяржаўны тэатр імя Я. Купалы. Прайшла выстава плакатаў «Небяспека СНІДу» Саюза мастакоў Беларусі, студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў і мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава. Трыма прэміямі, адпаведна — 30000, 18000 і 10000 рублёў — былі адзначаны студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў Т. Сымановіч /1 прэмія/, С. Скорыкаў і Н. Спясіўцава /2 прэмія/, С. Герасіменка, Г. Калішок і А. Галагуцкі /3 прэмія/.

## ДЛЯ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ

14 снежня ў Доме літаратара адбылася прэм'ера новага фільма «Магілёў», якую прадставіў гледачам рэжысёр і дырэктар Беларускага адукацыйна-культурнага цэнтра, які стужку выпусціў, — Уладзімір Колас. Аб гісторыі стварэння карціны распавёў сцэнарыст Юрась Чудзін. Шмат гаварылі пра фільм гледачы. Гісторык Зміцер Яцкевіч і Галіна Вашчанка, інспектар па выкананні закона аб мове Мінгарвыканкама, падкрэслілі каштоўнасць фільма для гісторыі і культуры Беларусі.

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## ЛАДЗІЦЬ «ВОЛЬНАЯ СЦЭНА»

З 17 па 19 снежня на базе тэатра-лабараторыі «Вольная сцэна» адбыўся семінар-нарада творчай моладзі — драматургаў-пачаткоўцаў. Семінарам-нарадай кіраваў Валерый Мазынскі, з боку Расіі брала ўдзел Рыма Крэчатава. Падчас семінара практыкаваліся чыткі п'ес у аўтарскім ды акцёрскім выкананні, напрыканцы гурт драматургаў дайшоў да думкі, што падобныя — пленарныя — спатканні трэба было б ладзіць не радзей як раз на год. Варта адзначыць, што снежаньскі семінар на базе «Вольнай сцэны» мае ўжо адметнага папярэдніка — семінар-лабараторыю драматургаў, якія пішуць для дзяцей. У 1993 годзе драматургі збіраліся ў Магілёўскім абласным тэатры лялек, гэтую базу вырашана замацаваць за імі і надалей.

## З ЮРМАЛЫ — У ГОМЕЛЬ



*В. Дзевіскіба «Абезгалоўленая званіца».*

Споўнілася 50 гадоў мастаку Валерыю Дзевіскібу.

У часе нямецкай акупацыі маці яго, што жыла на Гомельшчыне, была забрана ў няволю, у Нямеччыну. Валерый нарадзіўся ў канцлагеры. Потым было вяртанне на радзіму — і ўсе апошнія гады В. Дзевіскіба жыў і працаваў у Латвіі. Нацыянальную самасвядомасць, свой мастакоўскі кшталт Валерый здабыў самавукам. Яго акварэльныя, пастэльныя работы годна сябравалі з творамі латышскіх мастакоў. Арганізаваць у Рызе персанальную выставу Валерыя Дзевіскібы дапамагло таварыства беларускай культуры «Сьвітанак». Ён быў удзельнікам і некалькіх рэспубліканскіх выставаў у Мінску.

За апошнія гады мастак стварыў вобразы Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, М. А. Агінскага, М. Багдановіча, Ф. Багушэвіча, партрэты многіх нашых сучаснікаў, дзеячаў літаратуры і мастацтва. Карціны В. Дзевіскібы можна ўбачыць у Гудзевічах, а таксама ў Мінску — у прыватных зборах А. Лойкі, А. Мальдзіса, У. Сакалоўскага, Э. Ялугіна, іншых.

Дарэчы, ідэя арганізацыі выставаў з прыватных збораў /часцей літаратараў/ даўно вітае ў паветры. Тады дайшла б чарга і да Валерыя Дзевіскібы. Тым больш, што ён нядаўна пераехаў з Юрмалы і зараз жыве ў Гомелі.

**С. ПАНІЗНІК**

# І РАНЬШ НЕ БЫЛО, І СЁННЯ НЯМА...

*(Пачатак на стар. 5)*

палітыкай рэспублік, што ўтварылі СССР. Зразумела, увесці такое агульнае кіраўніцтва нельга было інакш, як праз абмежаванне, уразанне дзяржаўнага суверэнітэту кожнай саюзнай рэспублікі. Пры закладзенай у СССР «сістэме адносін паміж савецкімі рэспублікамі, — запісана ў рэзалюцыях гэтага з'езда, — існаванне мясцовых савецкіх дзяржаўных утварэнняў і іх органаў апраўдваецца, галоўным чынам, пастолькі, паколькі яны, улічваючы ўсе асаблівасці данай тэрыторыі і насельніцтва, што насяляе яе, улічваючы эканоміку, быт, культуру свайго раёна, робяць усе захады да хутчэйшага яго адраджэння». Як бачым, на нацыянальна-дзяржаўныя фармаванні з'езд КП/б/Б глядзеў як на нейкую часовую з'яву, галоўныя функцыі якіх зводзіліся пераважна да вырашэння задач хутчэйшага пераадолення цяжкіх вынікаў першай сусветнай і грамадзянскіх войнаў. З вырашэннем гэтых задач і сапраўды мелі месца паступовыя, але досыць істотныя абмежаванні дзяржаўнага суверэнітэту БССР у правядзенні знешняй палітыкі, кіраўніцтве ўзброенымі сіламі. З пераходам да практыкі складання ў СССР пяцігадовых планаў развіцця народнай гаспадаркі ўсё ў большую залежнасць пападае Беларусь ад розных агульнасаюзных структур і ў сферы эканомікі. Станавілася правілам будаўніцтва ў кожнай рэспубліцы вялікай колькасці прадпрыемстваў, якія падпарадкоўваліся агульнасаюзным наркаматам і ведамствам. Так, калі ў 1932 годзе такога роду прадпрыемствы на Беларусі далі 19 працэнтаў агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі, дык у 1940 годзе — 28 працэнтаў.

Істотныя абмежаванні дзяржаўнага суверэнітэту БССР назіраліся ў розных галінах яе духоўнага жыцця. У многіх адносінах яго стан і ход развіцця прадвызначаўся не на месцы, а ўсё ў той жа самай Маскве, што перашкаджала ўліку нацыянальна-адметнага ў беларускай культуры. У выніку ўмяшання агульнасаюзных структур у наша духоўнае жыццё ўжо на зыходзе 30-х гадоў давялося адчуць істотнае звужэнне сацыяльных функцый беларускай мовы, што паставіла пад пытанне само яе існаванне як асноўнага сродку зносін у сферы дзяржаўнай, эканамічнай, грамадска-палітычнай і культурнай дзейнасці.

Практычна да нуля быў зведзены дзяржаўны суверэнітэт БССР, калі па ўказцы Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення /АДПУ/, а пазней Народнага камісарыята ўнутраных спраў /НКУСа/ на яе тэрыторыі была развязана барацьба з г. зв. нацыянал-дэмакратамі. Ад волі гэтых агульнасаюзных структур залежала не толькі мера пакарання зусім невінаватых грамадзян курталай, уяўна суверэннай Беларусі, але і месца іх зняволення. Жыхарам Англіі мо і ў сне не снілася, каб хтосьці з яе грамадзян адбываў тэрмін зняволення ў Францыі ці Нямеччыне, а ў дзяржаве Беларусь этапамі накіроўвалі яе найлепшых сыноў і дачок у аддаленыя раёны іншай дзяржавы, і ніхто і пікнуць не смеў. Ужо аднаго гэтага факта хапіла б, каб усумніцца ў рэальнасці дзяржаўнага суверэнітэту БССР у 30-я гады.

Зусім не адчуваўся дзяржаўны суверэнітэт нашага народа падчас такой важнай падзеі ў яго гісторыі, як уз'яднанне ў верасні 1939 г. Савецкай Беларусі з Заходняй Беларуссю. Усё за БССР вырашаў СССР, хаця фармальна нейкую ініцыятыву тут можна было б даць ёй, каб у будучым зняць з кіраўнікоў Крамля адказнасць перад сусветнай грамадскасцю за змову з Гітлерам наконт падзелу Польшчы. Урад БССР абмежаваўся толькі правядзеннем мітынгаў, у час якіх афіцыйныя асобы заклікалі прысутных да актыўнай падтрымкі распачатага згодна з распараджэннем Галоўнага камандавання Чырвонай Арміі вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь. Не па ініцыятыве БССР з гэтай часткі тэрыторыі адбывалася гвалтоўная дэпартацыя насельніцтва ў аддаленыя раёны СССР, памеры якой вызначаюцца досыць вялікай лічбай: калі не сотнямі, дык дзесяткамі тысяч чалавек. Не адкуль-небудзь, а з Маскоўскага Крамля Беларусь атрымала ў кастрычніку 1939 года ўказанне перадаць буржуазнай Літве свой гістарычны і культурны цэнтр Вільню і Віленскае ваяводства, а Украіне некалькі паўднёвых валасцей Брэсцкага ваяводства. Каб хоць трошкі прыглушыць гнеў літоўскага народа на захоп яго краіны, улетку 1940 года Савецкі ўрад перадаў апошняй без усялякай згоды з уладамі БССР Свянцянскі і Гадуцішкаўскі раёны, часткі Астравецкага, Ашмянскага, Пастаўскага і Свірскага раёнаў.

Адсутнасць рэальнага суверэнітэту БССР, як і ўсіх іншых саюзных рэспублік, рабіла зусім неабавязковым для фашысцкай Германіі лічыць сябе ўцягнутай у вайну з кожнай з іх. Адзіным ворагам для яе быў толькі СССР, які ў адказ на вераломны напад гітлераўскай Германіі афіцыйна, перад усім светам аб'явіў ёй вайну. Беларусь жа такой аб'явы не зрабіла, а вось ахвяры панесла самыя вялікія. Неўзабаве пасля заканчэння вайны з фашысцкай Германіяй Беларусь у нейкай ступені перажыла тое, што мела ад падпісання ў 1921 годзе Расіяй і Украінай з Польшчай Рыжскага мірнага, дакладней грабежніцкага дагавора. За спінай БССР урады СССР і Польшчы 16 жніўня 1945 года падпісалі пагадненне, у адпаведнасці з якім ёй адышлі 17 раёнаў Беластоцкай і 3 раёны Брэсцкай абласцей, у якіх жылі пераважна беларусы.

Мала чаго рэальнага дадало да дзяржаўнага суверэнітэту БССР прыняцце яе ў красавіку 1945 года ў члены Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Даводзілася ўвесь час узгадняць сваю пазіцыю па абмяркоўваемых пытаннях з дэлегацыяй СССР. Таму ўдзел прадстаўнікоў БССР у працы ААН практычна ніколькі не паўплываў на тое, каб свет глядзеў на нашую рэспубліку, як на суверэнную дзяржаву. Большасцю палітыкаў, не кажучы ўжо пра радавых людзей, яна атаясамлівалася з СССР.

Уся палітычная гісторыя пасляваеннай Беларусі ёсць далейшы працяг страты ёю дзяржаўнага суверэнітэту, пачатак якой быў пакладзены ў папярэдні перыяд, калі сфармавалася сталінская каманднa-бюракратычная сістэма. Нерашучыя, палавінчатыя спробы хоць трохі падмацаваць так істотна пахіснуты дзяржаўна-палітычны суверэнітэт саюзных рэспублік у перыяд г. зв. хрушчоўскай адлігі не далі належнага эфекту, калі не лічыць, што з 1956 года ў нас уводзіцца практыка выбару на пасаду першага сакратара ЦК КПБ толькі асоб беларускай нацыянальнасці. Але, будучы сапраўды першай у сябе ў рэспубліцы, гэтая асоба мела вельмі абмежаваныя правы, калі трэба было на агульнасаюзным узроўні вырашаць пытанні, якія тычыліся дзяржаўна-палітычнага і сацыяльна-культурнага жыцця Беларусі. Вось чаму невыпадкова за перыяд 40—80-х гадоў сярод першых сакратароў ЦК КПБ, старшынях Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і старшыняў Савета Міністраў БССР не з'явілася ніводнай асобы, якая несла б у сабе зарад сапраўднага лідэра беларускай нацыі, таленавітага, незалежнага дзяржаўнага дзеяча, бо такі дзеяч можа сфармавацца толькі ў рэальна суверэннай краіне. БССР не была ёю.

Адсутнасць у БССР рэальнага дзяржаўнага суверэнітэту дазволіла агульнасаюзнаму цэнтру навязаць ёй такую сістэму народнай гаспадаркі, што ў выпадку разрыву міжрэспубліканскіх эканамічных сувязей ёй пагражаў ледзь не поўны развал. Падобнага роду эканамічная інтэграцыя з народнагаспадарчым комплексам СССР была свядома навязана і іншым савецкім рэспублікам. Вучоныя-эканамісты, дзяржаўныя і партыйныя дзеячы ў Маскве і іншых індустрыяльных цэнтрах Расійскай Федэрацыі добра ведалі гісторыю развіцця чалавецтва, у якой не злічыць выпадкаў развалу самых магутных поліэтнічных імперый. Гэтыя вучоныя і палітыкі, якія абслугоўвалі таталітарную камандна-бюракратычную сістэму СССР, не маглі не прадбачыць, што такі лёс непазбежна напаткае і гэтую шматнацыянальную дзяржаву, таму рабілі ўсё, што было ў іх сілах, дзеля ўзмацнення эканамічнай залежнасці саюзных рэспублік адна ад адной і ўсіх іх ад РСФСР, як галоўнага аб'ядноўчага цэнтра краіны. У найбольшай ступені ўдалося інтэграваць у народнагаспадарчы комплекс СССР беларускую эканоміку: тры чвэрткі эканамічнага патэнцыялу рэспублікі, сама яго структура адзіная з патэнцыялам Расіі. Сёння Беларусь у стане за кошт унутраных рэсурсаў забяспечыць вытворчасць канчатковага прадукту ўсяго толькі на 4 працэнты. Горшага ўжо і нельга было прыдумаць. Спецыяльна не вывучаў эканамічных узаемаадносін у ЗША, але, думаецца, што ў такім гаротным, татальна залежным ад агульнадзяржаўнай эканомікі, становішчы не знаходзіцца там ніводзін штат, хаця фармальна ён не мае статуса дзяржаўнасці ў гэтай краіне, як мела яго БССР у складзе СССР. Пачварныя вынікі колішняй эканамічнай інтэграцыі, што паставілі Беларусь у такую велізарную залежнасць ад іншых краін, не можа стаць прычынай, каб у імя выжывання пайсці на абмежаванне ці поўную адмову ад яе дзяржаўнага суверэнітэту. Трэба шукаць шляхі выратавання нацыі праз увядзенне іншага роду фактараў, няхай сабе нават і такіх, што на першым часе не прывядуць да прыкметных пазітыўных зрухаў у матэрыяльным становішчы грамадзян. Ніяк нельга ахвяроўваць дзяржаўным суверэнітэтам дзеля хутчэйшага атрымання нейкіх там эканамічных выгод, бо міне пэўны час, і яны перастануць задавальняць нас, а дзяржаўнага суверэнітэту мо ўжо і не ўдасца вярнуць у новых умовах.

Адсутнасць у БССР рэальнага дзяржаўнага суверэнітэту прывяла да такіх жа трагічных вынікаў не толькі ў эканамічным, але і ў культурным жыцці. Пераканаўчым сведчаннем таму можа быць амаль поўнае адміранне самага каштоўнага ў нашай культуры — беларускай мовы, што прывяло да небывалай дэградацыі нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Цывілізаваны свет стаў сведкам знікнення не проста якога-небудзь малавядомага афрыканскага ці паўднёваамерыканскага племені, а дзесяцімільённага еўрапейскага народа з багатай гісторыяй і арыгінальнай культурай. Жахліва, што ўсяго гэтага не разумелі ці не хацелі разумець партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, на долю якіх выпала правядзенне тых мерапрыемстваў, што вынікалі з абвешчанай па ініцыятыве Міхаіла Гарбачова перабудовы нашага грамадства. У іншых саюзных рэспубліках і сапраўды распачалася сур'ёзная праца па нацыянальна-культурным адраджэнні. Афіцыйныя ж структуры Беларусі лічылі гэта зусім лішняй, непатрэбнай для сябе справай. Касметычная, архіасцярожная перабудова ў рэспубліцы па лініі партыі і ўрада практычна не давала аніякіх станоўчых вынікаў, што вельмі непакоіла дэмакратычна настроеныя, нацыянальна свядомыя станы беларускага народа, якія інтэнсіўна ўзяліся шукаць выйсце з трагічнай для яго сітуацыі. Адна з такіх спроб была зроблена 25 чэрвеня 1989 года ў час правядзення Устаноўчага з'езда Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». З-за забароны афіцыйнымі партыйнымі і дзяржаўнымі органамі праводзіць яго ў якім-небудзь горадзе рэспублікі, месцам сустрэчы стаў старажытны беларускі горад Вільня. Праз два дні ў Мінску ў Доме літаратара адбыўся Устаноўчы сход, удзельнікі якога стварылі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У наступным годзе дабра заявіла аб сабе Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Праблема нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа стала галоўным, стрыжнёвым пунктам у праграмах большасці нанова створаных партый.

І ўсё ж пазітыўнага зруху ў выратаванні беларускай нацыі ад далейшага заняпаду не назіралася, бо яна працягвала заставацца па сутнасці недзяржаўнай нацыяй. Становішча не палепшылася, а калі і палепшылася, дык вельмі нязначна, і пасля прыняцця Вярхоўным Саветам БССР 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, і пасля надання 27 жніўня 1991 года гэтай Дэкларацыі статуса канстытуцыйнага закона, і пасля абвяшчэння 19 верасня 1991 года Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Рэспублікай Беларусь, бо яе дзяржаўны суверэнітэт усё ж заставаўся не рэальным, а ўяўным.

19 верасня 1991 года стала апошнім днём БССР. Праіснавала яна 72 гады 8 месяцаў 19 дзён. Гэтага часу ёй так і не хапіла, каб ператварыцца ў сапраўдную, рэальную суверэнную дзяржаву. І не таму, што беларускі народ не здольны да нацыянальна-дзяржаўнай творчасці. Полацкае, Турава-Пінскае і іншыя княствы старажытнага перыяду, Вялікае княства Літоўскае якраз дазваляюць гаварыць аб здольнасці беларусаў вырашыць свае дзяржаўныя справы. Не віна, а бяда ўсіх сумленных нацыянальна свядомых беларусаў, якім давялося жыць і працаваць у перыяд існавання БССР, заключаецца ў тым, што яны жылі і працавалі ў вельмі цяжкую эпоху панавання жорсткай савецкай таталітарнай камандна-бюракратычнай сістэмы, якая не была зацікаўлена ў тым, каб саюзныя, аўтаномныя рэспублікі ствараліся і развіваліся як суверэнныя дзяржавы. У такім жа духу ідэалагічныя службы партыі выхоўвалі і масы. З прычыны няведання ўласнай гісторыі, істотных памылак у нацыянальна-патрыятычным выхаванні для многіх людзей задавальненне нават на самым мінімальным узроўні сваіх сацыяльных патрэб стаіць на некалькі парадкаў вышэй за права мець уласную дзяржаву. Агульнапрызнана, што мера нацыянальнай самасвядомасці народа вызначаецца яго імкненнем да незалежнага дзяржаўнага жыцця. Чым больш выразней такое імкненне ў практычных дзеяннях людзей, тым больш высокі ўзровень іх нацыянальнай самасвядомасці. Калі ж такія імкненні адсутнічаюць ці маюць месца толькі ў агульных разважаннях людзей, тады можна гаварыць аб поўнай адсутнасці ў іх нацыянальнай самасвядомасці, а адсюль — і рэальнай магчымасці існавання як самабытнага этнасу. Бо гісторыя не ведае выпадку, каб нармальна жыў, квітнеў народ, які не мае ўласнай дзяржавы.

Адраджэнне

*У фондах Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі захоўваюцца цікавыя матэрыялы, якія звязаны з жыццём і дзейнасцю беларускіх пісьменнікаў, таленавітых дзеячаў навукі, культуры, мастацтва. Сярод іх пачэснае месца займае архіў Сяргея Пятровіча Сахарава — нашага слаўнага земляка, таленавітага педагога, грамадскага і культурнага дзеяча, шчырага збіральніка, выдатнага даследчыка і прапагандыста беларускай народнай творчасці, барацьбіта за духоўнае адраджэнне беларусаў.*

# АСВЕТНІК, ЗМАГАНЕЦ, ФАЛЬКЛАРЫСТ

Фонд N 3, вопіс I... Танюсенькая папачка, у якой змешчаны вопісы ўсяго 93-х адзінак захоўвання. Але за гэтымі 93-ма нумарамі — цэлы лёс — яркі, цікавы і... трагічны.

Па волі гэтага лёсу амаль усё жыццё С. Сахарава прайшло ў Латвіі. Шчыры беларус, ён заўсёды імкнуўся да сваёй бацькаўшчыны. Разам з ёй, як сапраўдны сын, сумаваў і радаваўся, пакутаваў і адраджаўся. С. Сахараў пакінуў нам велізарную духоўную спадчыну — вялікую колькасць артыкулаў, прысвечаных самым разнастайным падзеям і праблемам, даследаванняў па пытаннях культуры, краязнаўства, народнай творчасці. Пры жыцці гэты таленавіты чалавек па сутнасці ўзвёў сабе цудоўны помнік з некалькіх тысяч запісаў беларускага фальклору, які сабраў разам з вернымі памочнікамі і дарадцамі — жонкай і дачкой, а таксама вучнямі і настаўнікамі беларускіх гімназій у Латгаліі.

Разам з беларускім фальклорам у фондзе С. Сахарава захоўваецца больш за 100 запісаў, якія былі зроблены падчас знаходжання яго ў Казахстане. Гэта творчасць зняволеных — людзей розных нацыянальнасцей, якія воляй абставін апынуліся далёка ад родных мясцін, а пасля цяжкай працы збіраліся разам, каб праз успаміны, песні, казкі, некалі ў дзяцінстве пачутыя ад маці ці бабулі, наблізіцца да малой радзімы.

Пэўную цікавасць выклікаюць таксама мастацкія творы розных аўтараў, выразкі з газет і часопісаў, тэзісы і даклады навуковых канферэнцый і інш.

Хто ж ён такі, гэты стройны, прыгожы чалавек, які больш за жыццё любіў сваю зямлю, народ і ўсё, што з ім звязана?

Сяргей Сахараў нарадзіўся 29 верасня 1880 года ў старажытным Полацку ў сям'і дзяка пры мясцовым кадэцкім корпусе. Праз год бацька атрымаў новае прызначэнне ў вёску Банонь Полацкага павета. Тут, у маленькай хатцы царкоўнага вартаўніка, прайшлі лепшыя гады маленства С. Сахарава. Але, як гэта бывае найчасцей, радасць не доўжыцца вечна — у васьмігадовым узросце хлопчык застаўся без бацькі, раптоўная смерць якога цяжарам навалілася на безабаронную сям'ю. Уласнага дома Сахаравы не мелі, а службовае жыллё трэба было вызваляць для новых гаспадароў.

Прытулак знайшлі ў вёсцы Тураўлі ў матчынага дзядзькі, дзе пражылі каля трох гадоў, а потым вярнуліся ў Полацк. У Тураўлі, у вясковай школцы, С. Сахараў упершыню далучыўся да ведаў. У 1891 годзе яго, як сірату, прынялі ў Полацкае духоўнае вучылішча на поўнае дзяржаўнае забеспячэнне. У вучылішчы, якое нагадвала памялоўскую бурсу, С. Сахараў прабыў пяць год. Гэты перыяд даволі цікава апісаны ім у аўтабіяграфічных нататках, якія таксама захоўваюцца ў фондзе.

Наступнай прыступкай у жыцці С. Сахарава стала Віцебская духоўная семінарыя, у якую ён трапіў пасля вучылішча ў 1896 годзе. Менавіта ў семінарыі ў яго абудзілася любоў да свайго краю. Гэтаму ў пэўнай ступені спрыяла атмасфера, якая панавала ў сценах семінарыі, як сярод семінарыстаў, так і сярод выкладчыкаў было нямала прагрэсіўна настроеных людзей. З цеплынёй і павагай успамінаў С. Сахараў, напрыклад, свайго настаўніка, вядомага археолага Д.Даўгялу, які разам з А. Сапуновым, Н. Нікіфароўскім, Е. Раманавым заклаў сховішча старажытных рэчаў у Віцебску. Сярод семінарыстаў карысталіся вялікай папулярнасцю апавяданні А. Пшчолкі, у рукапісным выглядзе хадзілі па руках «Панскае ігрышча» Ф. Тапчэўскага, «Тарас на Парнасе» і інш.

Сяргея ўсё ж больш прываблівала праца настаўніка, і, адмовіўшыся ад сану свяшчэнніка, ён быў прызначаны ў Пасіна Лудзенскага павета вучыць вясковых дзетак. Школа захапіла яго цалкам. Урокі ў класах /вучыў 80 чалавек/ спалучаў з практыкаваннямі на свежым паветры, дадаткова займаўся з дзецьмі спевамі, гімнастыкай, гульнямі.

Энтузіязм і здольнасці маладога настаўніка заўважыла кіраўніцтва, і ў 1902 годзе яго перавялі ў Люцынскую вышэйшую гарадскую школу. Між іншым, каб уладкавацца на працу ў гэту школу, неабходна было мець за плячамі настаўніцкі інстытут.



Наогул Люцын, у якім С. Сахараў настаўнічаў чатыры гады, хаця і быў правінцыйным гарадком, пакінуў у яго жыцці прыкметны след. У газеце «Витебскій голосъ» з'явіліся першыя карэспандэнцыі С. Сахарава, прысвечаныя мясцовым будням, і першая фальклорная публікацыя — люцынская легенда аб старым замку. Але самае значнае і галоўнае было тое, што менавіта тут ён сустрэў сваё моцнае і адзінае каханне ў асобе маладой і прыгожай настаўніцы Вольгі Нікановіч.

Пасля рэвалюцыі 1905 года семінарысты атрымалі дазвол вучыцца ў вышэйшых навучальных установах. С. Сахараў адразу паступіў у Юр'еўскі /цяпер Тартускі/ універсітэт на юрыдычны факультэт, хаця, як сам прызнаваўся, яго цягнула на гісторыка-філалагічны. Ва універсітэце правучыўся да 1911 года. Дыпломную працу падрыхтаваў па царкоўным праве. Праца была ўхвалена, а потым цалкам надрукавана ў зборніку Вучона-літаратурнага таварыства пры гэтым універсітэце.

Пасля завяршэння вучобы ў жніўні 1911 года С. Сахараў накіраваўся ў Віцебск, дзе яму прапанавалі месца выкладчыка правазнаўства адразу ў трох гімназіях і настаўніцкім інстытуце. Адначасова працаваў у Віцебскай казённай палаце і сакратаром Віцебскага папячыцельнага камітэта аб турмах. Займаўся і грамадскай працай. Яго абіраюць сакратаром Віцебскай архіўнай вучонай камісіі. Ён бліжэй знаёміцца з вядомымі беларускімі гісторыкамі А. Сапуновым, І. Стукалічам, К. Ціхаміравым і інш., якія аказалі на яго пэўны ўплыў.

У Віцебску С. Сахараў прабыў да 1913 года. Атрымаўшы запрашэнне ад свайго былога кіраўніка дыпломнай працы, ён прыязджае ў Юр'еў і ўладкоўваецца інспектарам народных вучылішч. Гэтая пасада прынесла С. Сахараву пэўнае задавальненне, бо папярэдняя, сухая канцылярская, не давала асалоды.

У Юр'еве С. Сахарава заспела вайна 1914 года і рэвалюцыя 1917 года. Настаў вельмі няпросты час: на Прыбалтыку насоўваўся нямецкі фронт, разгортваліся рэвалюцыйныя падзеі. С. Сахараў не мог заставацца ў далечыні ад свайго народа, і, як гэта бывае ў крытычныя моманты, яго пацягнула на радзіму, каб там разам з суайчыннікамі перажыць трывожныя дні.

У кастрычніку 1917 года С. Сахарава запрасілі на пасаду дырэктара-арганізатара 4-класнай гімназіі ў Люцыне. Прапанову прыняў з радасцю, бо і для яго, і для сям'і з Люцынам было звязана шмат добрага. З энтузіязмам прыступіў да арганізацыі гімназіі. У першы клас пайшло 37 чалавек.

Ваенныя і палітычныя падзеі тых часоў не абмінулі і Люцын. С. Сахараў ахарактарызаваў гэты перыяд як «жудасны, але і цікавы час». Паступова, пасля далучэння Люцына да Латвіі, жыццё пачало наладжвацца. Гімназія пад кіраўніцтвам С. Сахарава ў 1921 годзе зрабіла першы выпуск. Ён быў даволі ўдалы. У далейшым многія з выпускнікоў закончылі Латвійскі універсітэт, настаўніцкія курсы. Гэта не магло не радаваць дырэктара.

Наогул, 1921 год адыграў у жыцці С. Сахарава паваротную ролю. Як адзначаў ён сам, менавіта з гэтага часу пачаўся новы перыяд яго жыцця, які можна назваць беларускім. С. Сахараў дзейна ўключыўся ў беларускую культурна-асветніцкую працу, той грамадскі рух, які паволі ахапіў усю беларускую меншасць у даваеннай Латвіі. У 1921 годзе ў Латвіі было заснавана культурна-грамадскае таварыства «Бацькаўшчына». С. Сахараў быў абраны старшынёй яго аддзялення ў Люцыне. Члены таварыства адразу ж актыўна ўключыліся ў працу. У месцах кампактнага пражывання беларусаў былі закладзены філіялы таварыства, створаны тэатральныя і харавыя секцыі, адчынены беларускія бібліятэкі, праведзена рэгістрацыя беларускіх дзетак. З дапамогай Яна Райніса, які ў той час узначальваў Міністэрства асветы Латвійскай рэспублікі і быў дэпутатам сойма ад сацыял-дэмакратычнай партыі, беларусам удалося адкрыць, пераважна ў Латгаліі, больш за трыццаць беларускіх школ, у тым ліку — дзве дзяржаўныя гімназіі.

Беларускія школы падпарадкоўваліся Беларускаму аддзелу пры Міністэрстве асветы. Кіраўніком яго 18 кастрычніка 1921 года і быў прызначаны С. Сахараў.

Акрамя педагагічнай і грамадскай працы, ён актыўна выступаў у друку, у прыватнасці, у газеце «Голас беларуса» і часопісе «Беларуская школа ў Латвіі». Наогул, можна зазначыць, што на той перыяд С. Сахараў з'яўляўся адным з лідэраў культурнага і палітычна-адраджэнскага руху латышскіх беларусаў. Да таго ж Сяргею Пятровічу даводзілася сумяшчаць грамадскую працу з абавязкамі дырэктара Люцынскай гімназіі. Амаль цэлы год ён разрываўся паміж Рыгай і Люцынам /тры дні на тыдзень працаваў у Люцыне і тры дні — у Рызе/.

Барацьба за беларускую школу была даволі цяжкай. На яе ўплывалі і нядобразычлівыя адносіны з боку рускага, польскага і часткі латышскага буржуазнага грамадства, а таксама ўнутраныя спрэчкі паміж беларускімі настаўнікамі, маласвядомасць беларускага насельніцтва.

Усялякія чуткі, абвінавачванні беларусаў у «левізне» прывялі да беларускага працэсу 1925 года. С. Сахараў прама не быў прыцягнуты да суда, але яго звольнілі з пасады кіраўніка Беларускага аддзела, а сам аддзел ліквідавалі. У тым жа годзе С. Сахараў пакінуў Рыгу і накіраваўся на новае месца службы ў Дзвінск — спачатку ў якасці настаўніка, а потым стаў дырэктарам Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі.

Праца ў Дзвінску яго ў асноўным задавальняла, ён імкнуўся як мага больш зрабіць для развіцця беларускай школы. Але на той час у латышскім кіраўніцтве вызначыўся новы накірунак у адносінах да нацыянальных меншасцей. Новы міністр асветы Латвіі Кенінш павёў на іх рашучы наступ. Адной з першых яго ахвяр сталі латышскія беларусы, як самая слабая суполка. У 1932 годзе нечакана быў аддадзены загад аб ліквідацыі Дзвінскай беларускай гімназіі і далучэнні яе да латышскай, а ў 1939 годзе наогул была прыпынена беларуская культурная і грамадская дзейнасць. Сахараў, маючы 52 гады, быў вымушаны пайсці ў адстаўку. Разам з сям'ёй вярнуўся ў Рыгу.

Пасля напружанай педагагічнай і грамадскай працы апынуцца па-за справамі было для яго суровым пакараннем. Ратаванне знайшоў у літаратурнай і фалькларыстычнай працы. Менавіта з гэтага часу С. Сахараў сур'ёзна вырашыў заняцца зборам і падрыхтоўкай да выдання фальклору беларускага насельніцтва Латвіі, збіраць які пачаў з пачатку 20-х гадоў падчас працы ў Дзвінскай беларускай гімназіі.

Між тым вецер перамен зноў павеяў над Латвіяй. Адносіны да нацыянальных меншасцей з боку ўрада, асабліва напярэдадні другой сусветнай вайны, змяніліся на лепшае. Было створана Таварыства беларусаў у Латвіі, у склад праўлення якога ўвайшоў і С. Сахараў. З'явілася надзея на адраджэнне беларускага друку, на адчыненне беларускіх школ, на магчымасць далей дзейнічаць на ніве асветы.

Надзея спраўдзілася. С. Сахараў стаў працаваць спачатку ў Рыжскай беларускай вячэрняй школе, потым — дырэктарам нанова адчыненай Індраўскай беларускай гімназіі. У 1940 годзе яму ўдалося выдаць на ўласныя сродкі першы выпуск «Народнай творчасці Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў». Астатнія тамы пакуль што знаходзяцца ў рукапісах.

У 1944 годзе адразу ж пасля выгнання немцаў з Латвіі С. Сахараў наведаў родныя мясціны — Люцын, але карціна была даволі сумная — ад беларускіх школ і гімназіі нічога не засталося. Гімназію ліквідавалі, а беларускія школы ператварылі ў рускія.

Вярнуўшыся ў Рыгу, С. Сахараў некаторы час працаваў рэзервовым настаўнікам у рускай школе, але душа да гэтага не ляжала. Яна імкнулася да родных мясцін і родных магіл, дзе былі пахаваны самыя блізкія людзі і галоўныя памочнікі ў яго працы — жонка і дачка Галіна. А тут непрыемнасці...

З красавіка 1945 года па нагавору латгальскага свяшчэнніка Міхася Краўчанкі 65-гадовы С. Сахараў быў арыштаваны як беларускі нацыяналіст і паводле прыгавору ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда асуджаны на 5 год пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ў Карагандзінскай вобласці.

З месца зняволення вярнуўся ў 1950 годзе, але жыць у Рызе забаранілі. І наогул лёс цяпер вельмі жорстка абышоўся з ім. С. Сахараў, які ўсё жыццё прысвяціў свайму народу, не шкадуючы ні сіл, ні часу, клапаціўся аб ім, вымушаны быў у пажылым веку вынесці столькі горычы, столькі знявагі, застацца без сродкаў на існаванне. І пенсіі ж яго пазбавілі. Трымаўся Сяргей Пятровіч толькі дзякуючы зяцю. Але добры па сваёй натуры, не азлобіўся, не затаіў крыўды на ўвесь свет. Стомленае сэрца С. Сахарава саграваала надзея на лепшыя часы, на тое, што некалі на Радзіме каму-небудзь спатрэбіцца тое, чым ён займаўся амаль усё жыццё — яго духоўная праца і, перш за ўсё, фальклорныя творы латышскіх беларусаў, па-свойму унікальныя, якія любоўна збіраў і шчыра захоўваў для сваіх нашчадкаў.

На жаль, асноўная фальклорная спадчына С. Сахарава так і не надрукавана і толькі малой часткай уведзена ў навуковы ўжытак у зводзе «Беларуская народная творчасць».

Цёплым красавіцкім днём 1954 года завяршылася яго зямное жыццё — жыццё добрага, моцнага чалавека, які вельмі любіў Беларусь. Нізкі паклон яму за гэта!

**Марына ЛІС,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Якуба Коласа АН Беларусі**

*На здымку: спявачка Уршуля Нейгоборт-Беляўская, С. П. Сахараў і яго дачка Галіна, якая прымала ўдзел у збіранні і апрацоўцы фальклорнага матэрыялу.*

Музыка

# У АВАНГАРДЗЕ. ЯК БАХ

## III МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ «АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЫ»

АБВЯСЦІЎШЫ: «Будзе ўсё самае новае» /згадайце «ЛіМ» за 29.10.93 г./, арганізатары фестывалю настроілі чытачоў у лад сваёй ідэі. А заадно і патлумачылі, чаму чарговая фірменная імпрэза аб'яднання «Беларуская Капэла» грунтавалася не на творчасці кампазітараў мінулага, як гэта было 2 гады запар, а на музыцы авангарднай. З нагоды гэтага «чаму?» неаднойчы, між іншым, выказваўся В. Скорабагатаў, мастацкі кіраўнік «Беларускай Капэлы»:

**— Як жа можна забывацца, што ў традыцыйных еўрапейскіх капэлах заўсёды гучала менавіта сучасная і толькі сучасная музыка? Бах, дарэчы, не выконваў старадаўнюю музыку, ён авангардную музыку — музыку І. С. Баха выконваў! Таксама, як і Гайдн ці Моцарт. Таму й сённяшняя наша музычная культура павінна абавязкова быць у полі зроку «Беларускай Капэлы».**

Дзіўна, канешне, што нават на зыходзе імпрэзы для некаторых шаноўных адмыслоўцаў музычнай навукі й практыкі сувязь паміж адраджэннем ды авангардам так і засталася няўцямнай. А менавіта ж з гэтай сувязі й высноўвалася канцэпцыя фестывалю, які ўдзельнікі выніковага «круглага стала» ў Саюзе кампазітараў /і з боку гасцей, і з беларускага боку/ трактавалі пераважна як проста міжнародны фестываль сучаснай музыкі з неакрэсленай канцэпцыяй ці нават як «цыкл канцэртаў з досыць выпадковым наборам твораў».

Паводле якой ідэі складаліся канцэртныя праграмы? Па якім прынцыпе арганізатары запрашалі замежных гасцей? Новы твор кампазітара А. — гэта неа-Дэбюсі ці позні Бартак? Якая розніца — у чыста слыхавых уражаннях — паміж канцэртам Беларускай асацыяцыі сучаснай музыкі ды фестывалем «Маскоўская восень»?.. Знаёмая сітуацыя, калі фармальнымі размовамі пра музыку, педантычным імкненнем вызначыць, напрыклад, тэматычна-жанравы напрамак праграм, не дапускаючы, што напрамкам можа быць і плюралізм, — прыкрываецца ці то нежаданне гаварыць па сутнасці, ці то брак уласнага меркавання, ці то няздатнасць да жывога — праз слых, праз пачуццё, праз сэрца — успрымання **жывой** музычнай «матэрыі»...

І тое, што ў напраўду святочным паветры фэсту ўзнікалі токі нігілізму — як ад самой музыкі, так і ад кулуарных гамонак — вымушала ўспомніць тонкую заўвагу вядомага пісьменніка-філосафа. Нігілізм, паводле яго, ёсць адчай чалавека з няздатнасці рабіць справу, да якой ён зусім не заклікаены.

Такім чынам, хто заклікаены — той робіць. Хто, апроч «Беларускай Капэлы», рабіў фестываль? У спісе арганізатараў — Міністэрства культуры, ДАВТ, Беларуская філармонія, Асацыяцыя сучаснай музыкі /АСМ/, Саюз музычных дзеячаў, Аўтарскі фонд Саюза кампазітараў, Акадэмія музыкі, Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Дзякуючы ўсім, фестывальную дэкаду — а гэта 8 канцэртных праграм — поўнілі галасы XX ст., дакладней, яго апошніх дзесяцігоддзяў. Творы кампазітараў Германіі, Расіі, Аўстрыі, Польшчы, Ізраіля, Фінляндыі, Нідэрландаў і — асабліва шырока — творы гаспадароў. Было й багата прэм'ер.

Канцэртныя ўражанні дапаўняліся штодзённымі сустрэчамі братоў па творчасці. Толькі тры імені — і чалавек дасведчаны зразумее, на якім прадстаўнічым міжнародным узроўні ўсё адбывалася: у Мінск прыехалі маэстра К. Ахо /Фінляндыя/, М. Капытман /Ізраіль/, З. Краузэ /Польшча/. Госці выступілі з лекцыямі, мелі гутаркі ў «нецырымоннай» абстаноўцы. І ўжо зусім сяброўскія зносіны наладзіліся ў нашых музыкантаў з добрымі польскімі знаёмцамі — кампазітаркай, дырэктарам фестывалю «Познаньская музычная вясна» Л. Зяліньскай ды панам В. Адамчэўскім, вядомым дзеячам культуры /для нас, прынамсі, ён знаёмы як дырэктар Манюшкаўскага фестывалю/, які, між іншым, правёў перамовы наконт супольнага польска-беларускага святкавання юбілею кампазітара.

Зразумела, што ў сапраўдных **фестывальных** стасунках проста не можа выявіць свой нораў вірус канкурэнтнасці, і нейчыя спробы «расставіць па клетачках» кампазітарскія таленты, вызначыць «галоўны» канцэрт, недаслухаўшы й палову з іх, выглядаюць некарэктна. Пагаманіць, зверыць свае творчыя гадзіннікі ўжо не з рытмам уласнага сэрца, а з агульнаеўрапейскім часам, паказаць сваю музыку адно аднаму і, канечне, публіцы, якая ва ўсе вякі мела тонкі элітарны пласт, падатлівы да новых слыхавых уражанняў... Ці не дзеля гэтай мэты й ладзіўся фэст і ці не дзеля яе ж збіраліся некалі прапрадзеды сённяшніх творцаў ды выканаўцаў, спрыяючы ўваходжанню Беларусі ў агульнаеўрапейскі культурны працэс?

Мэта дасягнута. Каб пераканацца ў тым, дастаткова было пачуць адну-адзіную фразу В. Капыцькі, нашага найцікавага самабытнага кампазітара. Ён у праграмах не ўдзельнічаў, на жаль, затое ўспрымаў усё быццам збоку і таму мо глыбей ад іншых усвядоміў, што ж адбылося. І тады сказаў:

**— Бадай, упершыню пасля таго, як 10 гадоў назад, адвучыўшыся ў Піцеры, вярнуўшыся на Беларусь і трапіўшы ў «дзірку», адметную трагедыямі многіх творчых лёсаў, я ўсвядоміў, што Мінск і Беларусь перастаюць быць гэтай «дзіркай». Пачалі знаходзіць адно аднаго людзі, чыя арганізатарская і творчая энергія супадаюць...**

«Акумулятар арганізатарскіх і творчых здольнасцей» В. Скорабагатаў ды ансамбль салістаў «Класік-Авангард», які пад кіраўніцтвам У. Байдава літаральна на энтузіязме ўвасобіў новыя складаныя партытуры і аўтараў беларускіх, і гасцей, — такі вось утварыўся рухавік усцешных змен у нашым музычным доме. Здаецца, яго сталыя насельнікі паглядзелі свежым вокам і адно на аднаго, разам прымаючы новых сяброў з замежжа.



За раялем — Зыгмунт КРАУЗЭ /Польшча/.



Польскі віртуоз Кшыштаф БАКОЎСКІ.



Алена МАЛЬЦАВА, артыстка ансамбля «Класік-Авангард».

КАМЕРНАЯ МУЗЫКА — гэты заўсёдны прытулак самых тонкіх пачуццяў, самых надзённых думак, самых дзёрзкіх эксперыментаў — царавала ў канцэртных залах. /Сімфанічны жанр паявіўся толькі на закрыцці фестывалю/. Характар яе эмацыянальна-псіхалагічнага ўздзеяння вымушаў недалікатна думаць, што музыка ва ўсім свеце падзялілася на медытацыйную ды раздражняльную, а рэчышча музыкі «рэлаксацыйнай» нібыта перасохла. Але ж калі на сцэне захопленыя і высакакласныя выканаўцы, заўсёды знойдзеш уцеху: не для душы, дык для розуму, не для распешчанага слыху, дык для прафесійнай цікаўнасці...

Арганізатары фестывалю, згадваючы еўрапейскія /а г.зн. і колішнія беларускія/ традыцыі хатняга музіцыравання, марылі пра ўзнаўленне самой стыхіі такога грання, адраджэнне ягоных прынцыпаў. Утопія канца XX стагоддзя? Не скажыце. Думаю, вельмі сімвалічны быў пачатак канцэрта Беларускай АСМ. Юны флейтыст Алесь Дарохін выконваў 4 п'есы У. Дарохіна: «Медытацыя», «Інтэрмецца», «Сарабанда», «Кадрыля». Наш юны сучаснік граў твор, напісаны сёння і — у духу старадаўніх сюіт. У голасе ягонага інструмента нібы злучаліся два часавыя паняцці: «тады» — і «цяпер».

Вось тут можна гаварыць пра ўкаранёнасць твора у глыбінныя традыцыі, і яго блізкасць да імправізацыйнай стыхіі, і пераемнасць традыцый сямейнага музіцыравання, і повязь флейтавай мовы з інтанацыйнай сферай нашага дня.

Вобразы, блізкія мастакам з часоў антычнасці, перастварыў сучаснымі кампазітарскімі сродкамі ў сваім новым творы для гітары й струннага квінтэта В. Войцік — «Серэнада Эола». Між міфалагізаваным «пазаўчора» і засмужаным «заўтра» разыграўся «UI» А. Літвіноўскага — 10-мінутная драматычная легенда для струннага квінтэта /дарэчы, пададзеным, скажу так, у самым соку тэмбравых магчымасцей гэтых інструментаў/.

Выконваўся на фестывалі ўжо вядомы, прызнаны і калегамі, і слухачамі, і крытыкай канцэрт А. Залётнева «Credo» для ўдарных інструментаў. Павевы станоўчай энергіі зыходзілі таксама ад новага шасцічасткавага Канцэрта С. Бельцюкова для камернага ансамбля, «Пастаралі» С. Янковіча. А вось В. Кузняцову ўдалося таленавіта — з дапамогаю барытона М. Жылюка і ансамбля — застрашыць публіку «Дзвюма прыпавесцямі Фр. Кафкі». Здзівіў Я. Паплаўскі: ягоная авангардысцкая «Падсвядомасць» атрымала нечакана палемічнае дапаўненне ў сімфанічным канцэрце, дзе была прадстаўлена ранняя паэма для аркестра «Quo vadis» — твор без строгай праграмы, але натхнёны філасофскай вобразнасцю аднайменнага рамана Г. Сянкевіча. Прэзідэнт АСМ А. Сонін прысвяціў цэлую сімфонію для раяля сола свайму ўлюбёнаму паэту В. Мандэльштаму...

На жаль, складальнікі праграмы АСМа захапіліся, страцілі найважнейшае ў мастацтве пачуццё меры і расцягнулі свой канцэрт без малога на 4 гадзіны /?!/, з-за чаго другая палова яго мела неадэкватную рэакцыю ў добра-такі апусцелай зале. Прынамсі, заключны нумар, «Псальм IX» Д. Лыбіна для галасоў, аргана, габоя, дзвюх тубаў і ўдарных, застаўся амаль без увагі. Але ж гэтае складанае казанне



Мастацкі кіраўнік аб'яднання «Беларуская Капэла» Віктар СКОРАБАГАТАЎ, кампазітары Фарадж КАРАЕЎ /Масква/ ды Уладзімір ДАРОХІН; справа — госць з Польшчы Войцах АДАМЧЭЎСКІ.

пра Божы суд і справядлівасць вартае таго, каб быць пачутым, прачутым, падтрыманым! Як быў пачуты і ўхвалены твор госця з Узбекістана Ф. Янаў-Яноўскага «Missa brevis» у «эксклюзіўным», паводле волі аўтара, першым выкананні «Класік-Авангарда» з расійскаю спявачкай Н. Герасімавай.

Крыху яшчэ пра гасцей. Была выпрабавальная для нерваў «Саната з пахавальным маршам» В. Якімоўскага, стамляючая маторыка «Ліпеньскага інтэрмецца» Я. Падгайца /абодва — масквічы/. Была ледзь не парадыйная «Жар-птушка» І. Стравінскага ў інтэрпрэтацыі амстэрдамскага ансамбля «Дэ эрэпрайс». Было «Каліва музыкі для Дж. Крамба» Ф. Караева, маскоўца азербайджанскага паходжання, — яркая і найтанчэйшая лучнасць заходняга эпатажу ды ўсходняй мудрай сузіральнасці. Былі віртуозныя імправізацыі палякаў — кампазітара ды кантрабасіста Т. Вялецкага, скрыпача К. Бакоўскага /а як гучаў І-ы канцэрт Х. Куленты ў ягоным выкананні!/. Была ігра бліскучага фінскага габаіста Т. Менту.

Аўтарскі канцэрт М. Капытмана, натхнёна праведзены музыкамі «Класік-Авангарда», запомніўся сольнымі «Ламентацыямі» ў выкананні флейтыста У. Бурага, скрыпічнай кантыленай А. Жарэгі /«Cantus» для струннага трыо/, тонкім піянізмам У. Дулава /«Для фартэпіяна»/ і вакалам экзатычнай спявачкі з Ізраіля В. Котлер /«Пісьмёны светастварэння», «Цыклы»/.

Адным з мацнейшых медытацыйных узрушэнняў стаўся аўтарскі канцэрт З. Краузэ. «Якія збіраюцца з усяго свету»: 7 скрыпак, 2 віяланчэлі, а воддаль — альтыст А. Хахлоў... Што за дзівосная п'еса на тэму, вакол якой віюцца, да якой мкнуць, нібы да гэткага меладыйнага магніта, жывыя ручаінкі гукаў, — быццам птушыны хаўрус цягнецца да радзіннага гнязда... А фартэпіянныя мініяцюры ў аўтарскім выкананні, сярод якіх сенсацыйнае ўздзеянне зрабіла «Музыка каменя»! Маніпуляцыі З. Краузэ металічнымі палачкамі над струнамі раяля выклікалі да жыцця неверагодныя гукі, якія выдавалі то на цымбалавае «ценьканне», то на вібрацыю флексатона, то на спецыфічную «мінеральную» гульню нябачных струменьчыкаў. Прыроду «эфекту Краузэ» не разгадаў ніводны музыкант у зале. І толькі калі пасля канцэрта нашы барадатыя ды бязвусыя творцы абступілі раяль, пачулася з палёгкай: «Усё да смешнага проста! Пад струнамі ў яго пакладзены звычайны каменьчык...»

TERRA INCOGNITA. Першыя фестывалі «Адраджэнне беларускай капэлы» замацавалі гэтае словазлучэнне за нашай музычнай мінуўшчынай, якая вызіркнула, нарэшце, з-за пыльнай ідэалагічнай заслоны. Terra incognita... У нейкім сэнсе гэта — і пра замежную музыку XX стагоддзя, нашу сучасніцу, пранікненне якой праз тую ж «заслону» да нядаўніх гадоў было радаснай, але рэдкаснай выпадковасцю.

Змяніўся час — і ўсе incognito выходзяць з-за дакучлівай заслоны, здымаюць маскі, і... І так хочацца, каб на працягу terra incognita адкрылася Terra Harmonia! Лёс гэтай «зямлі» — у руках творцаў, якія служаць музыцы сёння, спадзеючыся паслужыць ёй і заўтра. Незалежна ад яркасці закладзенай у іх іскры Божай, ад прафесійнай дасведчанасці, ад эстэтычных прыхільнасцей усе яны — у авангардзе. І ўсе яны — удзельнікі вечнага руху за падтрыманне людскасці сярод людзей, за адраджэнне духоўнасці.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# Фонд Сораса — Беларусь

# «ТРАНСФАРМАЦЫЯ ГУМАНІТАРНАЙ АДУКАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ»

Так называецца адкрыты конкурс, у якім могуць удзельнічаць настаўнікі, выкладчыкі, вучоныя акадэмічных і галіновых навуковых установаў і арганізацый Беларусі і краін замежжа.

**Конкурс праводзіцца ў тры туры.**

Прымяняецца сістэма грантаў. Работа ўсіх аўтараў, якія прайшлі кожны тур, аплачваецца. Адкрыты конкурс праводзіцца Міністэрствам адукацыі Беларусі /Мінск/ пры ўдзеле Фонду Сораса — Беларусь.

Мэтай конкурсу з'яўляецца абнаўленне сістэмы адукацыі Беларусі, стварэнне комплексу вучэбных дапаможнікаў, хрэстаматый, даведнікаў, слоўнікаў, практыкумаў, сродкаў навучання, арыентаваных на выкарыстанне камп'ютэрнай і аўдыёвізуальнай тэхнікі для вышэйшай і сярэдняй школы па гуманітарных і сацыяльна-эканамічных дысцыплінах.

Конкурс праводзіцца па наступных накірунках:

**філасофія, сацыялогія, эканоміка, паліталогія, правазнаўства, сацыяльная работа, псіхалогія і педагогіка, культуралогія, сусветная і беларуская літаратура, беларуская мова, гісторыя Беларусі, нацыянальная культура, экалогія, чалавек і грамадства, гісторыя мастацтва, дашкольная адукацыя, пачатковая школа, адукацыйная тэхналогія, геаграфія.**

У конкурсе могуць прыняць удзел як асобныя аўтары, так і аўтарскія калектывы ВНУ і пачатковых установаў Беларусі, а таксама замежныя аўтары з краін СНД і іншых дзяржаў. Яго арганізатары мяркуюць адабраць па кожным відзе дапаможнікаў вучэбна-метадычнага комплексу не па адной, а па некалькі конкурсных работ, каб забяспечыць альтэрнатыўнасць і варыятыўнасць выкладання дысцыплін.

Конкурс ананімны, у сувязі з чым работы на конкурс павінны быць прадстаўлены пад дэвізам.

1. Конкурс заявачных матэрыялаў; 2. Конкурс рукапісаў; 3. Публікацыя конкурсных работ.

**Тэрмін конкурсу адзін год, пачынаючы з 1 студзеня 1994 года.**

Аўтары, якія паспяхова прайшлі першы тур, атрымліваюць грант на прадаўжэнне работы.

Установам кампенсуюцца магчымыя затраты, звязаныя з часовым вызваленнем ад асноўнай працы аўтараў, якія атрымалі грант на конкурсе.

Канчаткова падрыхтаваныя і прайшоўшыя экспертызу конкурсных камісій рукапісы пасля заканчэння другога тура будуць выдадзены пробным тыражом і накіраваны для апрабацыі ў вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы Беларусі.

Усе аўтарскія правы захоўваюцца за аўтарам работы.

У далейшым мяркуецца тыражаванне лепшых работ на падставе заявак, якія паступілі ад ВНУ, школ і іншых навучальных установаў, што забяспечвае стварэнне рынку адукацыйных паслуг і канкурэнцыю адукацыйнай прадукцыі.

Арганізацыяй, якая ажыццяўляе каардынацыйна-метадычную работу, з'яўляецца Выканаўчая дырэкцыя праграмы «Трансфармацыя гуманітарнай адукацыі Беларусі», на адрас якой з паметкай «На конкурс» накіроўваюцца ўсе матэрыялы ад аўтараў.

Адрас: 220027, Мінск-27, пр. Ф. Скарыны, 65, Політэхнічная акадэмія, корпус 11 А, к. 503 Фонд Сораса — Беларусь, тэл./факс: 32-77-13.

# ПАЛАЖЭННЕ

## АБ УМОВАХ ПРАВЯДЗЕННЯ КОНКУРСУ ПАДРУЧНІКАЎ, ВУЧЭБНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ І МЕТАДЫЧНАГА ЗАБЕСПЯЧЭННЯ ПА ГУМАНІТАРНАЙ АДУКАЦЫІ ДЛЯ НАВУЧАЛЬНА-ВЫХАВАЎЧЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСІ

1. Конкурс аб'яўляецца і праводзіцца Міністэрствам адукацыі сумесна з Фондам Сораса — Беларусь.

2. Мэтай конкурсу з'яўляецца абнаўленне сістэмы гуманітарнай адукацыі Беларусі, стварэнне новых пакаленняў падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў і фарміраванне рынку разнастайнай вучэбнай прадукцыі ў галіне гуманітарнай адукацыі.

3. Конкурс з'яўляецца адкрытым, у ім прымаюць удзел беларускія і замежныя аўтары, міжнародныя аўтарскія калектывы вучоных, метадыстаў, настаўнікаў.

4. На конкурс прымаюцца рукапісы падручнікаў, вучэбна-метадычных камплектаў, дапаможнікаў для настаўнікаў і выкладчыкаў дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ, педагагічных вучылішчаў і ВНУ не толькі па традыцыйных прадметах, а і па тых, якіх няма ў вучэбных планах.

Тэматычныя рамкі конкурсу вельмі шырокія — будуць разглядацца любыя работы, якія можна выкарыстаць для паляпшэння выкладання гуманітарных прадметаў у школе і педагагічных ВНУ, гуманізацыі прадметаў прыродазнаўча-матэматычнага цыкла, а таксама ўводзін новых вучэбных прадметаў, звязаных з такімі галінамі, як **«Веды»**, **«Асоба»**, **«Грамадства»**, **«Культура»**, **«Духоўнасць»**, **«Пазнанне»**.

5. Тэрмін падачы заяўкі аб удзеле ў конкурсе заканчваецца 16 красавіка 1994 г. і вызначаецца па паштовым штэмпелі.

**Усе заявачныя матэрыялы прадстаўляюцца ў 3-х экземплярах.**

6. Аб'ём заяўкі не павінен перавышаць чатырох старонак машынапіснага тэксту, у якім неабходна прадугледзець:

1. назва будучага вучэбнага дапаможніка і яго мяркуемы аб'ём,

2. праблемную галіну і вучэбны прадмет,

3. канкрэтную ўзроставую групу і тып вучэбна-выхаваўчай установы, на якую яна разлічана,

4. асноўныя крыніцы напісання дапаможніка.

Разам з заяўкай павінны быць прадстаўлены:

1/. Анатацыя — 1 старонка.

2/. Абгрунтаванне актуальнасці будучага вучэбнага дапаможніка /1 старонка/.

3/. Пашыраны план-канспект рукапісу /0,5—1 д.а./.

4/. Адзін-два пробныя раздзелы /не больш за два друкаваныя аркушы/.

5/. Звесткі пра аўтараў /хатні адрас, месца работы, узрост, нумары службовага і хатняга тэлефонаў, напрамак навуковых даследаванняў/ **змяшчаюцца на асобным аркушы.**

6/. Кожны заявачны матэрыял, у тым ліку і звесткі пра аўтара, суправаджаюцца дэвізам.

7/. Тэрмін падачы матэрыялаў на конкурс:

1-ы тур — 16 красавіка 1994 г.,

2-і тур — 14 чэрвеня 1994 г.,

3-і тур — 7 красавіка 1995 г.

Да моманту заканчэння кожнага тура конкурсная камісія выносіць рашэнне па яго выніках і абвяшчае ўсіх удзельнікаў конкурсу.

Грант першага тура прадастаўляецца на 4 месяцы. Грант другога тура прадастаўляецца на шэсць месяцаў.

8. Вынікам першага і другога тураў конкурсу з'яўляецца прысуджэнне конкурснай камісіяй грантаў, вынікам трэцяга тура — публікацыя пробным тыражом /да трох тысяч экземпляраў/; а для лепшых рукапісаў — рэкамендацыя да выдання масавым тыражом з грыфам Міністэрства адукацыі Беларусі.

9. Памер гранта вызначаецца ў кожным выпадку індывідуальна ў працэсе субяседавання з удзелам прадстаўнікоў Фонду Сораса — Беларусь складае ў сярэднім 20 мінімальных зарплат штомесяц з улікам інфляцыі.

**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны:**
**прыёмная рэдакцыі** 332-461
**намеснікі галоўнага рэдактара** 332-525, 331-985
**аддзелы:**
**публіцыстыкі** 332-525
**пісьмаў і грамадскай думкі** 331-985
**літаратурнага жыцця** 332-462
**крытыкі і бібліяграфіі** 332-204
**паэзіі і прозы** 332-204
**музыкі** 332-153
**тэатра, кіно і тэлебачання** 332-153
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў** 332-462
**навін** 332-462
**мастацкага афармлення** 332-204
**фотакарэспандэнт** 332-462
**бухгалтэрыя** 268-640

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 30.12.1993 г.**

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

